

**Станіслаў Баніфацы Юндзіл,** *(6.05.1761 – 15.04.1847),*
*прыродазнавец, батанік, доктар філасофіі і тэалогіі.*
*Гравюра паводле малюнка К. Рыпінскага, 1850 г.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 54 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2011 г.**


## У НУМАРЫ:



***На першай старонцы выкладкі:** тапіярная фігура вярблюда каля Лідскай цэнтральнай бібліятэкі. Праект Івана Красачкі. Здымак Станіслава Судніка.*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік і навуковы консультант
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:

231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by



**Наклад 300 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 21**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2011 г.**
**Часопіс надрукаваны 12.03.2012 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 4840 руб.**
**індывід. 6 мес.- 9680 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**





ISSN 2218-1792

9 772218 179007 11002>

# Памяці Ірэны Стасевіч-Ясюковай



21 сакавіка 2011 года памерла доктар габілітаваны, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, кіраўнік Камітэта гісторыі навукі і тэхнікі Польскай акадэміі навук, аўтарка шматлікіх публікацый **Ірэна Стасевіч-Ясюкова**.

Нарадзілася ў **Лідзе** (1929?), адукацыю даатрымала ў **Беластоку**. Як прафесар Польскай акадэміі навук і Варшаўскага ўніверсітэта ўсё навуковае і даследчае жыццё звязала з Варшавай. Была ганаровым амбасадарам Падлесся ў Польшчы і за мяжой.

Як гісторык навукі займалася пераважна 18-м стагоддзем. Пад яе рэдакцыяй выйшла манументальная праца "Уклад піяраў у навуку і культуру ў Польшчы XVII-XIX ст."

Прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова з мужам Ежы Ясюком (Ежы Ясюк працаваў дырэктарам Музея тэхнікі ў Варшаве) сабрала найвялікшую ў Польшчы праз многія гады калекцыю пісанак (каля 2000 штук). Пра пісанкі, фарбаванкі, крашанкі, накляянкі, авяянкі, накрапянкі ведала, здаецца, усё. Калекцыя пачалася ад пісанкі, якую падарыў будучы муж, а зараз 1200 штук экспанатаў калекцыі выстаўлены ў асобным будынку ў Цеханаўцы. Выдала шэсць томікаў кніжак пра пісанкі, падрыхтавала сёмы, прысвечаны найрадчэйшым экзэмплярам. Заразіла ахвотай да збірання пісанак многіх сваіх дактарантаў.

Ірэна Стасевіч-Ясюкова была шчырым сябрам Беларусі, пачынаючы з 1992 года пастаянна наведвала Ліду і Беларусь. Супрацоўнічала з мясцовымі грамадскімі арганізацыямі, у першую чаргу з Таварыствам польскай культуры на Лідчыне, а таксама з Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Заснавала гістарычна-біяграфічную серыю "Знакамітыя палякі Лідчыны", але кнігі, якія выходзілі ў гэтай серыі былі пра ўраджэнцаў Лідчыны і Беларусі. Пачынаючы з 2-й кнігі пані Ірэна пастанавіла, каб кніжкі выходзілі на польскай і беларускай мовах, дзякуючы чаму шырокаму беларускаму чытачу сталі даступныя біяграфіі многіх выбітных лідзян. Выйшлі кнігі Паўла Камароўскага і Аляксандра Колышкі **"Людвік Нарбут. З гісторыі гістарычнай свядомасці палякаў на Лідскай зямлі"** (1999), Ядвігі Гарбоўскай і Кшыштафа Якубоўскага **"Ігнацій Дамейка (1802-1889)"** (2000), Ванды Грамбецкай **"Станіслаў Баніфацы Юндзіл (1761-1847)"** (2003), самой Ірэны Стасевіч-Ясюковай **"Казімір Нарбут (1738-1807)"** (2004), Ганны Мар'і Келяк **"Пра крэсавы гербарый Элізы Ажэшкі"** (2005), Яраслава Куркоўскага **"Мацей Догель (1715-1760)"** (2006), Ірэны Стасевіч-Ясюковай **"Ксёндз Станіслаў Роек (1908-1996). Незвычайная біяграфія нязломнага крэсавага каплана"** (2007), Яраслава Куркоўскага **"Бернард Сыруць (1731-1784)"** (2009), Мар'яны (Марыі) Магдалены Бломберг **"Вандалін Шукевіч. Сын Лідскай зямлі, даследчык і грамадскі дзеяч (1852-1919)"** (2010). Акрамя таго Ірэна Стасевіч-Ясюкова напісала і выдала кнігу **"Лідзянка. Пра Марыю Стасевіч - маю маму - успаміны"** (2008). Гэтыя кніжкі стварылі выдатную галярэю партрэтаў выбітных лідзян, а многія, падрыхтаваныя ўжо, чакаюць выхаду.

Пахавалі Ірэну Стасевіч-Ясюкову 30 сакавіка ў Варшаве. Вечная памяць слаўнай лідзянцы.









# КРОНІКА ЛІДЫ



22 сакавіка 2011 года на льнозаводзе ў Даржах запушчаны цэх па вытворчасці льнянога алею.



2 красавіка 2011 года каманда "Юнацтва" г. Ліды заняла 3-е месца ў турніры "Залатая шайба".

14 красавіка 2011 года ў Лідзе абарвалася нітка жыцця вядомага, руплівага і таленавітага краязнаўца, журналіста, шчырага змагара за беларускасць **Алеся Жалкоўскага**.



***Алесь Жалкоўскі***




У красавіку 2011 года ў Лідскай друкарні выйшла кніга **Ўладзіміра Дронава** "Не ведая покоя. Стихи", 160 ст., 200 ас.




У траўні 2011 года ў УІ "Выдавецкі дом ТБМ", г. Ліда, выйшла кніга лідскага паэта **Валерыя Мацулевіча** "Струны душы. Стихи". 60 ст., 100 ас.




У траўні 2011 года ў Лідзе адкрыўся рэстаран **"Гедымін"**.



2 чэрвеня 2011 года згодна з указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **"Ордэн маці"** ўручаны лідзянкам Валянціне Іванаўне Жук, Яніне Леанідаўне Анацка, Марыі Мікалаеўне Кулеш.



У чэрвені 2011 года ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь медалём “За працоўныя заслугі” ўзнагароджаны трактарыст Лідскага РУП ЖКГ **Іван Мялевіч**.



У чэрвені 2011 года ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 209 медалём “За працоўныя заслугі” ўзнагароджаны электраслесар філіяла “Лідскіх электрасетак” **Аляксей Міхайлавіч Пятровіч**.




У чэрвені 2011 года ў УІ “Выдавецкі дом ТБМ”, г. Ліда, выйшла кніга паэзіі лідскага паэта **Ўладзіміра Бурака** “Дарогі розныя бываюць”. 72 ст., 100 ас.




У чэрвені 2011года ў Лідскай друкарні выйшла кніга **Ўладзіміра Васько** “Кругаварот жыцця. Вершы”, 100 ст., 200 ас.




У чэрвені 2011 года ў УІ "Выдавецкі дом ТБМ", г. Ліда, выйшла кніга паэзіі **Станіслава Судніка** "Літва. Гістарычныя паэмы, балады, пераклады". 216 ст., 250 ас.




24 чэрвеня 2011 года ў Лідзе адкрылася VI прэзентацыя-выстава **"Ліда-рэгіён"**.



25 чэрвеня 2011 года ў Лідзе па вул. Качана адкрыўся спартова-аздараўленчы комплекс **"Алімпія"**.

# Тапіярнае мастацтва Ліды

Тапіярным завуць мастацтва фігурнай стрыжкі дрэў і кустоў з мэтай надання ім розных форм. Гісторыя тапіярнага мастацтва пачынаецца яшчэ ў старажытным Рыме (**topia**, *лац.* - упрыгожанне садоў), дзе высока шанавалася ўмелая стрыжка раслін. Майстар тапіярнага мастацтва, які ствараў сапраўдныя шэдэўры, карыстаўся славай і павагай.

Другое нараджэнне тапіярнае мастацтва перажывае ў эпоху Рэнесансу - у той час, калі адраджаюцца антычныя традыцыі, і адмысловая цікавасць праяўляецца да чалавека і ўсяго, зробленага яго рукамі. З'яўленне бардзюраў, арак, абвітых магутнымі ліянамі, зялёных пакояў, мудрагелістых лабірынтаў характарызуе тапіярны парк таго часу.

У 17-м стагоддзі тапіярная стрыжка шырока распаўсюдзілася ў Францыі. Тапіярныя фігуры скарыстоўваліся пры стварэнні рэгулярных ландшафтаў.

У 18-м стагоддзі тапіярная стрыжка дабралася да Рэчы Паспалітай, у тым ліку і да паркаў магнатаў Вялікага Княства Літоўскага.

У нашы дні тапіярнае мастацтва ўсё хутчэй набірае абароты. І гэта не дзіўна. Бо тапіярныя скульптуры - сапраўды пышнае відовішча. Тапіярныя сады заўсёды выглядаюць арыгінальна і з'яўляюцца гонарам кожнага садоўніка, які адважыўся на іх стварэнне.

У Беларусі распаўсюджванне тапіярнага мастацтва ўскладнена кліматычнымі ўмовамі, бо асартымент раслін, прыдатных для стрыжкі, даволі-такі абмежаваны. Ціс, граб, самшыт, бук, тапіярная стрыжка якіх шырока скарыстоўваецца ў садах і парках Заходняй





РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

ПАТЭНТ

НА КАРЫСНУЮ МАДЭЛЬ









Еўропы, могуць не выжыць ва ўмовах нашых адносна суровых зім.

Для большасці гарадоў Беларусі характэрна стрыжка кустоў у форме паралепіпеда ці куба і не больш. Дзе-нідзе можна ўбачыць шар або конус.

Для паскарэння працэсаў фармавання складаных тапіярных фігур прымяняюцца фігуры з кветак і раслін на гатовым тапіярным каркасе - бываюць канструкцыі металічныя і з торфа-сфагнумавым напаўненнем, у якія высаджваюць кветкавыя расліны. Жывуць фігуры з кветак ад аднаго сезону да пяці гадоў, у залежнасці ад таго, аднагадовыя гэта расліны або шматгадовыя, ад якасці догляду і ад клімату.

З 2009 года ў Лідзе побач з прымяненнем традыцыйнай абрэзкі дрэваў і кустоў, а таксама мастацкай высадкі кветак пайшлі на стварэнне перасоўных тапіярных фігур на аснове металічнага каркаса, што дазваляе выкарыстоўваць цёплалюбівыя расліны, у першую чаргу самшыт. На зіму гэтыя фігуры прыбіраюцца ў закрытае памяшканне.

Ідэя стварэння каркасных тапіярных фігур у Лідзе належыць начальніку Лідскай ЖКГ Сяргею Саўко, мастацкую распрацоўку першых фігур ажыццявіў выпускнік Менскай дзяржаўнай мастацкай вучэльні імя Глебава Іван Красачка. Выканалі фігуры ў матэрыяле работнікі “Зеленгаса” пад кіраўніцтвам Андрэя Ніціеўскага. Каркас тапіярнай фігуры - гэта не проста набор стоек і перакладзін. Каркас тапіярнай фігуры павінен вырашаць задачы формы, размяшчэння грунту, рэгулярнага паліву, ну і, канешне, утрымліваць усю канструкцыю. 18 лістапада 2009 года Сяргей Саўко, Андрэй Ніціеўскі і Іван Красачка падалі заяўку, а 15 чэрвеня 2010 года атрымалі “Патэнт на каркасную мадэль № 6562. Канструкцыя тапіярнай металічна-скульптурнай формы”. Трэба разумець, што Ліда аказалася ў гэтым пытанні на перадавых пазіцыях.

Практычную рэалізацыю тапіярных праектаў у Лідзе ажыццяўляюць на сёння многія людзі, у першую чаргу дызайнеры і рабочыя “Зеленгаса”. Для стварэння фігур прымяняецца традыцыйны самшыт, а таксама хрызантэмы, аксаміткі, віёлы.

*По матэрыялах, прадстаўленых адміністрацыяй Лідскага гарадскога парку артыкул падрыхтаваў* ***Станіслаў Суднік.***






# Лідскія юбіляры 2011 года

## БАТАНІК ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

### 250 гадоў з дня нараджэння Станіслава Баніфацыя Юндзіла



*“Батаніка - гэта найпрыгажэйшая частка натуральнай гісторыі,”* - так пісаў у праграме лекцый пра сваю галіну навукі, якой прысвяціў усё жыццё, Станіслаў Баніфацы Юндзіл (Дунін-Юндзіл), славуты сын Лідскай зямлі, прафесар Віленскага ўніверсітэта ў 1802-1824 гг. Менавіта ў роднай старонцы ён пачаў вывучаць батаніку. Пра гэтую навуку Юндзіл заўсёды - як у *“Дзённіку“,* так і ва ўступах да сваіх шматлікіх кніг - пісаў з захапленнем. Калі б Станіслаў Баніфацы ні быў на Лідчыне - ці вучнем, ці настаўнікам - ён заўсёды займаўся вывучэннем раслін і прысвечаных ім прац. Вынікам яго самастойнай адукацыі было *“Апісанне дзікарослых раслін у правінцыі ВКЛ, зробленае паводле сістэмы Лінэя ксяндзом Б.С. Юндзілам”* - першая навуковая, прагрэсіўная (як на тыя часы) праца па флоры аднаго з рэгіёнаў Рэчы Паспалітай. Яна выйшла ў Вільні ў 1791 г. і адкрыла аўтару дарогу на ўніверсітэцкую кафедру.

**Юндзіл Станіслаў Баніфацы** (6 траўня 1761-18.04.1847). Нарадзіўся ў з. Ясеніца (Ясенцы) Лідскага павету, цяпер Воранаўскага раёна, вучыўся ў 1774-1776 гг. у Лідскім піярскім калегіюме. Гувернёр у Сцыпіёнаў дэль Кампа ў Шчучыне, у 1785 г. у Шчучынскай піярскай вучэльні займаў пасаду галоўнага наглядчыка і настаўніка, там жа захапіўся батанікай і пачаў збіраць расліны. Доктар філасофіі, доктар багаслоўя, прафесар батанікі і заалогіі Віленскага ўніверсітэта апублікаваў працы: “Апісанне раслін у правінцыі Вялікага Княства Літоўскага” (1791), “Апісанне літоўскіх раслін паводле сістэмы Лінэя” (1811), “Заалогія”, часткі 1-3 (1807), “Прыкладная батаніка” (1799).



OPISANIE ROSLIN
W PROWINCYI W.X.L.
NATURALNIE ROSNĄCYCH
WEDŁUG UKŁADU
LINNEUSZA,
PRZEZ
X. B.S. JUNDZIŁŁA S.P.
w WILNIE 1791.

W Drukarni J.K. y Rzeplitey
u XX. PIAROW.

**Даты жыцця Станіслава Баніфацыя Юндзіла**

**1761** - нарадзіўся ў Ясенцах у Лідскім павеце, сын Бенедыкта Дунін-Юндзіла і Ружы з Даўгялаў;

**1774** - пачатак вучобы ў школе піяраў у Лідзе;

**1777** - пачатак паслушніцтва;

**1779** - прыняцце пострыгу; пачатак настаўніцкай працы — Расены;

**1781-1783** - філасофскі факультэту піярскай калегіі Вільні; курс хіміі ў Ю. Сарторыса;

**1783** - тэалагічны факультэт;

**1784** - Юндзіл атрымлівае прысвячэнне ў духоўны стан;

**1785** - пачатак працы ў школе ў Шчучыне, стварэнне навучальнага батанічнага саду; пачатак фларыстычных даследванняў;

**1787** - курс прыродазнаўства ў Г. Форстэра ў Віленскім універсітэце;

**1790** - Ст. Б. Юндзіл пачынае лекцыі прыродазнаўства ў Піярскай калегіі ў Вільні (па-польску, а не на лацінскай мове);

**1791** - выданне *"Апісання дзікарослыхраслін правінцыі ВКЛ паводле сістэмы Лінэя";*

**1792** - Ст. Б. Юндзіл атрымлівае ад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага медаль Merentibus;

**1792-1797** - замежнае падарожжа;

**1798** - доктарская дысертацыя па філасофіі; Юндзіл пачынае самастойныя лекцыі батанікі;

**1799** - выданне *"Прыкладной батанікі";* Ст. Б. Юндзіл пераймае Батанічны сад у Ф. Спіцнагеля;

**1801** - Ст. Б. Юндзіл становіцца членам Варшаўскага Таварыства сяброў навук;

**1802** - Ст. Б. Юндзілу прысвойваюць званне прафесара батанікі і заалогіі ў Віленскім універсітэце;

**1804** - выданне *"Асноў батанікі";*

**1805** - Ст. Б. Юндзіл становіцца членам Маскоўскага таварыства аматараў прыроды; выходзіць першы нумар "Віленскага кур'ера";

**1807** - Ст. Б. Юндзіла выбіраюць прэфектам кандыдатаў на настаўніцкую пасаду; выдаецца *"Кароткі нарыс заалогіі";*

**1811** - выдаецца *"Апісанне літоўскіх раслін";* Юндзіл становіцца членам Гаспадарчага таварыства ў Варшаве;

**1824** - выхад на пенсію; Ст. Б. Юндзіл перадае легат на навучанне двух вучняў з прозвішчам Юндзіл у піярскай школе;

**1825** - перадача Батанічнага саду Ю. Юндзілу;

**1826** - падарожжа ў Карлсбад - наведванне Батанічнага саду і Памалагічнага парку ў Варшаве і Батанічнага саду ў Вроцлаве;

**1827** - падарожжа ў Варшаву - знаёмства з Міхаілам Шубертам (дырэктарам варшаўскага Батанічнага саду);

**1835** - падарожжа ў Карлсбад;

**1847** - 12 кастрычніка Ст. Б. Юндзіл памірае ў Вільні. Пахаваны на Бернардзінскіх могілках.

У 2003 годзе ў Лідзе выйшла кніга Ванды Грамбецкай **"Станіслаў Баніфацы Юндзіл (1761-1847)"**.

З 2006 года Станіслаў Баніфацы Юндзіл з'явіўся ў беларускім дзяржаўным календары "Родны край", што сведчыць пра прызнанне яго заслуг перад краінай.

# Чалавек маўклівага сэрца: Якуб Міско

***Міско Якуб Герасімавіч*** *(1 чэрвеня 1911, Чамяры Слонімскага р-на - 23.10.1981, Менск) Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі (1925-28). Працаваў у галоўным сакратарыяце арганізацыі "Змаганне", у рэдакцыі "Беларускай газеты", быў чальцом тройкі Цэнтра нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі. Неаднаразова сядзеў у турмах. У лістападзе 1939 г. арыштаваны органамі НКУС. З студзеня да верасня 1940 г. працаваў у калгасе ў в. Чамяры, з кастрычніка 1940 да 22 чэрвеня 1941 г. - літсупрацоўнікам у рэдакцыі лідскай газеты "Уперад". Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Дэмабілізаваўся ў званні маёра. Вучыўся ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце (1948-49). Працаваў у рэдакцыях "Сельскай газеты" (1947-76) і часопіса "Камуніст Беларусі" (1976-81). Член Саюза журналістаў БССР (1958), "Заслужаны дзеяч культуры БССР" (1967).*



***Якуб Міско***

Калі я паступіў на першы курс Белдзяржуніверсітэта, у часопісе «Маладосць» (1980, № 9) з'явілася дакументальная аповесць майго земляка, пісьменніка і журналіста Якуба Міско «Было яно калісьці…». Я купіў часопіс і на адным дыханні прачытаў гэтую аповесць. У ёй Якуб Міско цікава апісваў свае дзіцячыя і юнацкія гады, беларускую Вільню, дзе вучыўся і сталеў, а таксама шчыра пісаў пра родную Слонімшчыну. А дзесьці ў 1989 годзе яшчэ адзін мой зямляк, доктар гістарычных навук Васіль Мялешка прыслаў мне верш Якуба Міско, які называўся



***Якуб Міско (злева) з братам***

Берліна дайшоў гвардыі маёрам з пяццю ордэнамі. Калі вярнуўся на Радзіму, паступіў і скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. Усё жыццё Якуб Міско адпрацаваў журналістам. З іх амаль 30 гадоў — у «Сельской газете». Пісаў не толькі журналісцкія матэрыялы, але і апавяданні, гумарэскі, артыкулы пра былых дзеячаў Заходняй Беларусі, рэцэнзіі на кнігі Максіма Танка, Янкі Брыля, Алеся Адамовіча, Міхася Машары, Віктара Касько. На беларускую мову перакладаў творы польскіх літаратараў. У “Сельской газете” шмат гадоў вёў вельмі папулярны сярод чытачоў калючы куток сатыры і гумару.

У 1967 годзе Якубу Міско было прысвоена званне заслужаннага дзеяча культуры Беларусі. Да апошніх сваіх дзён Якуб Герасімавіч шмат працаваў, сустракаўся са сваімі сябрамі. Журналіст М. Шыбаліс пісаў пра Якуба Міско: *«До последних дней он продолжал накапливать знания, много читал, пополнял свою богатую библиотеку. Доступный и общительный, любивший шутку, розыгрыш, дороживший дружбой с товарищами, он был твёрд и требователен в работе, прежде всего, к самому себе»* (Шибалис М. Голос молчаливого сердца // Сельская газета, 6 сакавіка, 1983).

Пасля смерці Якуба Міско (памёр 23 кастрычніка 1981 года) народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль сабраў яго лепшую спадчыну і выдаў асобнаю кнігай, якую назваў «Маё маўклівае сэрца». У першы раздзел кнігі ўвайшла дакументальная аповесць «Было яно калісьці…», а ў другі — нарысы, артыкулы і гумарэскі. Ва ўступным слове да кнігі Янка Брыль сказаў: *«Найлепш пісалася яму тое, што звязана з былой Заходняй Беларуссю, з яе горкай нядоляй, са слаўнай барацьбой яе лепшых сыноў і дачок за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У гэтай цікавай, высокакультурнай публіцыстыцы амаль усюды натуральна і неабходна прысутнічае аўтар — як актыўны ўдзельнік многіх галоўных падзей свайго часу, са сваім глыбінным веданнем прадмета, са сваёй ідэйнай перакананасцю, грунтоўна праверанай у выпрабаваннях на сталасць».* (Брыль Янка. Замест прадмовы // Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. Мн., 1983. С. 4.).

Такім да сённяшніх дзён і памятаюць майго земляка тыя яго маладзейшыя сябры, якія яшчэ жывуць, такім ён і застанецца ў памяці ўсіх беларусаў.

***Сяргей ЧЫГРЫН.***

«Наперад». Гэты верш гісторык знайшоў у архіве, ён друкаваўся ў 1926 годзе ў падпольным часопісе вучняў Віленскай беларускай гімназіі. Я параіў Васілю Іванавічу даслаць верш Якуба Міско ў «ЛіМ», што ён і зрабіў. І 6 кастрычніка 1989 года верш «Наперад» Якуба Міско быў надрукаваны на адной са старонак тыднёвіка. Гэты верш у той час заклікаў моладзь да шчаслівейшай долі, да барацьбы за лепшае жыццё:

*Наперад, да лепшае долі!*
*Наперад, да сонца, да зор!*
*Мы ў цемры не можам жыць болей,*
*Нам трэба святло і прастор!..*

Якуб Міско нарадзіўся 1 чэрвеня 1911 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павету ў сялянскай сям’і. Вучыўся ў пачатковай школе ў бежанстве ў Расіі.

А калі сям’я вярнулася ў Чамяры ў 1921 годзе, паступіў у Віленскую беларускую гімназію, адкуль яго за рэвалюцыйную дзейнасць некалькі разоў выганялі. Друкавацца пачаў у 1926 годзе ў падпольным часопісе вучняў гімназіі «Наперад». Публікаваўся ў польскіх газетах. У 1932-34 гадах працаваў у галоўным сакратарыяце арганізацыі «Змаганне», а потым у рэдакцыі віленскай «Беларускай газеты» (легальнае выданне КПЗБ). На працягу 1930-х гадоў Якуб Міско неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі, некалькі гадоў правёў у турмах. У лістападзе 1939 года разам з братам быў арыштаваны НКУС, але дзякуючы ўмяшанню П. Панамарэнкі, яго вызвалілі.

**Пасля вызвалення прыехаў у Ліду, дзе да пачатку вайны быў літсупрацоўнікам лідскай раённай газеты «Ўперад».**

Калі пачалася вайна, Якуба Міско забралі на фронт. Спачатку быў шараговым разведчыкам, а да

# УСЦІНОВІЧ АНАТОЛЬ КАНСТАНЦІНАВІЧ

**УСЦІНОВІЧ Анатоль Канстанцінавіч** нарадзіўся 6 траўня 1931 г. у Лідзе ў сям'і службоўцаў. Скончыў лідскую СШ (1951), Менскі медыцынскі інстытут з адзнакай (1957). Раённы педыятар і галоўны лекар Казлоўшчынскага раёна (1957-62), аспірант кафедры педыятрыі Менскага мединстытута (1962-65), старэйшы навуковы супрацоўнік БелНДІ аховы мацярынства і дзяцінства (1965-68), галоўны педыятар Міністэрства аховы здароўя БССР (1968-78), дырэктар БелНДІ АМД (1978-97).

Кандыдат медыцынскіх навук (1967), дацэнт кафедры неанаталогіі (1983). Аўтар больш, чым 130 навуковых прац, 8 зборнікаў навуковых прац, 6 вынаходстваў. У 1979 г. пад яго рэдакцыяй выпушчаны першы ў СССР даведнік па педыятрыі (перыяд нованароджанасці), для лекараў-неанатолагаў. Суаўтар манаграфіі "Арганізацыя медыцынскай дапамогі дзецям" (1979). У 1984 г. пад яго рэдакцыяй выдадзены адмысловы даведнік лекара-педыятара па пытаннях арганізацыі медыцынскай дапамогі дзецям.

Прымаў удзел і выступаў з навуковымі дакладамі на шматлікіх замежных, усесаюзных, рэспубліканскіх з'ездах, канферэнцыях, семінарах, сімпозіюмах. На працягу многіх гадоў з'яўляўся чальцом прэзідыюма кіравання Ўсесаюзнага таварыства дзіцячых лекараў, намеснікам старшыні навуковага таварыства педыятараў БССР, чальцом Прэзідыюма УМС МАЗ БССР, чальцом рэдакцыйнай калегіі часопіса "Ахова здароўя", чальцом іншых таварыстваў і саветаў Беларусі і Савецкага Саюза.

Пад яго кіраўніцтвам абаронены 10 кандыдацкіх дысертацый. Дасведчаны арганізатар аховы здароўя, унёс вялікі ўклад у станаўленне службы перынаталогіі і педыятрыі ў Беларусі. Па яго ініцыятыве ў 1981 г. пры БелДІУВ арганізаваная кафедра неанаталогіі, на базе якой у НДІ АМД створаная клінічная ардынатура па неанаталогіі. Праца кафедры ў цесным кантакце з НДІ і клінічнай базай спрыяла ператварэнню БелНДІ АМД у буйны нацыянальны вучэбна-навукова-практычны цэнтр у вобласці перынаталогіі і станоўча паўплывала на развіццё педыятрычнай навукі, паляпшэнне працы ўсёй службы аховы мацярынства і дзяцінства. Узначалены ім інстытут неаднаразова займаў прызавыя месцы сярод НДІ сістэмы Міністэрства аховы здароўя СССР, адзначаўся Дыпломамі і медалямі ВДНГ СССР.



Узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, Ганаровымі граматамі Міністэрства аховы здароўя СССР, БССР, Рэспублікі Беларусь, значком "Выдатнік аховы здароўя". Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984) за комплекс работ па ахове здароўя дзяцей.

---

# САРОКА УЛАДЗІМІР АНДРЭЕВІЧ

**САРОКА Уладзімір Андрэевіч,** нарадзіўся 20.6.1931 г. у в. Місуры Дакудаўскай гміны, цяпер Лідскага р-на. У 1951 г. скончыў Бердаўскую СШ з сярэбраным медалём. Пасля заканчэння ў 1956 г. філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта — карэктар лідскай аб'яднанай газеты «Ўперад». У 1957—1971 гг. на рэдактарскіх пасадах у выдавецтвах «Народная асвета» і БДУ імя Леніна. Затым быў намеснікам начальніка аддзела навуковых кадраў Прэзідыюма АН БССР. У 1973- 1974 гг. галоўны рэдактар выдавецтва «Вышэйшая школа». З сакавіка 1974 па канец 1991 г. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. У 1992-2002 гг. - старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС. Размаўляў толькі па-беларуску.

У 1977 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю. Ім апублікавана звыш 30 навуковых артыкулаў і рэцэнзій аб гістарычнай лексікалогіі беларускай мовы і асобных пытаннях гісторыі Беларусі. Для сярэдніх школ стварыў 6 вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове і літаратуры. На яго рахунку звыш 40 перакладаў кніг на беларускую мову, больш як 100 апублікаваных прац.

Выдаў "Руска-беларускі слоўнік справаводнай і архіўнай тэрміналогіі. Беларуска-рускі слоўнік справаводнай і архіўнай тэрміналогіі" (1997). "Слоўнік асабовых імён" (2000). Узнагароджаны Ганаровай граматай ВС БССР (1981).



# ПОЛЯ РАКСА

**РАКСА Поля** (у замужжы Ракса-Кастэнка) нарадзілася 14 красавіка 1941 г. у Лідзе. Дом сям'і Раксаў стаяў на вул. Шырокай. У 1943 г. бацькі Полі пакінулі Ліду, пакінуўшы свой дом на волю лёсу. Пасля вайны сям'я пасялілася ва ўроцлаўскай Лесніцы. В 1964 Поля Ракса закончыла Лодзінскую школу мастацтваў (спачатку яна вывучала паланістыку ва ўніверсітэце Ўроцлава, але кінула) і выйшла на сцэну мясцовага тэатра "Усеагульны" ("Паўшэхны"), дзе адпрацавала чатыры гады. В 1968 актрыса пераехала ў Варшаву і да 1986 года выступала ў тэатры "Сучасны" ("Вспулчэсны"). У апошні час займалася модай. Выконвала лірычна-драматычныя і камедыйныя ролі.

Але найбольш поўна талент Полі Раксы раскрыўся ў кіно. Яна літаральна ўварвалася ў кінаматограф. Яе дэбют адбыўся ў 1960 годзе, і адразу галоўная роля. Гэта была Марыся ў "Рэчаіснасці" рэжысёра і педагога Анджэя Бадзевіча, які ўзначальваў кафедру рэжысуры ў Лодзінскай школе, і ў якога дэбютавалі многія студэнты акцёрскага аддзялення. Затым пайшоў цэлы шэраг цікавых роляў. Усе 60-я гады Поля здымалася, як правіла, ў дзвюх карцінах адначасова. Здымалася ў мастацкіх кінафільмах: "Сатана з 7 класа", "Клуб кавалераў", "Іх будні", "Чатыры танкісты і сабака" (серыял), "Блакітны пакой", "Пагоня за Адамам", "Беата", "Мяцеліца", "Накцюрн", "Зося", "Шнар", "Сымон Ступнік", "Арыя для атлета" і інш.

У 1964 годзе знялася ў фільме Войцеха Хаса «Рукапіс, знойдзены ў Сарагосе».

У 1965 годзе знялася ў негалоўнай ролі ў фільме А. Вайды «Попел» — складанай экранізацыі рамана С. Жаромскага, аднак гэта цяжка назваць сурьёзнай драматычнай роллю, таму што Ракса аказалася ўсяго толькі адной, прытым далёка не самай яркай фарбай у шматколернай рэжысёрскай палітры карціны, якая аналізуе вострыя праблемы польскай гісторыі.



У 1967 годзе выканала галоўную ролю ў фільме кінарэжысёра Міхаіла Сінаевіча Богіна «Зося». Фільм быў зняты па апавяданні пісьменніка Ўладзіміра Багамолава. За гэтую ролю яна была ўганаравана пры-



зам часопіса «Советский экран» на Міжнародным кінафестывалі ў Маскве.

Аднак ужо ў 70-х плынь роляў рэзка зменшылася, а ў 80-х і зусім перасохла. Апошняй работай Полі Раксы ў кіно стала меладраматычная камедыя "Спакушэнне Агаты" Марака Півоўскага.

За сваю тэатральную дзейнасць актрыса атрымала некалькі ўзнагарод: "Лаўрэат прэміі II тэлевізійнага фестываля драматычных тэатраў за ролю ў спектаклі «Рамэа і Джульета» (1965), лаўрэат прэміі «Срэбная маска» (1967, 1969, 1970), Кавалер ордэна "Залаты крыж" (1974), "Заслужаны дзеяч культуры" Польшчы (1978).

Папулярнасць актрысы ў нашай краіне звязана перш за ўсё з яе ролямі ў савецкіх стужках «Накцюрн» (1966) і «Зося» (1967), дзе яна сыграла простых і кранальных дзяўчатак ваеннага часу, а таксама дзякуючы ўдзелу ў падобным па тэматыцы звышпапулярным ў СССР тэлесерыяле «Чатыры танкісты і сабака» (1966—1969).

**Фільмаграфія:**

"Рэчаіснасць" ("Rzeczywistosc", Марыся, 1960 г.);
"Чарцяня з сёмага класа (Ванда, 1960 г.);
"Клуб кавалераў" ("Klub kawalerow", Марыня, 1962 г.)
"Іх будні" (Гражына, 1963 г.);
"Разводаў не будзе", серыя "Здарэнне II" (Rozwodow nie bedzie odc. Zdarzenie II, Крыся, 1963 г.);
"Беата" (Беата Класовіч, 1964 г.)
"Дзяўчына ў акенцы" (Гедвіга - Марыся Каліноўская, выхаванка ¨гана Шульца, 1964 г.)
"Рукапіс, знойдзены ў Сарагосе" (Інезілья, 1964 г.);
"Капітан Сава ідзе па следу" (серыял, Зузанна Гаўлік, 1965 г.);
"Незвычайныя аповесці", серыя "Блакітны пакой" ("Opowiesci niezwykie odc. Blekitny pokoj, Ізабэла, 1965 г.)
"Попел" (Алена дэ Віт, 1965 г.)
"Біч божы" ("Bicz bozy", Ганя, каханая Паўла, 1966 г.)
"Чатыры танкісты і сабака" (Маруся-«Аганёк», 1966 г.)
"Накцюрн" "Noktirne", Івета, 1966 г.);
"Зося" (1967 г.)
"Парыж-Варшава без візы" (Эльжбета, 1967 г.);
"Чатыры танкісты і сабака" (Маруся-«Аганёк», 1968 г.);
"Прыгода з песенькай" ("Przygoda z piosenka, Марыёла Бронская, 1968 г.);



“Чатыры танкісты і сабака” (Маруся-«Аганёк», 1969 г.);
“Чатыры танкісты і сабака” (Маруся-«Аганёк», 1970 г.);
“Сымон Ступнік” (“Oszlopos Simeon”, 1970 г.);



“Пагоня за Адамам” (“Pogon za Adamem”, Кама, у Паўднёвай Амерыцы Зофія Заблоцкая, 1970 г.)
“Мяцеліца” (“Sniezyca”, парашутыстка, 1973 г.);
“Арыя для атлета” (“Aria dla atlety”, Цэцылія, жонка Гуралевіча, 1979 г.);
“Нічога не перашкаджае”, (“Nic nie stoi na przeszkodzie”, Ірэна, жонка Паўла, 1980 г.);
“Страчаныя ілюзіі” (“Stracone zludzenia”, суседка, 1982 г.);
“Цюльпан”, ТВ-серыял, серыя 6 (“Tulipan”, serial TV odc. 6, Барбара Кубіцкая, 1986 г.);
“Спакушэнне Агаты” (“Uprowadzenie Agaty”, маці Агаты, 1993 г.).

---

# ЦЫБУЛЬСКАЯ МАЙЯ ЭЛЬЖБЕТА

**ЦЫБУЛЬСКАЯ Майя Эльжбета**, польская паэтка і літаратурны крытык. **Нарадзілася ў Лідзе** 8 траўня 1941 г. Скончыла Варшаўскую гімназію і факультэт польскай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Абараніла доктарскую дысертацыю “Аб аповесцях Івашкевіча” (1964), праходзіла стажыроўку ў Оксфардзе. З 1969 г. пражывае ў Лондане. Прафесар Польскага ўніверсітэта на чужбіне і супрацоўніца выдання “Bibliography of Books in Polish”. Дэбютавала ў 1976 годзе на старонках штотыднёвіка “Ведамасці” (Лондан) як літаратурны крытык.




Аўтар паэтычнай кнігі “Лірычныя спробы” (1982), літаратурна-крытычных даследаванняў “Тэмы і пісьменнікі”, “Вацлаў Іванюк, паэт” (1984), “Пацверджанае існаванне. Архіў Стэфаніі Загорскай”, “Размовы са Станіславам Лівам” (1990).

# Макарэвіч Аляксандр Фёдаравіч

**МАКАРЭВІЧ Аляксандр Фёдаравіч**, дацэнт кафедры паліталогіі БІП, кандыдат гістарычных навук.

Нарадзіўся 27 красавіка 1961 г. у г. Лідзе. Скончыў Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт (1984). У 1988 – 1995 гадах старшы навуковы супрацоўнік Цэнтральнага партыйнага архіва КПБ, загадчык аддзела ЦК ЛКСМБ, намеснік дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы. З 1995 года намеснік начальніка ўпраўлення справаводства Адміністрацы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 2000 – начальнік канцылярыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 2002 – начальнік галоўнага ўпраўлення Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. У цяперашні час з'яўляецца дацэнтам кафедры паліталогіі Беларускага інстытута правазнаўства.

Абараніў кандыдацкую дысертацыю па гісторыі ў 1988 г. Тэма дысертацыі "Руководство Компартии Белоруссии патриотическим движением трудящихся по сбору средств для обороны страны в годы Великой Отечественной войны (1941-1945 гг.)". Асноўныя кірункі даследаванняў – гісторыя, справаводства, архіва- і крыніцазнаўства Беларусі. Аўтар болей, чым 70 навуковых і навукова-публіцыстычных прац, адной манаграфіі, а таксама шматлікіх артыкулаў у перыядычным друку. Распрацоўвае пытанні гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, камсамолу Беларусі і прафсаюзнага руху Беларусі, пытанні палітычных рэпрэсій у ЛКСМБ. Аўтар дакументальных нарысаў пра палітычных дзеячоў А. Смоліча, Ю. Пілсудскага. Адзін з аўтараў і складальнікаў зборнікаў дакументаў і матэрыялаў мерапрыемстваў з удзелам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Творы:**

**1995 г**. Макаревич Александр Федорович. В фонд победы: патриотическое движение трудящихся Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941-145 гг.) / Под ред. Павлова Я.С.; Белорус. науч.-исслед. центр документоведения, археографии и архивного дела (БелНИЦДААД).




**2005 г.** Федерация профсоюзов Беларуси. Совет. Пленумы (1-5 ; 2002-2005; Минск). Сильные профсоюзы - на службу народу!: материалы I-V пленумов Совета Федерации профсоюзов Беларуси (2002-2005 гг.) / Федерация профсоюзов Беларуси; редкол.: А.Ф. Макаревич, И.Л. Каганец, Т.Н. Соболева; [фото Д.В. Миронюка.




**2005 г.** История профсоюзного движения Беларуси / П.Г. Давидюк [и др.]; под ред. Леонида Петровича Козика; Федерация профсоюзов Беларуси.

---

# ЮРЫ КАРЭЙВА



**КАРЭЙВА Юры Іванавіч** нарадзіўся ў Лідзе 29 траўня 1961 г. Скончыў СШ № 4 і філалагічны факультэт Гарадзенскага ўніверсітэта (1995). Вучыўся пры касцёле Святога Духа ў Вільні тэалогіі (1990-91) і ў Сучасным Гуманітарным Універсітэце на юрыдычным факультэце (1997-98). Выкладаў літаратуру, катэхізіс і рэлігіязнаўства. Публікаваўся ў рэспубліканскім і мясцовым друку, у зборніках паэзіі "Шлях", "Кола", "Ад лідскіх мuроў".

Рэдагаваў № 5 часопіса "Ад лідскіх муроў".

Святла гаючага выток -
Глыток
жывільнай ласкі
сонечнай...
¨сць міг жыцця -
І ёсць радок,
адчайна просты,
сённяшні

¨сць гэты дзень -
мой дзень зямны!...
Мне лёсам ён
адведзены,
мне з ім -
ад звадаў
і маны
ісці
ў жыцця адведзіны.

***Ю. Карэйва.***

# Лідскія баяры ў “Актах Віленскай камісіі...”



АКТЫ

ИЗДАВАЕМЫЕ

ВИЛЕНСКОЮ КОММИССІЕЮ

ДЛЯ РАЗБОРА ДРЕВНИХЪ АКТОВЪ.

Томъ XXIV.

АКТЫ О БОЯРАХЪ.

ВИЛЬНА.

Типографія А. Г. Сыркина, Большая улица, собственный домъ, № 88.

1897.

**Акты Віленскай камісіі,** Акты Віленскай археаграфічнай камісіі (АВК, АВАК), серыя публікацый дакументаў па гісторыі Беларусі, Украіны і Літвы 14-19 ст. (т. 1-39, Вільня, 1865-1915). Назва серыі мянялася: «Акты, издаваемые археографическою комиссиею, высочайше учрежденною в Вильне» (т. 1-2), «Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею» (т. 3-19), «Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов» (т. 20-39). Мела на мэце сцвердзіць справядлівасцьдалучэння Беларусі і Літвы да Расійскай Імперыі, прапагандаваць ідэю пра «спрадвечна рускі» характар ВКЛ. Змяшчае дакументы па палітычнай, сацыяльна-эканамічнай, царкоўнай гісторыі, этнаграфіі, пра канфесіянальную сітуацыю ў Беларусі і Літве, стан прававаой культуры, побыт насельніцтва. Большасць крыніц публікавалася ўпершыню. Надрукаваны матэрялы гарадзенскага, берасцейскага і слонімскага земскіх судоў, гарадзенскага, менскага і берасцейскага гарадскіх судоў, магістратаў Берасця, Кобрына, Камянца, Магілёва, Вільні, (т. 1-6, 17, 21, 22, 36, 39), акты і дэкрэты Трыбунала ВКЛ за 1398-1794 (т. 12, 13, 15), акты копных судоў (т. 18). Асобныя тамы прысвечаны гісторыі царквы (т. 16, 33). Змешчаны інвентары феадальных уладанняў са звесткамі па гісторыі населеных пунктаў, сельскагаспадарчай вытворчасці, павіннасцях сельскага насельніцтва, яго забяспечанасці асноўнымі сродкамі вытворчасці і інш. (т. 14, 25, 35, 38). Асобныя тамы прысвечаны становішчу яўрэяў (т. 28, 29), татараў (т. 31) у ВКЛ. Уключаны матэрыялы пра вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654-67 (т. 34), вайну 1812 (т. 37). Падаюцца звесткі пра развіццё прамысловасці,сельскай гаспадаркі, культуры, узровень жыцця розных катэгорый насельніцтва, распаўсюджанне беларускай мовы на тэрыторыі ВКЛ.

Адзіныя правілы выдання дакументаў адсутнічалі, матэрыялы рыхтавалі часам малакваліфікаваныя даследчыкі, некаторыя дакументы значна адрозніваюцца ад арыгіналу. Старабеларуская мова шэрагу дакументаў не захоўвалася, падганялася пад правілы рускай мовы. Тэкст мае шмат друкарскіх памылак, загалоўкі і каментары, асабліва да дакументаў на польскай і лацінскай мовах, не заўсёды адпавядаюць зместу арыгінала. Нягледзячы на недахопы, серыя мае вялікую каштоўнасць як крыніца па гісторыі ВКЛ. Надрукаваныя дакументы цяпер зберагаюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы і Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Менску.

24-ты том, які называецца “Акты о боярахъ”, утрымлівае ў тым ліку і тры дакументы, якія тычацца лідскіх баяр. Асаблівую цікавасць для нас мае акт № 141 1560 года “Раследаванне аб шляхочых правах баяр Круповічаў”, які ўтрымоўвае радаводы, што паходзяць ад рэальнага баярына Крупаса, які быў разам з Вялікім князем Вітаўтам у Прусіі, падчас міжусобнай вайны, але з-за даўнасці часу стаў легендарным. Крупас лічыцца легендарным заснавальнікам Крупы (цяпер в. Крупава Лідскага р-на), а пяты сын Крупаса Міцка ў польскай гістарыяграфіі лічыцца легендарным заснавальнікам роду Міцкевічаў.

Пры дэшыфроўцы актаў, адаптацыі іх да сучаснай беларускай мовы, пры наборы і рэдагаванні ў тэкстах дэшыфроўкі маглі ўзнікнуць і застацца не заўважанымі пэўныя недакладнасці і скажэнні, таму мы прыводзім факсімільныя копіі саміх актаў і тэксты дэшыфровак, каб чытач самастойна мог зверыць дэшыфроўку з арыгіналам і, калі будзе падстава, мог паправіць дэшыфроўшчыка.

**№ 42.—1529 г. Января 28.** *Подтвердительная грамота короля Сигизмунда I боярамъ Іочамъ на островъ Минвидишки.*

Roku tysiąc siedmset dziewięćdziesiąt siodmego, miesiąca Septembra dwódziestego piątego dnia, v. s.

Na sądach grodzkich powiatu Lidzkiego, w mieście Lidzie na zwykłym mieyscu porządkiem prawa agituiących się, przed nami Joachimem Narbutem — prezydentem, Apolinarym Adamowiczem, Benedyktem Skinderem — sędziami, Jozefem Laskowiczem — pisarzem, urzędnikami grodzkiemi powiatu Lidzkiego osobisto stanąwszy wielmożny iegomość pan Ignacy Jocz, regent podkomorski powiatu Lidzkiego przywiley nayiasnieyszego Zygmunta króla Polskiego, konfirmuiący nadanie nayiaśnieyszego króla Kazimierza na ostrowek Minwidziszcze ichmościom panom Pietkowi, Michnie y Janowi Joczom, w roku tysiąc pięcset dwódziestym dziewiątym, Januarij dwódziestego osmego dnia wydany, po rusku pisany, ad acta podał w następnych zawarty wyrazach: Жыкгимонтъ Божью милостью король Польский, великий князь Литовский, Руский, Пруский, Жомоитский, Мазовецкий и иныхъ. Били намъ чоломъ бояре Троцкого повету, Коневское волости, на име Петко Станковичъ з братьею своею Михномъ а Яномъ и вказывали передъ нами листъ отца нашого славное памяти Казимера, короля его милости, што отецъ нашъ писалъ до тивуна Дубицкого и Коневского пана Юндила на чоломъ битье отца ихъ Станя Іочевича, ижъ ихъ братовъ пять, а отчину свою малу мели и не мели на чомъ мешкать, абы ему завесть лесу нашого в Коневе, где бы онъ мелъ, проробивши, на сыромъ корени сести, и казалъ ему с того служить боярскую службу, какъ братья его з отчизны служатъ. Какъ же дей панъ Юндилъ на писанье отца нашого завелъ отцу ихъ лесу нашого в Коневе островъ на имя Минвидище, и отецъ дей ихъ тотъ островъ собе проробилъ и тамъ мешкалъ и намъ с того службу служилъ ажъ до смерти своей, и ихъ сыновъ своихъ на томъ зоставилъ и они дей и до сихъ часовъ держатъ то за тымъ листомъ отца нашого во впокою. А такъ били намъ чоломъ, абыхъмо имъ на то дали нашъ листъ и тую данину отца нашого потвердили имъ нашимъ листомъ. Ино кгдыжъ отецъ нашъ росказалъ пану Юндилу пущы отцу ихъ в Коневе завести и тамъ ему велелъ сести и служити службою боярскою и панъ Юндилъ завелъ ему тотъ островъ и будетъли отецъ ихъ за тымъ листомъ тотъ островокъ проробивши держалъ . . . . . . сынове его держатъ во впокои, мы, выслухавши листу отца нашого, на ихъ чоломъ битье то вчинили, на то дали имъ сесъ и нашъ листъ и потвержаемъ то имъ симъ нашимъ листомъ, нехай они тотъ островокъ, пресеченье отца своего Минвидишки держатъ и уживаютъ со всимъ с тымъ, какъ ся тотъ островокъ здавна в собе маетъ и какъ будетъ отецъ ихъ держалъ и водле заведенья пана Юндилова; а маютъ намъ с того служити боярскую службу по тому, какъ и отецъ ихъ служивалъ и водлугъ листу отца нашого Казимера, короля его милости. Писанъ у Вильни подъ лето Божого нароженья тысеча пятьсотъ двадцать девятое, месеца Генвара дватцать осмого дня, индикта второго. U tego przywileiu przy wycisnioney pieczęci podpis takowy: L. S. Горностай—писаръ. Ad haec konnotata na zatyłku tego przywileiu w te słowa: Roku tysiąc sześćset pięddziesiąt czwartego, dnia pierwszego Junij. Czasu prawa ten przywiley był pokładany. I. Kuncewicz — podkomorzy Lidzki, kommissarz iego królewskiey mości. Mateusz Bychowiec — kommissarz iego królewskiey mości. Takowy confirmationis przywiley za podaniem onego przez wyrażoną w górze osobę do akt iest do xiąg grodzkich spraw wieczystych powiatu Lidzkiego przyięty y wpisany.

*Изъ актовой книги Лидскаго гродскаго суда за 1797—1800 годы, № 5411, л. 193—4.*

**№42.-1529 г. Студзеня 28. Пацвярджальная грамата караля Жыгімонта І баярам ¨чам на востраў Мінвідзішкі.**

*Года тысяча семсот дзесяноста сёмага, месяца верасня, дваццаць пятага дня, v. s.*

*На судах гарадскіх Лідскага павету ў горадзе Лідзе на звыклым месцы на парадак права спасылаючыся, перад намі Яўхімам Нарбутам – прэзідэнтам, Апалінарам Адамовічам, Бенядыктам Скіндарам – суддзямі, Юзафам Лясковічам – пісарам, урадоўцамі гарадскімі Лідскага павету, асабіста стаўшы, вяльможны егамосць пан Ігнацы ¨ч, падкаморскі рэгент Лідскага павету падаў прывілей найяснейшага Жыгімонта, караля польскага, які пацвярджае наданне найяснейшага караля Казіміра на астравок Мінвідзішча іх мосцям панам Петку, Міхне і Яну ¨чам у тысяча пяцьсот дваццаць*

*дзевятым годзе, студзеня дваццаць восьмага дня выдадзены, па-руску пісаны ў наступных выразах:*

“Жыгімонт, Божай міласцю кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі, мазавецкі і інш. Білі нам чалом баяры Троцкага павету, Конеўскай воласці, па імені Петка Станкавіч, з братамі сваімі Міхнам і Янам і паказвалі перад намі ліст бацькі нашага, слаўнай памяці Казіміра, караля яго міласці, што бацька наш пісаў да цівуна Дубіцкага і Конеўскага пана Юндзіла на чолам біце бацькі іх Станя ̈чавіча, што іх братоў пяць, а вотчыну сваю малую мелі і не мелі на чым жыць, каб яму адвесці лесу нашага ў Коневе, дзе б ён меў, прарабіўшы, на сырым корані сесці, і казаў яму з таго служыць баярскую службу, як браты яго з вотчыны служаць. Калі ж пан Юндзіл на пісанне бацькі нашага адвёў бацьку іхняму лесу нашага ў Коневе, востраў з назвай Мінвідзішча, і бацька іхні той востраў сабе прарабіў, і там жыў, і нам з таго службу служыў аж да смерці сваёй, і іх сыноў сваіх на тым пакінуў, і яны і да гэтых часоў трымаюць тое па тым лісце бацькі нашага ў спакоі. А паколькі білі нам чалом, каб ім на гэта далі наш ліст і тую даніну бацькі нашага пацвердзілі ім нашым лістом. І паколькі бацька наш загадаў пану Юндзілу пушчы бацьку іхняму ў Коневе адвесці і там яму загадаў сесці і служыць службаю баярскаю, і пан Юндзіл адвёў яму той востраў, і паколькі бацька іхні паводле таго ліста той астрвок прарабіўшы трымаў ... сыны яго трымаюць у спакоі. Мы, зважаючы на ліст бацькі нашага, на іх чалом біцце гэта ўчынілі, на тое далі ім і наш ліст і пацвярджаем гэта ім гэтым нашым лістом. Няхай яны той востраў, высечку бацькі свайго Мінвідзішкі трымаюць і спажываюць з усім з тым, што той астравок здаўна ў сабе мае, як і бацька іх трымаў паводле адвядзення пана Юндзіла, і маюць нам з таго служыць баярскую службу так, як і бацька іх служыў паводле ліста бацькі нашага Казіміра, караля яго міласці. Пісаны ў Вільні пад лета Божага нараджэння тысяча пяцьсот дваццаць дзявятае, месяца студзеня, дваццаць восьмага дня, індыкта другога”.

*У таго прывілея пры выцісненай пячатцы подпіс такі:* Л.С. Гарнастай-пісар. *Ad haec konnotata на адвароце тога прывілею паступныя словы:* “Года тысяча шэсцьсот пяцьдзесят чацвёртага, дня першага чэрвеня. У адпаведнасці з правам гэты прывілей быў пакладзены. І. Кунцэвіч – падпаморы Лідскі, камісар яго каралеўскай мосці. Матэвуш Быхавец - камісар яго каралеўскай мосці. Гэты пацвярджальны прывілей пры паданні яго пазначанай вышэй асобай да кніг гарадсіх спраў вячыстых Лідскага павету прыняты і ўпісаны.”

*З актавай кнігі лідскага гарадскога суда за 1797 – 1800 гады. № 5411, арк.193-4.*

---

**№ 141.—1560 г. Августа 23.** ***Разслѣдованіе о дворянскихъ правахъ бояръ Круповичей.***

Roku tysiąc siedmset dziewięćdziesiąt siodmego, miesiąca Septembra dwudziestego czwartego dnia v. s.

Na urzędzie Jego Imperatorskiey mosci przed aktami ziemskiemi powiatu Lidzkiego, stanąwszy obecnie iegomość pan Wawrzyniec Fietkiewicz takowy dekret do akt podał, ktorego wyrazy następne: Видимусъ з книгъ земскихъ справъ вечистыхъ повету Лидского. Лета од нарожения Сына Божего тысеча шестьсотъ тридцать осмого, месеца Генвара двадцать пятого дня. На рокахъ судовыхъ земскихъ в семъ року вверху на дате писаномъ о трехъ кроляхъ святе римскомъ в Лиде одправовать зачатыхъ передъ нами врадниками судовыми земскими повету Лидского Самуелемъ Кунцевичомъ — судьею, Адамомъ Овсянымъ— подсудкомъ, Якубомъ Кунцевичомъ—писаромъ, старостою Конявскимъ и Дубенскимъ, постановившысе очевисто у суду земянинъ господарский повету Лидского панъ Александеръ Круповичъ покладалъ и ку актыкованью подалъ листъ ихъ милостей пановъ комисаровъ одъ славное памети короля его милости Зыгмунта Августа зосланыхъ, а в середине того листу нижей имены помененыхъ належачій ихъ милостемъ паномъ Круповичомъ и участникомъ ихъ на речъ в немъ нижей описаную, который тотъ листъ передъ нами врадомъ положивши, просилъ, абы былъ до книгъ земскихъ Лидскихъ уписанъ, актыкованъ, кторы уписуючы в книги слово до слова такъ се в собе маетъ: За розказанемъ господара нашого короля его милостя и великого князя Зыгмунта Августа посланы будучы на тые справы одъ его королевской милости, мы комисары господарские Янъ Шынковичъ—маршалокъ и писаръ господарский, староста Тыкотинский, Грыгорый Воловичъ—староста Мстибовский, городничый Городенский, державца Ейшыский,—Огармиский, Конявский и Дубицкий и Зельвенский, а Размусъ Довгердъ—дворанинъ господарский короля его милости, з розказаня тежъ господарского на тотъ часъ вышли при нимъ ревизоры его королевской милости дворовъ повету Троцкого панъ Станиславъ Равский—державца Лидский, Сымненский и Немонский, а панъ Семенъ Война—дворанинъ господарский, смотрели есмо того дела за мандатомъ господарскимъ: — Стояли передъ нами очевисто бояре Радунские на име

Петрашко Бартошевичъ, Миколай Сенковичъ, Лавринъ Пядевичъ, Матей Радвиловичъ Круповичы ижъ имъ дана вина, якобы они мели быти з народу простыхъ людей, а не шляхта; они справуючысе того, положили передъ нами листъ Александра короля его милости, в которомъ пишетъ, ижъ Якубъ Круповичъ, а Миколай Метгиновичъ, а Янъ Ромайковичъ з братьею своею поведили, ижъ дедъ ихъ Крупосъ служилъ великому князю Витольду и былъ з нимъ на службе в немчахъ; князь великий Витольдъ за его службу вызволилъ того Крупоса со всихъ службъ и потяглей и подачковъ и листъ дей былъ ему на то свой далъ и на дети; тотъ листъ в огне згорелъ, то панъ вжо после великого князя Витольда некоторые люди Радунцы на име Бастуны почели были ихъ притягивати и к собе в службу и в инщые потяглы передъ воеводою Троцкимъ паномъ Иваномъ Монивидомъ и панъ Монивидъ, доведавшысе того, ижъ князь великий Витольдъ з тяглы ихъ вызволилъ при томъ ихъ зоставилъ и свой судовый листъ имъ далъ, водлугъ которого король его милость Александеръ ихъ заховалъ, а велелъ имъ служити службу в доспесе конемъ, а з потяглы и подачокъ ихъ вызволилъ потому яко великий князь Витольдъ деда ихъ Крупоса вызволилъ. Другий листъ положили судовый пана Ивана Монвида—воеводы Троцкого, што ихъ судилъ з Бастуны людьми Радунскими, ижъ ихъ притягивали к собе в службу тяглую, и панъ Монвидъ одъ того правыхъ оныхъ Круповичовъ знашолъ. Третий листъ оказали пана Петра Яновича—воеводы Троцкого, в которомъ пишетъ ижъ Мицканъ, Дармотъ, Ромейко Круповичи жаловали на пана Стрета городничого Троцкого, ижъ до нихъ присылалъ . . . . . своихъ грабечи ихъ за дякла, и панъ Петръ — воевода Троцкий потому ихъ заховалъ, яко и панъ Монвитъ тяглое службы служити и дякла давати имъ не казалъ. Четвертый листъ положили пана Виленского, воеводы Троцкого пана Радивила Истыковича, в которомъ пишетъ, ижъ . . . . . . а Митько, а Данко Круповичи тягалисе передъ нимъ въ Дубичахъ и своеми и скупилъ, што князь великий Витольдъ далъ былъ деду ихъ Крупосу и коли тые оскупилъ втекли оныхъ и панъ Радзивилъ Остыковичъ воеводий Троцкий тыхъ скупниковъ ихъ выдалъ имъ и тотъ листъ судовый на то далъ. Пятый листъ положили пана Януша Костевича—мечного господарского, наместника Радунского, в которомъ пишетъ, ижъ бояръ Радунскихъ Круповичовъ на име Якуба Митковича, Яна Вешторговича, Миколая Петрашевича Радзивила Богдановича а Микутыса Андреевича и братью ихъ судилъ з людьми Бастунцы, ижъ ихъ притягивали ку сенокосу и панъ Косцевичъ тыхъ Круповичовъ правыхъ одъ того учинилъ вечныхъ, а Бастунцовъ обвинилъ. Еще положили листовъ малыхъ Казимера короля его милости, в которомъ пишетъ до тивуна Радунского Монтвина, ижъ некто . . . . Декорайко доводили на Круповичовъ промысловъ, ино тотъ король его милости Казимеръ, велелъ посмотрити межи ними наместнику Городенскому пану Ляяошу а маршалку дворному пану Лячку, иное тые Бастуны не довели на нихъ и тую . . . . и короля его милости . . . . Круповичовъ правыми знашовъ, а Бастуновъ обвинилъ. Потомъ положили листъ светое славное памети Жыкгмонта короля его милости, ижъ били королю его милости (чоломъ) бояры Радунские Петро Петровичъ а Миколай Лукашевичъ, Радзивилъ Богдановичъ, Степанъ Янушковичъ, Матей Пашковичъ, Миколай Богдановичъ, Гришко Козаковичъ, Лавринъ Пацевичъ з роду Круповичъ поведили королю его милости, ижъ тивунъ и городничый Виленский державца Ушпольский, Пенянский и Радунский панъ Шишко Мацивичъ и приставъ Радунские боярские пановъ почели кривды и утиски великие имъ чинить и новины уводить и в службу тяглую ихъ поворочать и за то ихъ грабили и обтяжене великое чынили и казали имъ в замку Троцкомъ в день стерегчы, а в ночи кликати, его королевской милости огледавшы тыхъ листовъ ихъ вышей описаныхъ, з ласки своей господарское при нихъ зоставившы ку тяглому в томъ листе помененымъ ихъ примушати не казалъ, але службу земскую военную пospолъ з иншыми бояры шляхтою служити имъ розказати рачилъ оказали тежъ и другий привилей на паркгамине писаный нинешнего господара нашого короля его милости Зыгмунта Августа, ижъ били его королевской милости чоломъ бояре Троцкого повету, волости Радунское на име Петрашъ Бартошевичъ, Миколай Сеньковичъ, Лавринъ Пацовичъ, Матей Радзивиловичъ роду Круповичъ о томъ, ижъ яко будучы за розказанемъ его королевской милости померчему у волости Радунское на померeню волокъ Иванъ Гаевникъ, кгды на повести некоторыхъ подданыхъ его королевской

# Ліда ва ўспамінах ксендза Гіпаліта Баярунца

... Бачыў апошні нямецкі аддзел, які адыходзіў з Гародні, а 18 гадзіне і развітваўся з немцамі з радасцю сэрца, што ўжо адходзяць, і гаварыў ім: "Cu wider nie seien" ("Каб больш не пабачыцца"). Яны аднак былі не ветлівыя і з ксендзам не віталіся, а як "швайны" ("свінні") адходзілі з апушчанымі галовамі "nach Faterland". Праўда? Няветлівыя!

Пасля размяшчэння айцоў францішканцаў у Гародні ва ўласным іх кляштары на нёманскім Прадмесці, 2 верасня 1919 г. я пакінуў Гародню ў 10 гадзін раніцы, каб заняць, прызначаную мне ардынарыятам пасаду пробашча і дэкана ў Лідзе. Цяжка мне на пісьме распавесці, з якімі пачуццямі я ехаў чыгункай уласнай, польскай у вагоне, дзе нядаўна памяшчаліся "8 лошадей" альбо тавары. А мне здавалася, што еду ў вагоне люксовым, першага класу. Такое ўсё сваё, такая свабода, незалежнасць, настаў час, пра які здаўна марылі, так было весела і лёгка на сэрцы! Да Ліды дабраўся ў 5 раніцы наступнага дня, адлегласць малая (100 км), а паездка доўгая, але гэта нічога. Гэта вайна, гэта дзень уваскрашэння Польшчы! Ліда - горад перапоўнены габрэямі. Але горад польскі. Сёння элемент польскі нашмат перавышае габрэйшчыну. У Лідзе застаў польскае войска пад началам генерала С. Шаптыцкага. Які гэта талковы ваяка! Я сустракаў яго часта, бо на кожнае свята ён бываў у касцёле на святой імшы з усім штабам, з афіцэрамі і жаўнерамі. Побыт генерала Шаптыцкага ў Лідзе захапляў нашых ксяндзоў і людзей: з болем сэрца праводзілі мы яго, калі перад Божым Нараджэннем ён пераязджаў у Вільню. Пасля Новага 1920 года я адведаў яго ў Вільні ў палацыку пад Замкавай гарой, размаўлялі каля гадзіны, і тут пан генерал выказаў з болесцю сэрца, што ў выніку незразумелых акалічнасцяў мы будзем мець цяжкія бai з бальшавікамі. Дэталі размовы захоўваю для сябе. Пан генерал Шаптыцкі прадбачыў цяжкасці барацьбы, і гэта спраўдзілася летам таго ж 1920 г., калі ў чэрвені пан Шаптыцкі па дарозе на Варшаву з болем сэрца глядзеў, як бальшавікі забіраюць польскія землі (пакуль што толькі беларускія, *рэд*) руйнуюць гарады і вёскі, накідваюць няволю (што я кажу? рай бальшавіцкі) бальшавіцка-габрэйска-маскоўскую нашаму народу.

**Вайна з бальшавікамі**

Апошні аддзел Войска Польскага адышоў з Ліды ўглыб Польшчы 17 ліпеня 1920 г. у 16 гадзін, а бальшавікі ўступілі ў Ліду ў 17 гадзін, радасна сустраканыя лідскімі габрэямі. "Какая радость. Какое счастье. Наши пришли!" – крычалі габрэйкі на вуліцах Ліды і, схапіўшы бальшавіцкага салдата, шпацыравалі па вуліцы Сувальскай (тады яшчэ Віленскай,*рэд.*), я сам гэта чуў і бачыў. Я застаўся ў Лідзе таму што, высылаючы дзяцей з прытулку і іншых асоб, не меў часу падумаць пра сябе, пра сваю бяспеку. Дня 17 ліпеня, як памятаю, у суботу паклаў у ручны чамаданчык рэчы і гатовы быў вырушыць у дарогу з Познаньскай дывізіяй. Але ксёндз-капелан, капітан Ціхоцкі перажагнаў мяне і ў імя Божае прасіў застацца ў Лідзе. Застаўся з думкай, што мясцовыя габрэі яшчэ мяне не ведаюць, бо я толькі што прыехаў у Ліду, застаўся, каб бараніць парафію ад бальшавікоў, каб падтрымліваць у народзе польскі дух, каб быць польскім вокам у Лідзе. Пасля выхаду нашай улады з Ліды пазасталыя лідскія мяшчане сабралі гарадскую раду (савет) і ў тую раду ўключылі і мяне, большасць радцаў была габрэйская. Калі бальшавікі набліжаліся да Ліды, рада сабралася ў магістраце і ўрадзіла ісці з хлебам-соллю на спатканне бальшавікоў. На той нарадзе я не быў асабіста, але да мяне прыслалі дэлегацыю, ці я згаджаюся з такой ухвалай. Я ўхвалу адхіліў, зазначыўшы, што рада сустракаць бальшавікоў не можа, а размаўляць з бальшавікамі можа толькі ў зале магістрата. Так і зрабілі: часовы бальшавіцкі камендант, босы ў парванай кашулі і портках, сабраў радцаў, запытаў, дзе можна дастаць хлеба і тытуню, і раду распусціў, так закончыла сваё кароткае жыццё габрэйская рада.

Што мы выцерпелі праз два тыдні пабыту ў Лідзе з бальшавікамі, лепей сёння пра тое не ўспамінаць. Боль сэрца мяне сціскае – другі раз таго б не вытрымаў. Ператрусы, рабунак, здзекі над людской годнасцю. Гэта нешта жудаснае!

У добрай справе і пан Бог дапаможа, бо просім, праз некалькі дзён з'явіўся да мяне бальшавіцкі камендант Базыль Губарэнка з Самары і пакорна прасіў, каб я прыняў яго да каталіцкай веры і даў яму шлюб з маёй парафіянкай тым жа ранкам, і каб яго не здрадзіў перад камуністамі. Я сумеў тую справу залатвіць, і той камендант – камуніст быў мне ўдзячны і паслушны. Далей. На плябані пасяліўся п. Тараноўскі, начальнік штабу. Расіянін, правы, не бальшавік, які ўсім сэрцам ненавідзеў бальшавікоў, бо яны замардавалі яго бацьку, брата і сястру.

Лідскія габрэі чынілі мне ўсялякія пакасці, але Пан Бог мяне абараніў. Габрэі хацелі, каб я ішоў на "абщественные работы", а пан камендант Тараноўскі сумеў ад нахабных габрэяў мяне абараніць. Знаходжанне маё ў Лідзе габрэяў вельмі турбавала. Падчас побыту камуністаў у Лідзе мы хавалі памерлых палонных палякаў, я аглядаў хворых святымі сакрамантамі, спавядаў камуністаў, палякаў, сагнаных з Пецярбурга і Масквы. Падкормліваў праз верных людзей палонных палякаў і зняволеных ксяндзоў. Пры дапамозе каменданта Губарэнкі вызваліў з-пад арышту ксендза Паўксіта, пробашча з Ліпнішак, а пры адступленні бальшавікоў з Ліды вымагаў ад пана Тараноўскага, які ў апошнія дні

быў прызначаны Тухачэўскім камендантам-камандзірам лідскага адрэзку фронту, каб Ліду не бараніў і горада не руйнаваў, а ішоў бы сабе на сухія лясы. Пан Тараноўскі даў мне слова і стрымаў яго, горад ацалеў, бо абарона была слабой, і стралялі толькі з малых гармат. Бальшавікі пакінулі Ліду ў аўторак 28 верасня 1920 года. Наша войска ўвайшло ў Ліду а 8 гадзіне раніцы па дарозе ад Жырмун. Страляніна трывала з перапынкамі аж да вечара. Быццам бы ў палон было ўзята 25700 бальшавіцкіх салдатаў. Тут адбылася апошняя параза бальшавікоў. Пры адступленні бальшавікоў тры апошнія дні я мусіў хавацца. Але калі ўступіла наша войска, пад кулямі аглядаў нашых жаўнераў. Дня 1 кастрычніка я арганізаваў урачыстае пахаванне забітых жаўнераў, якія загінулі геройскай смерцю ў горадзе і наваколлі, колькасцю 63 чалавекі. Для 20-ці здалелі зрабіць труны, астатніх паклалі на вечны спачын на могілках так, без трунаў.

Дня 29 верасня аб 11 гадзіне прыехаў у Ліду пан Начальнік Дзяржавы Юзаф Пілсудскі. Па-хуткаму сабраў дэлегацыю з абывацеляў лідскіх, шаўцоў, краўцоў, чыгуначнікаў, інжынера, які ўцёк з няволі, двух ксяндзоў, рушыў з імі на вуліцу “Пілсудскага” і падзякаваў за вызваленне Ліды.

У суботу дня 2-X-1920 г. пан Начальнік Дзяржавы а 12-й гадзіне паснедаў у мяне на плябані вельмі сціпла, правёў нараду з генераламі і адправіў у Вільню збунтаванага генерала пана Жалігоўскага, легіянераў узнагародзіў Крыжамі валечных. (Я вельмі шкадаваў, што ўзнагародзіў толькі легіянераў і абмінуў дабраахвотнікаў з фармавання генерала Галера!). Такія коратка ўражанні ад вайны з бальшавікамі.

**Грамадская і асветніцкая праца**

Пасля ўваходу немцаў у Гародню я адразу заснаваў у горадзе польскую школу, меў каля 300 вучняў рознага ўзросту. Цэлы год з настаўніцамі мы працавалі ў школе з дзецьмі, а дзеці неслі польскі дух у свае хаты, у сем’і. Праца завіравала. **Беларушчына знікла**, а польская мова, так жорстка пераследаваная маскалямі, заняла сваё галоўнае становішча ў каталіцкіх дамах.

Немцы спасціглі мой уплыў і ў наступным годзе адхілілі мяне ад кіраўніцтва, застаўся толькі катахетам. Сціснуў зубы і пачаў паралізоўваць нямецкую працу, і колькасць тых, хто павёў дзяцей у нямецкую школу, меншала, і дзеці ў школу прыходзілі не рэгулярна. Немцы непакоіліся, здымалі кіраўнікоў, але галоўнага вінаватага ў гэтым знайсці не патрафілі. Я баяўся, каб дзяцей не анямечылі, для таго заснаваў дзённы прытулак з харчаваннем, і ў тым прытулку колькасць дзяцей паступова павялічвалася, з 15 дайшла да 200.

З пачаткам школьнага году ў жніўні 1918 г. я быў самімі немцамі запрошаны на пасаду кіраўніка школы. Я згадзіўся, але пры ўмовах, што настаўнікі будуць ад мяне залежныя, што я сам буду выплачваць грошы, якія будуць выдзяляцца мне інспектаратам, што колькасць гадзін нямецкай мовы будзе зменшана з 8 да 4. Колькасць дзяцей зноў вырасла да 200. Я браў чынны ўдзел у падкормцы людзей у час Сусветнай вайны, выконваючы абавязак прэзаса Капітулы. Так было ў Гародні, але дазволю сабе вярнуцца: таксама пра Гародню. У Гародню я прыехаў з Віленскай духоўнай семінарыі 1 чэрвеня 1909 г. Маё першае ўражанне было, што Гародня была вельмі зрусіфікавана, Гародні не ведаў. У Францішканскай парафіі мае парафіянкі размаўлялі парасейску (беларуску), спявалі кацапскія песні. Выходзілі замуж за праваслаўных “прапаршчыкаў запасу” і бралі шлюбы ў царкве. Вялікім болем лягло мне гэта на сэрца Гэтаму ўсяму абвясціў бітву пастаянную непрымірымую. Паклікаў да сябе талковага патрыёта, маладога арганіста П. Філіна, сказаў яму заснаваць і трэніраваць касцельны хор і пры развучванні рэлігійных спеваў навучыць моладзь песням патрыятычным. Падзейнічала добра. Дзяўчаты і хлопцы з прадмесця ахвотна прынялі ўдзел у хоры, вывучвалі песні і ў сваіх дамах самі спявалі і вучылі маладое пакаленне. На кожным кроку змагаўся супраць русіфікацыі, нядзелямі перад службай на працягу гадзіны праводзіў катэхізацыю дзяцей і моладзі і заўсёды падкрэсліваў польскасць і патрыятызм. Сонныя сэрцы ўзрушыліся, пачалі адходзіць ад маскалёў і стала лепей у парафіі ў Гародні.

У Лідзе таксама не сядзеў без працы. Знайшоў тут два прытулкі на 300 дзяцей і таварыства пад назвай “Галоўная апякунская рада”, якую падтрымлівала Амерыка. Як старшыня ГАР працягнуў далей справу дабрачыннасці: падкормліваў дзяцей, старых, сірот, вёў народную кухню і г.д. У падполлі адбывалася вучоба. Заснаваў пры дапамозе талковых асобаў яслі для немаўлят і маленькіх сірот, медыцынскі прыёмнік для дзяцей. Мелі склад вопраткі, бялізны, медыкаментаў і прадуктаў, пераважна амерыканскіх кансерваў.

Пры нашэсці бальшавікоў на Ліду дзеці з прытулкаў і склад былі эвакуяваны (перавезены) ўглыб Польшчы, у Лідзе засталіся яслі і прытулак для старых, якія пры бальшавіках цярпелі вялікую нястачу, бо галоўнае кіраўніцтва над імі пераняла габрэйка Камянецкая і былы колішні спраўнік расейскі Гротэ дэ Буко. Пасля адходу бальшавікоў склад не вярнуўся ў Ліду. Дзеці вярнуліся не ў Ліду, а ў Сялец над Нёманам і заставаліся пад апекай Лідскага сойміка. Соймік падтрымліваў іх некалькі гадоў, убачыў, што ў тым няма ніякага інтарэсу (меркавалі нашы чыноўнікі і свецкія дзеячы, раней накіроўваючы той інтарэс на сваю карысць) і пасля некалькіх гадоў прытулак згарнулі, і сёння той справай соймік цалкам не займаецца.

На працягу некалькіх гадоў я апекаваўся старымі, а акрамя мяне ніхто старымі не цікавіўся і нічым не дапамагаў, я мусіў пачаць хадайніцтвы ў Магістраце, і той прыняў старых пад сваю апеку. Магістрат апекаваўся старымі два гады. А потым прытулак старых згарнулі, старых выслалі ў маёнтак Міхалова каля Валожына (7 кіламетраў), адкуль аднак многія пехатой вярнуліся ў Ліду з-за недахопу духоўнай уцехі (апякункай была гаспадыня маёнтка праваслаўнага вызнання, а касцёл знаходзіўся за 7 кіламетраў) і сёння церпяць нястачу, бо Канферэнцыя міласэрдзя св. Вінцэнта і Паўла Поні з-за недахопу фундушаў магла толькі часткова аказаць апеку.

Засталіся яслі, дзяцей было да 50, галоўная апякунская рада была распушчана. Было заснавана Таварыства дапамогі Лідскага староства, зарэгістраванае ў

Наваградскім ваяводстве дня 24 чэрвеня 1921 г. пад № 61737. З ясель утварыўся прытулак "Сэрца Марыі" і быў размешчаны ў доме пана Тыркіна пры вул. 17 Красавіка, дзе прытулак знаходзіўся да 1926 г. У тым жа годзе ён быў перанесены на Касцельны фальварак пры вул. Мілоснай (Кахання) № 27 і дзе застаецца па гэты дзень.

Таварыства грамадскай дапамогі заснавала таксама прадпрыемства кройкі і шыцця ў касцельным доме пры вуліцы імя Сувальскага палка № 6, якое мела дзяўчынак да 30, вучыла іх працы і прыспасобляла да самастойнага жыцця, вырываючы моладзь з габрэйскіх рук, у 1933 годзе прытулак і працоўня былі перададзены Віленскаму таварыству "Карытас", якое заснавала ў Лідзе сваю філію.

Падчас свайго побыту ў Лідзе кс. Г. Баярунец браў удзел у патранаце Сувальскага палка, у патранаце арганізацыі Сокала, пажарнай аховы, у надзорнай радзе кааператыву "Адзінства", у Саюзе польскіх спажыўцоў "Разам", у надзорнай радзе Лідскага народнага банка, якой быў першым арганізатарам, у кіраўніцтве Польскай мацежы школьнай, у кіраўніцтве ЛАПП, у бацькоўскім камітэце Лідскай гімназіі, браў удзел ва ўсякіх вартых арганізацыях – каталіцкіх, і грамадскіх, і дзяржаўных, ва ўсякіх дзяржаўных і грамадскіх урачыстасцях , якія стаялі на грунце каталіцкім і польскім.

**Дэканская праца**

Будучы лідскім дэканам кс. Г. Баярунец амаль штогод аб'язджаў парафіі дэканату і наведваў школы: усеагульныя і сярэднія, арганізоўваў дэканскія з'езды па некалькі разоў на год, браў чынны ўдзел у касцельных урачыстасцях у парафіях дэканату. У часе візіту арцыпастара асабіста суправаджаў арцыбіскупа. Кіруе Каталіцкай акцыяй у дэканаце, а таксама касцельнымі таварыствамі. Бярэ ўдзел ва ўрачыстых абходах, калі якая парафія такія абходы арганізуе. Складае справаздачы з дэканату ў Віленскую арцыбіскускую Курыю.

**Падзел Лідскай парафіі**

I. Лідская Фарная парафія была вялікай (каля 20 тысяч душ) і разлеглася на 20х25 кіламетраў. Кс. Гіпаліт Баярунец адразу пасля прыезду ў Ліду самастойна рэфармаваў парафію ў Крупе ў верасні 1919 года, далучыўшы да яе блізкія вёскі, двары і хутары. У Крупе існавала капліца, пабудаваная з дрэва ў 1460 г. як філіяльная Ганнай Івашка-Давойна пад назвай Найсвяцейшай Тройцы з наданнем зямлі: паселішча Ястрэбла Пінскага павету. Першым пробашчам быў кс. Станіслаў Мікульскі. У красавіку 1920 г. касцёлік згарэў. А наступнік кс. Юзаф Сабалеўскі збудаваў пры дапамозе парафіян мураваны касцёл, які быў асвечаны ў 1925 г. Трэцім пробашчам быў Генрык Драгель, а ад лістапада 1936 г. пробашчам з'яўляецца кс. Баляслаў Гудэйка. У архіве Фарнага касцёла захоўваюцца старыя інвентарныя акты, у якіх ёсць вопіс дакументаў пабудовы касцёла, стварэння і кіраўніцтва той філіі.

II. Кс. Г. Баярунец у 1922 г. запрасіў у Ліду ксяндзоў-піяраў у іх уласны піярскі касцёл пад назвай Св. Юзафа Каласантага. Касцёл спачатку быў драўляны і пабудаваны Сцыпіёнам дэль Кампа ў 1757 г., у тым годзе айцы-піяры пераехалі ў Ліду з Веранова (Воранава). Сённяшні мураваны касцёл будавалі ад 1801 г. да 1825. У 1832 г. касцёл быў закрыты, манахаў расійскія захопніцкія ўлады выгналі. У 1846 годзе касцёл і кляштар згарэлі. У 1866 годзе касцёл быў перароблены ў праваслаўную царкву. У 1919 г. касцёл быў вернуты, і тут аселі айцы-піяры. Айцы-піяры занялі таксама свой касцёл у Шчучыне.

III. У 1922 годзе кс. Г. Баярунец здабыў парцэль зямлі для беніфікацыі ў Гаўі і заснаваў там парафію пад назвай Пераўасаблення Панскага, далучыўшы да яе многія вёскі з Лідскай парафіі, Ліпнішскай і Івейскай, у агуле каля 1500 душ. Першым пробашчам стаў кс. Юльян Юркевіч (памёр 30.10.1936 г. у Лідзе, а пахаваны ў падзямеллі касцёла ў Радуні, дзе ў апошні час быў пробашчам, а перад тым у Рудзішках пабудаваў прыгожы мураваны касцёл) і пабудаваў драўляную плябанію. Другім пробашчам да сёння ёсць кс. Юзаф Козел ад 1924 г., які дакончыў плябанію, збудаваў гаспадарскія будынкі, народны дом, а ў 1927 г. арганізаваў касцёл у пакінутай праваслаўнымі капліцы драўлянай, старой, даўняй уніяцкай у часе Сусветнай вайны. Пакрыў тую капліцу ацынкованай бляхай, дабудаваў дзве закрыстыі і ўпарадкаваў касцёлік, а таксама кіраваў касцёлам у Кір'янаўцах да 1935 г.

IV. У Кір'янаўцах пры двары існаваў драўляны касцёл пад назвай Найсвяцейшай Тройцы, фундаваны ў 1602 г. Марцінам Курчам. Быў забраны пад праваслаўную царкву у 1866, а ў 1919 г. вернуты. Належыць п. Ласковічу.

*(Пераклад Станіслава Судніка.)*



1946 r.

Ś. P.

NABOŻEŃSTWO ŻAŁOBNE

za spokój duszy Najprzewielebniejszego Księdza Dziekana Hipolita Bojarunca

odbędzie się dnia 19 m. [illegible]

o godzinie 12 rano. ([illegible])

w kościele parafjalnym w Lidzie, na które zaprasza się krewnych i przyjaciół.

R. in P.

***Валеры Сліўкін***

# Гісторыя лідскага перыядычнага друку

## Частка I (да 1990 г.)

З’яўленню перыядычных выданняў папярэднічае з’яўленне друкарняў. Першая Лідская друкарня з’явілася ў 1896 г., у першы ж год было выраблена друкаванай прадукцыі на суму ў 800 рублёў. Справа аказалася выгаднай - у 1904 г. у горадзе працавалі тры друкарні, тады ж з’явілася першае фотаатэлье і першая бібліятэка-чытальня. Друкарні былі маленькімі, размяшчаліся ў жылых хатах, і друкавалі разнастайную бланачную прадукцыю, афішы, квіткі, візітныя карткі і таму падобнае. Належалі друкарні **Самуілу Кальманавічу Зяльдовічу** і **Айзіку Вульфавічу Эпштэйну**, уладальнік трэцяй невядомы. Друкарня Зяльдовіча займала 2 пакоі ў хаце Душмана на Віленскай вуліцы паблізу сабора Міхаіла Арханёла. Друкарня Эпштэйна размяшчалася таксама на Віленскай вуліцы ва ўласнай хаце.

У 1908 г. лідскія друкары адзначыліся - прынялі ўдзел у выданні першага нумара газеты “Социал-демократ”, пра што расійская сацыял-дэмакратычная грамадскасць, можа, і не ведае. У 1910 г. ці па прычынах канкурэнцыі або з дачынення да выдання апазіцыйнай газеты трэцяя друкарня знікла. У 1913 г. уладальніцай друкарні Эпштэйна была **Кейля Хаімаўна Эпштэйн**, гадавы абарот склаў 1500 рублёў. Друкарня Зяльдовіча адставала ў абароце на 100 рублёў.

Першае лідскае перыядычнае выданне з’явілася на свет 17 лістапада 1912 г. Прадпрымальнік габрэй Каміёнскі І.Д. пачаў выдаваць на рускай мове штотыднёвую грамадска-палітычную газету **“Лидское слово”**. *“Аб’яўляючы сваю газету незалежнай і беспартыйнай, мы перакананы ў тым, што ў сусветным сужыцці ўсіх без выключэння нацый і гарманічным злучэнні культурных каштоўнасцяў асобных нацыянальнасцяў ляжыць залог развіцця кожнага горада”*. У газеце публікаваліся справаздачы аб паседжаннях Дзяржаўнай Думы, асвятлялася дзейнасць гарадскога самакіравання, культурныя падзеі ў горадзе (канцэрты, лекцыі, аматарскія спектаклі, асветніцкія акцыі бібліятэкі). Газета прапагандавала традыцыі рускай класічнай літаратуры, адмоўна ставілася да мадэрнісцкай і натуралістычнай літаратуры. Выдавалася газета да 31 траўня 1913 г. *(Конан У. “Лидское слово”//ЭГБ. Мінск, 1997. Т. 4. Ст. 367)*.

Нямецкая акупацыя (1915-18) і два чырвонаармейскія наступленні-адступленні ў 1919 і 1920 гг. друкарскай справе не нашкодзілі. Друкарня С.К. Зяльдовіча таксама адзначылася ў савецкай гісторыі - у жніўні - верасні 1920 г. у ёй былі аддрукаваныя тры нумары газеты **“Строительный рабочий на фронте”** - папярэдніка вядомай савецкай “Строительной газеты”. Здарылася гэта ў дні савецка-польскай вайны, калі чырвоныя часткі адкаціліся ад Варшавы пад Гародню.



Рабочее движение.

Между делом.

Международная солидарность пролетариата.

*Старонка газеты* ***“Строительный рабочий на фронте”***

Ініцыятарам і арганізатарам выдання быў старшыня палітбюро інжынерных частак 3-й арміі Георгій Іванавіч Грыгор’еў: *“Даўно было задумана выдаць газету “Строительный рабочий на фронте”. Мы дазналіся аб тым, што ў Лідзе маецца саматужная друкарня, якая, як зараз памятаю, знаходзілася ў завулку каля касцёла. Прыйшлі туды. Насустрач выйшаў гаспадар. На пытанне, ці ёсць рускі шрыфт і папера, ён адказаў адмоўна. Мы прад’явілі свае мандаты і, прызнацца, прыстрашылі яго зброяй. Тут з’явіўся сын гаспадара і па-руску сказаў: “У мяне для вас усё будзе: і шрыфт і папера”. Яму было гадоў 18-20. За ноч мы падрыхтавалі матэрыял для газеты. Дапамагаў мне піцерскі рабочы Іван Грышын. Праз суткі быў гатовы наш першы нумар, выйшаў ён у чацвер 26 жніўня 1920 г. У той жа дзень мы пайшлі паглядзець, як панавешаная наша газета. У цэнтры горада, каля кафэ, сярод цэнтральных газет была і наша, аддрукаваная на бэзавай паперы, невялікага фармату. Поруч газеты было людна. На асабістыя сродкі мы выдалі тры нумары. Сын гаспадара друкарні адмаўляўся браць грошы за працу і паперу, але я настаяў - і ён абмежаваўся мінімальнай платай. Гэта была адна з першых газет будаўнікоў пры*

*Савецкай уладзе”.*

На першай паласе Палітбюро Кіравання заклікала: *“Товарищи инженерных частей армии. Выпуская первый номер газеты «Строительный рабочий на фронте» мы хотим ознакомить вас с жизнью ваших товарищей по армии и рабочему движению России и Европы, этим самым мы создадим единую спайку и организованную рабочую семью. Просим товарищей с мест присылать заметки о жизни рабочих на местах. Да здравствует единение строительных рабочих на фронте, тылу и во всей Европе”. (“Таварышы інжынерных частак арміі. Выпускаючы першы нумар газеты “Будаўнічы рабочы на фронце” мы хочам азнаёміць вас з жыццём вашых таварышаў па войску і рабочаму руху Расіі і Еўропы, гэтым самым мы створым адзіную знітоўку і арганізаваную рабочую сям’ю. Просім таварышаў з месцаў дасылаць нататкі аб жыцці рабочых на месцах. Няхай жыве яднанне будаўнічых рабочых на фронце, у тыле і ва ўсёй Еўропе”).*

Г.І. Грыгор’еў дажыў да 1965 г., пахаваны ў Маскве. У 1924 г. у якасці прараба-выканаўцы работ ажыццяўляў будаўніцтва першага драўлянага маўзалея для Ў.І. Леніна.

У 1920 г. пры штабе Другой польскай арміі, якой камандаваў Э. Рыдз-Сміглы, мелася штабная вайсковая друкарня, якая размяшчалася ў чыгуначным вагоне. Друкарняй кіраваў Давыд Зільдэрман, ён меў даваенны досвед працы на вялікіх расійскіх выдавецкіх прадпрыемствах. У кастрычніку 1920 г. друкарня была перавезеная з вагона на вул. Віленскую ў хату Палячака.

У міжваеннай Лідзе працуюць чатыры асноўныя друкарні: друкарня **Каплінскага** па вул. Сувальскай, д. 10, друкарня **Ш. Зяльдовіча** па вул. Сувальскай, д. 70, **Хрысціянская друкарня** па вул. Сувальскай, д. 90 і **“Magata”** на вул. 3 траўня.



***Сувальская, 10***

Больш за 10 разоў у Лідзе прадпрымаліся спробы выпускаць штотыднёвую газету. Звычайна праз паўгода - год выданні закрываліся, адзінае выключэнне - газета на ідыш **“Lider Woch”**, якая пратрымалася на газетным рынку тры гады.

6 лістапада 1927 г. пад рэдакцыяй А.Забенскага

DRUKARNIA
J. Kaplińskiego
LIDA
ul. Suwalska Nr. 10.
Wykonuje wszelkie roboty
w zakres drukarstwa
wchodzące.
CENY DOSTĘPNE.

***Рэкламны блок друкарні Каплінскага***

DRUKARNIA
i wytwórnia stempli
Sz. ZELDOWICZ
Lida, Suwalska 70
przy drukarni
INTROLIGATORNIA

***Рэкламны блок друкарні Ш. Зяльдовіча***

Drukarnia Chrześcijańska
LIDA
Ul. Im. Pułku Suwalskiego 90
WYKONUJE
DRUKI wszelkiego rodzaju
Fachowo, szybko i tanio.

***Рэкламны блок Хрысціянскай друкарні***



*Сувальская, 90*

выйшаў першы нумар штотыднёвіка **“Glos Lidzki”**. Рэдакцыя гэтага штотыднёвіка знаходзілася ў Варшаве, і там жа друкаваўся наклад. Адначасова ў Лідзе ў друкарні Ш. Зяльдовіча друкаваўся бясплатны дадатак да гэтай газеты пад назвай **“Wiadomosci Lidzkie”**, якія былі органам ваяводскага кіравання Партыі Працы. У лютым 1928 г. перад выбарамі ў Сенат дадатак ціха знік. Тады ж у другой палове 1927 г. У. Янушайціс пачаў выпускаць і рэдагаваць 14-старонкавую польскамоўную газету **“Kurier Lidzki”**. Газета пратрымалася да красавіка 1928 г. З красавіка 1928 г. па дамоўленасці з выдаўцом ваяводскай навагрудскай газеты “Zycie nowogrodzkie” лідскія падзеі атрымалі адлюстраванне ў аднастаронкавым дадатку **“Zycie Lidzkie”**. Ваяводская газета выдавалася тры разы ў тыдзень у колькасці 1000 асобнікаў, у 1929-31 гг. наклад знізіўся да некалькіх сотняў. 29 ліпеня 1931 г. выйшаў апошні 1194 нумар.

У 1929 г. Якуб Пупко выдаваў газету **“Lider Wokenhlat”**, якая друкавалася на ідыш.



GŁOS LIDZKI

BRATERSTWO BRONI

Marszałek Piłsudski w Wilnie



9 13 listopada 1927 roku № 2.

# WIADOMOŚCI LIDZKIE

DODATEK BEZPŁATNY

„GŁOSU LIDZKIEGO“

Organ Wojewódzkiego Zarządu Partji Pracy.

pod redakcją Z. ECKHARDTA.

Od redakcji.

...powszechnie przyjętym ...jem, że Redakcje nopism, wypuszczając w pierwszy numer pisma, ...ą we wstępnym artykule ... program. Czyniąc zadość ...mu zwyczajowi, powiadamy krótko: uważamy za zbyteczne szczegółowe omawianie programu, który już pod tytułem jest uwidoczniony. Pismo nasze jest organem Partji Pracy; jej program jest naszem „Credo“ politycznem, a program ten jest powszechnie znany: służba ideologji Marszałka Piłsudskiego, dążącego do utrwalenia potęgi państwa, do utrzymania tej potęgi i zapewnienie nienaruszalności granic, starania o podniesienie dobrobytu wszystkich stanów, a w pierwszym rzędzie chłopa i robotnika, nawoływanie do intensywnej pracy na każdem polu, wyrabianie w szerokich masach poczucia praworządności i poszanowania prawa, ukochania Ojczyzny i jej interesów ponad interesy partji, czy jednostki — oto naczelne hasła naszego organu, których szerokie omawianie uważamy za zbyteczne.

W myśl tych haseł dążyć będziemy w pierwszym rzędzie do uzdrowienia naszego parlamentaryzmu, to znaczy, starać się będziemy usilnie o to, aby do przyszłego sejmu wysłać nie członków tej, czy innej partji, bez względu na ich wartość moralną. Nie będziemy popierali partyjników, lecz dobrych obywateli, ludzi prawych, ludzi o czystych rękach przedewszystkiem. Dlatego też nie będziemy nikogo zwalczali; walki nie chcemy ani z jednostkami, ani z partjami, bo celem naszym jest zespolenie przy wspólnej pracy dla dobra Ojczyzny wszystkich ludzi dobrej woli, prawych, zdrowych moralnie, a przy tem światłych obywateli, którzy czynami udowodnili, że potrafią zapomnieć o interesie stronnictwa tam, gdzie chodzi o interes i dobro Ojczyzny. Walczyć nie chcemy i nie będziemy z nikim, bo wiemy, że w każdem państwie różne stronnictwa są i być muszą, ale występować będziemy w obronie prawdy: spokojnie lecz stanowczo prostować będziemy wszelkie błędne poglądy i świadomie, lub nieświadomie rozsiewane plotki, bez względu na partyjną przynależność ich autora; będziemy się starali otwierać oczy tym, którzy zaślepieni szumnemi hasłami demagogicznemi, nie widzą, lub nie chcą widzieć faktów. Wiemy, że „wodzów“ nie przekonamy, ale nie o „wodzów“ nam chodzi; nie jesteśmy tak zarozumiali, abyśmy na nich chcieli mieć wpływ,—to ludzie zakochani w swojej wielkości, przez nikogo nieuznowanej, zazdroszczą człowiekowi, uznanemu za wielkiego nie tylko przez swoich, ale przez świat cały. Ci nigdy nie będą chcieli widzieć jego wielkich czynów. Natomiast wierzymy, że uda się nam przekonać nie jednego z małych, takich samych, jak my, pionków, nie jednego z tych, którzy, zaślepieni blaskami błędnych ogników pustej frazeologji, biorą je za gwiazdy przewodnie i błądzą po bezdrożach, a nie widzą bitej drogi, którą Marszałek Piłsudski i jego rząd prowadzą Ojczyznę do świetnego rozwoju i potęgi a nas wszystkich do dobrobytu.

Nie powiedzielibyśmy jednak wszystkiego, gdybyśmy nie wyznali, że będziemy także walczyć. Z kim, i o co? Z jawnem, wyraźnie stwierdzonem szkodnictwem, a więc z temi

Сусветны эканамічны крызіс, інфляцыя і невысокая пісьменнасць насельніцтва не спрыялі развіццю перыядычных выданняў. Пасля пераадолення крызісу ў канцы 1932 г. Ю. Ілютовіч аднавіў газету **“Lider Woch”**, якая пад яго рэдакцыяй пратрымалася да 1935 г. У 1934-35 гг. выдаваліся польскамоўныя газеты **“Echo Lidzkie”** і **“Goniec Lidzki”**.

У Лідскай дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча перыядычна пачынаў выдавацца і



LIDER WOCH

PIERWSZY MARSZAŁEK POLSKI

JÓZEF PIŁSUDSKI

Honorowy Obywatel m. Lidy.

*“Lider Woch”*

прападаў які-небудзь гімназічны часопіс. Ежы Путрамант у аўтабіяграфічнай аповесці “Паўвеку” згадвае часопіс “Школьнае рэха”. Часопіс памнажалі на складанным прыстасаванні, якое называлася “шапірографам”. Тэксты пісалі ад рукі. Часопіс меў у асноўным сатырычны кірунак і па-за некалькімі “ўступнымі” артыкуламі, прысвечанымі гісторыі Ліды і ваколіц, займаўся неістотным высмейваннем так званых школьных балячак.



***Ліда, чэрвень 1926. Рэдакцыя “Школьнага рэха”. Стаіць першы злева Дэшынскі, у сярэдзіне - выкладчык па мянушцы “Керназ”. Другі справа ад яго - Ежы Путрамант.***

У кастрычніку 1935 г. вучні старэйшых класаў гімназіі выдалі ў друкарні Ш. Зяльдовіча 16-старонкавы часопіс **“Tworzmy!”**. Рэдактар - Юры Дунько (8 клас), сакратар Саламея Воранава. У рэдакцыйны камітэт уваходзілі Багатыроў (8 клас), Антоні Маслінскі, А. Мацевіч, Леан Пільчук (8 клас). Апекаваў рэдкалегію выкладчык літаратуры Ў. Маеўскі. У часопісе змешчана некалькі невялікіх вершаў і нататак Л. Пільчука, А. Маслінскага, Е. Васілеўскага, краязнаўчы матэрыял пра



TWÓRZMY!

Miesięcznik uczniów państwowego gimnazjum im. Hetmana Karola Chodkiewicza w Lidzie

Lida — Październik — 1935 — Rok IV. — Nr. 1.

Вялічкаўскае возера, палемічны матэрыял пра карысць машын і іншыя.

З 15 красавіка 1936 г. па жнівень 1939 г. у Лідзе выдаваўся выбітны рэгіянальны краязнаўчы штомесячнік **“Ziemia Lidzka”**. Агульную рэдакцыю ажыццяўляў **Уладзіславаў Абрамовіч** (1909-1965), яму ўдалося сабраць кола дасведчаных аўтараў - у рэдакцыйна-выдавецкі камітэт уваходзілі **Антоні Гржымайла -Прыбытка, Аляксандр Снежка** і **Міхал Шымялевіч**. Было выдадзена 35 нумароў, 6 з іх - здвоеныя. Першыя тры гады штомесячнік выдаваўся ў выглядзе 8-28 старонкавага часопіса фарматам 19х26 см, у апошні год - у выглядзе 30-60 старонкавых кніжачак фарматам 16х20 см. Рэдакцыя штомесячніка ў 1936-38 гг. размяшчалася ў Лідзе на вул. Замкавай, 4, у 1939 г. - на вул. імя Сувальскага палка, 3. Усе нумары часопіса былі надрукаваныя ў друкарні Ш. Зяльдовіча. Кошт часопіса 25-30 грошаў у першы год выдання, і па 50 грошаў у наступныя, кошт здвоеных нумароў 1 злоты. Падпісны кошт у 1937 г. складаў 4 злотыя, з верасня 1938 г. - 5 злотых. Гэта быў адзіны краязнаўчы часопіс, які выдаваўся на паўночна-ўсходніх землях Рэчы Паспалітай. У часопісе былі апублікаваныя дзесяткі арыгінальных найцікавых артыкулаў па геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі Лідскай зямлі і прылеглых тэрыторый. Пра рэкі Нёман, Дзітва, Лебяда, Гаўя і Жыжма (М. Шымялевіч), пра рэльеф і глебы (А. Гржымайла -Прыбытка); пра тарфяныя паклады (А. Нявесцін), пра грунты і выдатныя камянівалуны (М. Шымялевіч), пра дарогі: “Гасцінец Лідскі” (А. Снежка), “Гасцінец польскі”, “Старадаўняя пошта і тэлеграф” (М. Шымялевіч); па гісторыі сёлаў, мястэчкаў і культавых устаноў: пра Белагруду, Дворышча,



Rok III. LIDA, luty 1938 r. Nr. 2.

ZIEMIA LIDZKA

Miesięcznik krajoznawczo-regionalny

pod redakcją WŁADYSŁAWA ABRAMOWICZA

Redakcja i Administracja: Lida, Zamkowa 4/7, tel. 73. Konto P.K.O. w Lidzie Nr. 1.
Warunki prenumeraty: roczna 4 zł., półroczna 2 zł. Cena pojedyńczego numeru 50 gr.
Cennik ogłoszeń na ostatniej stronie: 1/1 str. 120 zł. 1/2 str. 60 zł., 1/4 str. 30 zł., 1/8 str. 15 zł. i 1/16 str. 10 zł.

Władysław Abramowicz

SŁONIM — MIASTO KLASZTORÓW

Na trakcie, łączącym Baranowicze ze Słonimem odbywa się najbardziej intensywny ruch motorowy. Twarda nawierzchnia starannie konserwowana ściąga tu wiele miłośników sportu motorowego. Wjazd do Słonima jest bardzo malowniczy z każdej strony. Najpierw widzimy wspaniałe szczyty wieżyc miasta, a potem i całą przepiękną panoramę.

Słonim — najstarsze miasto w Nowogródczyźnie, drugi po Nieświeżu monumentalny dokument sztuki dziejowej i kulturalnej tej ziemi. Początki dziejów tego pięknego miasta sięgają połowy XI w. Był to podobno gród zamkowy, aczkolwiek drewniany, ale ważny jako punkt strategiczny i dlatego przeżył wiele burz, przechodząc z rąk do rąk książąt ruskich, aż wreszcie raz na zawsze przyłączył go do swego państwa Mindowe. Giedymin w podziale państwa pomiędzy swych synów przyznał Słonim Montwidowi.

Od pierwszych lat XVI wieku Słonim stał się miastem powiatowym, otrzymał prawo magdeburskie i potem herb wyobrażający złotego lwa ze srebrnym krzyżem podwójnym. Godło miasta wiąże się ściśle z jego ówczesnym starostą Lwem Sapiehą, który uczynił ze Słonima rezydencję sejmików generalnych i pchnął miasto na drogę wspaniałego rozwoju. Cieszyło się ono specjalną opieką królów polskich, którzy nadali Słonimowi szereg przywilejów, dzięki czemu do dzisiaj Słonim posiada najstarsze tradycje rzemieślnicze i targowiskowe.

Sejmiki słonimskie przygotowały wielki akt Unii Lubelskiej. Tu także powstała pierwsza na ziemiach naszych opera i teatr, gdyż po Sapiehach przyszli godni następcy, jak hetman wielki Michał Ogiński, który oprócz pałaców, teatru, najprzedniejszych arcydzieł sztuki i drukarni, własnym kosztem przekopał kanał, łączący Jasiołdę ze Szczarą, a tym samym Niemen z Dnieprem i Bałtyk z Morzem Czarnym.

Słonim liczy 9 wspaniałych świątyń barokowych, które są prawdziwą chlubą architektury polskiej. Nie sposób tu omówić tak wspaniałego przepychu sztukateryjnego, tak cennych drobiazgów i szczegółów, którymi brzemienny jest każdy słonimski zabytek. A gdybyśmy zdołali wskrzesić ponadto dwa klasztory, z kościołami niewątpliwie gotyckimi, z których resztki jednego dochowały się jeszcze dla oczu ludzi dziś żyjących, a o drugim mamy wiadomości z zapadłych przed trzydziestu laty sklepień grobowych, to otrzymalibyśmy zajmujący obraz polskiego kresowego miasta klasztornego.

O niskich brzegach, rozlewna rzeka Szczara przepływa tu wzdłuż schodzącego na lewy jej brzeg

Тракелі (М. Шымялевіч), пра Слабаду і Бароўку (У. Абрамовіч), пра Шаўры, Ярэмічы і Мірскі замак (А. Снежка), пра капліцу ў Цвермах (Г. Баярунец). Пра лёсы людзей, якія пакінулі добрую памяць на Лідскай зямлі - пра Юрыя Ільініча, Вандаліна Шукевіча, Станіслава Баніфацыя Юндзіла, пра Напалеона Чарноцкага, Даніэля Нарбута (А. Снежка), пра Марыю Шукевіч і капітана Мяніцкага (Ю. Дзічканец), пра Марыю Ласковіч (У. Абрамовіч), пра лідскіх піяраў (М. Шымялевіч). Пра этнаграфічныя асаблівасці, мясцовы ўклад жыцця і народныя звычаі: “Сваты”, “Юрай”, “Вяселле”, “Народныя варожбы”, “Барцякі і барцянская воласць” (М. Шымялевіч), “Вясельныя звычаі”, “Насельніцтва паветаў Лідскага і Шчучынскага з пункта погляду антрапалогіі” (А. Гржымайла-Прыбытка), “Сёмуха” (Ю. Роўба), “Народныя прымаўкі” і “Уборачныя песні” (Урбановіч). Былі апублікаваныя найцікавыя мемуары Мірона Б. Нарбута аб жыцці лідзян у сярэдзіне XIX стагоддзя. Значная ўвага была нададзена гісторыі лістападаўскага 1831 і студзеньскага 1863 г. паўстанняў, падзеям 1812 г. (А. Гржымайла-Прыбытка), савецка-польскай вайне 1919-21 гг. Менавіта ў “Ziemie Lidzkaj” Уладзімір Галубовіч апублікаваў вядомы сярод археолагаў артыкул “Гарадзішчы і курганы Лідскай зямлі”. Асвятляліся эканамічныя пытанні, распавядалася аб прадпрыемствах, банках, гандлёвых таварыствах. Друкаваліся матэрыялы аб піўных заводах, каўбасных прадпрыемствах, хімічным прадпрыемстве “Карона” (М. Лаўрыновіч), чыгунна-ліцейным заводзе “Поланд” (Жмігродскі). У артыкулах шырока выкарыстоўваліся архіўныя і рукапісныя матэрыялы, артыкулы ілюстраваліся фотаздымкамі памятных месцаў і герояў артыкулаў. У раздзеле “Бібліяграфія” публікаваліся рэцэнзіі, рэкамендацыйныя анатацыі, агляды, водгукі на новыя кнігі і перыёдыку. На апошняй старонцы друкаваліся рэкламныя аб’явы. Старонка рэкламы ў 1937 г. каштавала 120 злотых, у 1939 - 200 злотых. Кошт не бянтэжыў рэкламадаўцаў: сваю рэкламу давалі як буйныя прадпрыемствы, такія як “Ардаль”, “Карона”, “Бенлянд”, “Унігум”, “Друтіндустрыя”, піўныя заводы, віленскі прыватны гандлёвы банк, так і дробныя: кафляная фабрыка “Нешар”, каўбасныя фабрыкі Вярсоцкага і Радзевіча, крамы “Галіна”, “Электрарад”, жаночых капялюшоў, футраў, разнастайныя таварыствы і суполкі, камунальная каса, жаночае атэлье Зайдмана, лекардантыст Дварэцкі.

У горадзе, у якім пражывалі 26 тысяч жыхароў, і не было буйных навуковых, вучэбных і культурных цэнтраў, выданне часопіса гэтак высокага ўзроўню - з’ява ўнікальная. “Ziemia Lidzka” лічылася лепшым краязнаўчым часопісам на тэрыторыі Заходняй Беларусі і адным з лепшых у міжваеннай Польшчы.

Са жніўня 1936 г. выдаваўся штотыднёвік Лігі дапамогі сябрам у Палестыне **“Lider Lebn”** пад рэдакцыяй А. Штэйнберга, выдаўцом быў дырэктар хімічнай фабрыкі “Карона” Сімха Каток. 20 лістапада 1936 г. выйшаў першы нумар часопіса **“Lider Folksblat”** пад рэдакцыяй Л. Розенталя. У канцы 1937 г. пад рэдакцыяй габрэйскага паэта Іосіфа Альбірта пачала выходзіць газета **“Lider Folks Frajnd”**. І. Альбірт

LIRNIK WIOSKOWY

CZASOPISMO ILUSTROWANE

PRZEDMURZE CHRZEŚCIJAŃSTWA

„LIDER NAJS” „Nowiny Lidzkie”
Redakcja
Ul. pułku Suwalskiego 70 tel.57.
redaktor JÓZEF ALBIRT
Przyjmuje wszelkie anonsy, reklamy, oraz gratulacje i nekrologi.
Pismo rozpowszechnione na woj. Nowogródzkie i Wileńskie

לידער לעבן

OPONY ARDALLI NIEZWYCIĘŻONE

*“Lider Lebn”*

напісаў і выдаў некалькі кніг.

У передваенны 1938 год у Лідзе былі надрукаваныя два нумары часопіса **“Lirnik wioskowy”**, заснаваныя штотыднёвая польскамоўная **“Gazeta Lidzka”** і незалежная габрэйская газета **“Lider Najs”** пад рэдакцыяй Іосіфа Альбірта. Рэдакцыя размяшчалася па адрасу друкарні Ш. Зяльдовіча на Сувальскай, 70.

У гэты ж год была выдадзеная кніга Ю. Дзічканца **“Samooborona Ziemi Lidzkoj”**.

3 сакавіка 1939 г. Сімха Каток і Ю. Пупко аднавілі выданне газеты **“Lider Lebn”**.

Пачалася Другая Сусветная вайна. 18 верасня 1939 г. Чырвоная Армія заняла Ліду. Друкарні былі нацыяналізаваныя, усе газеты зачыненыя: бальшавікі заўсёды нецярпіма ставіліся да чужога друкаванага слова.

У пачатку кастрычніка 1939 г. выйшаў першы нумар газеты “Ўперад”. Адзінаццаць першых нумароў не захаваліся; у маскоўскай “Ленінцы” архіўная падпіска пачынаецца з № 12 за 2 лістапада 1939 г. Газета выходзіла на двух палосах і друкавалася ў былой друкарні Ш. Зяльдовіча, яе спачатку назвалі друкарняй газеты “Ўперад”, а з верасня 1940 г. друкарняй Гарпрамкамбіната. Адным з друкарскіх рабочых быў Эліяху Дэмесек, другім Міхаэль Вайнапель. Першы з іх напісаў успаміны аб трагічнай гісторыі лідскіх яўрэяў у 1941-42 гг., другі - на працягу 34 гадоў быў дыктарам на радыё “Коль Ісраэль”.

З'явілася газета як орган часовага кіравання горада Ліды і Лідскага павету, затым стала органам гарадскога і раённага камітэта КП (б)Б. Першым рэдактарам газеты быў Б.Э. Абрамзон (да красавіка 1940, загінуў у 1942 г. у Сталінградзе), затым пасаду займалі А. Шванштэйн і М. Капулкін. 27 верасня 1940 г. рэдактарам быў прызначаны Аркадзь Прохаравіч Куліненка. У 1940-41 гг. у газеце працавалі ўнікальныя людзі: Валянцін Паўлавіч Таўлай (1914-47), Ніна Міхайлаўна Тарас (1916 - 2000), Якуб Герасімавіч Міско (1911-81), а таксама Міхаіл Аляксандравіч Леўкавец, М. Гарустовіч, М. Герт, І. Ubербаўм, Н. Зайко, У.Т. Панамароў; друкавалі свае вершы Іван Пятровіч Івашэвіч (1909-80) і Васіль Камянецкі. Стала публікаваліся нататкі з месцаў. Размяшчалася рэдакцыя на вул. Савецкай, 77.



*Карэспандэнт газеты “Ўперад” у 1939-41 гг.*
***Валянцін Таўлай***



*Карэспандэнт газеты “Ўперад” у 1939-41 гг.*
***Ніна Тарас***

У Лідскім гістарычна-мастацкім музеі захаваліся ўспаміны шафёра даваеннай рэдакцыі газеты “Ўперад” Георгія Гаўрылавіча Вінічка:

*“... Першым рэдактарам Лідскай газеты “Ўперад” быў Абрамзон, пасля яго - Капулкін. Капулкін да рэдакцыі працаваў у райвыканкаме, а пасля стаў рэдактарам. Абрамзон некуды выехаў. Капулкін працаваў месяцы 3-4. Потым прыслалі новага рэдактара - Куліненку. Яго жонка пачала працаваць у райвыканкаме. Першымі работнікамі рэдакцыі былі: Б.Э. Абрамзон, сакратар Леўкавец, журналіст Петрачкоў і я шафёрам. Потым прыслалі Таўлая, Разанава (з Вільні), Ніну Тарас і ў 1941 г. - Міско. Рэдакцыя размяшчалася на цяперашняй вуліцы Савецкай, супраць камбіната харчовых канцэнтратаў. Метраў 100 вышэй (на поўнач) была друкарня. У друкарні ў асноўным працавалі яўрэі, яны загінулі ў вайну. Спачатку ўсе работнікі размяшчаліся разам з Часовым кіраваннем у будынку Старосства, на месцы цяперашняй школы № 8* (на 1967 г.*).*

*Першы час, калі мы яшчэ размяшчаліся ў Старостве, мы ездзілі па раёну і агітавалі. Вазілі з сабой улёткі, цэнтральныя газеты. Дзе друкавалі ўлёткі, я не ведаю.”*



*Карэспандэнт газеты “Ўперад” у 1939-41 гг.*
***Якуб Міско***



*Шафёр рэдакцыі газеты “Ўперад” у 1939-41 гг.*
***Георг Віннічак***



РЕДАКЦИЯ
„УПЕРАД"
№ 8
Удостоверение № 8

*Пасведчанне № 8 шафёра рэдакцыі газеты “Ўперад” у 1939-41 гг.* ***Георгія Віннічка,*** *выдадзенае 4 траўня 1940 г. і падпісанае першым рэдактарам газеты “Ўперад” Б. Абрамзонам*

Гэта быў час усталявання Савецкай улады на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Ліквідаваліся прыватная ўласнасць і патэнцыйныя ворагі савецкай улады: службоўцы, асаднікі, афіцэры, абшарнікі, уладальнікі заводаў і фабрык, лясная ахова. Сяляне - беднякі атрымлівалі зямлю і жывёлу, адабраныя ў абшарнікаў і асаднікаў.




***Раздача газеты "Ўперад" у Лідзе ў 1939 г.***

У падшыўцы я не выявіў ніводнага матэрыялу аб нацыяналізацыі банкаў, прамысловых прадпрыемстваў, кватэр і крам, канфіскацыі земляў. Газета "Ўперад" асвятляла толькі пазітыўныя змяненні - паніжэнне беспрацоўя, павелічэнне прадукцыйнасці працы, павелічэнне зарплаты, будаўніцтва новых аб'ектаў.

За 15 месяцаў 1939-40 гг. тройчы праводзіліся выбары. Выбіралі ў Народны сход Заходняй Беларусі (22 кастрычніка 1939), у Савет Саюза, Савет Нацыянальнасцяў СССР і ў Вярхоўны Савет БССР (24 сакавіка 1940), у мясцовыя (абласныя, раённыя, гарадскія і пасялковыя) саветы (15 снежня 1940). Выбарам папярэднічалі грандыёзныя прапагандысцкія кампаніі, бо людзям трэба было растлумачыць як выбіраць з аднаго кандыдата. (Як у анекдоце: *Прывёў Бог да Адама Еву і гаворыць: "Выбірай сабе жонку"*.)

Газета з кастрычніка 1939 г. па красавік 1940 г. нястомна публікавала матэрыялы аб арганізацыі выбарчых участкаў, аб падрыхтоўцы агітатараў, склады акруговых выбарчых камісій, аб утварэнні выбарчых участкаў, аб нарадах агітатараў і прапагандыстаў, аб складанні спісаў выбарнікаў, аб вылучэнні кандыдатаў, аб працоўных дасягненнях да выбараў, аб кандыдатах, аб сустрэчах кандыдатаў з выбарнікамі.

Нумар 12 (45) ад 7 лютага 1940 г. Перадавая "Выбарчы участак - цэнтр агітацыйна-масавай працы". Указ Прэзідыюма Вярхоўнага Савета БССР аб зацвярджэнні складу акруговых выбарных камісій па выбарах у Савет Нацыянальнасцей ад заходніх абласцей Беларускай ССР", побач "Пастанова Лідскага раённага Выканаўчага Камітэта аб утварэнні выбарчых участкаў па выбарах у Вярхоўны Савет СССР і Вярхоўны Савет БССР". Артыкулы: "Вярхоўны Савет СССР", "Першае паседжанне Акруговай выбарчай камісіі", "Рабочыя дэпо рыхтуюцца да ўзорнай сустрэчы выбараў у Вярхоўныя Саветы СССР і БССР".

Нумар 17 (50) ад 23 лютага 1940 г. Артыкул "Дачка народа"- аб кандыдаце ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, работніцы абутковай фабрыкі "Ардаль" Браніславе Рыгораўне Казлоўскай; "Агітатары за работай" - аб агітатарах м. Дзівілішкі Воранаўскага раёна; "На прадвыбарнай нарадзе" - аб сустрэчы з кандыдатам Б.Р. Казлоўскай.

Пасля выбараў - найпадрабязны аповяд аб дні выбараў (надвор'е, музыка, прозвішчы першых выбарнікаў), вынікі выбараў, дасягненні працоўных калектываў прысвечаныя выбарам. *"Піваварны завод № 2 у гонар выбараў датэрмінова выканаў план выпуску піва на 109 %. Стары рабочы Міхась Якубоўскі (38 гадоў на заводзе) разам са сваім сынам Уладзімірам адраман-таваў датэрмінова 50 піўных бочак"*.

Грунтоўна асвятляліся ў газеце справаздачна-выбарныя партыйныя і камсамольскія сходы, партыйныя і камсамольскія канферэнцыі. Мноства матэрыялаў аб сацыялістычным спаборніцтве і стаханаўскім руху за годную сустрэчу чарговага свята.

Прысутнічалі матэрыялы і аб савецкіх святах. "Вечар, прысвечаны 22-ой гадавіне РСЧА і ВМФ" – на вечары выступілі батальённы камісар Іваненка: *"Сотні тысяч варашылаўскіх кг пасыпяцца на галавы ворага, і ён будзе разбіты там , адкуль прыдзе"* ; тав Луцэнка: "*з прывітаннем ад жон і падруг байцоў, палітра-*

*ботнікаў і камандзіраў, якія геройскі змагаюцца на франтах Фінляндыі" ... пад гром апладысментаў прыняты прывітальныя пісьмы арганізатарам Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту – вялікаму Сталіну і Наркому абароны Маршалу Савецкага Саюза К.Е. Варашылаву".*

Невялікія нататкі інфармацыйнага характару таксама неслі ў сабе сацыялістычны пазітыў.

У нумары 3 (36) ад 7 студзеня 1940 г. газета паведаміла, што Ефрасіння Аляксандраўна Радзевіч, работніца фабрыкі "Ардаль" у складзе дэлегацыі прысутнічала на святкаванні 15-годдзя рэспублікі Ўзбекістан. Дэлегацыя пабывала ў калгасах, на тэкстыльным камбінаце і шаўковай фабрыцы, на будаўніцтве канала, у Палацы піянераў, у музеях Ташкента, Самарканда, Бухары. У гэтым жа нумары паведамлялася, што ў Лідзе запланавана адкрыць музычную школу; на заводзе сельгасмашын № 2 адкрыты ларок, будзе свая сталовая, у кавальскім цэху ўсталявана выцяжная труба.

3 сакавіка 1940 г. паведаміла аб зацвярджэнні 3-ох удзельнікаў Усесаюзнай с/г выставы.

10 чэрвеня 1940 г. паінфармавала: *"У падрыхтоўцы да ўборачнай кампаніі Лідскім спажыўсаюзам завезена ў вёскі больш, чым 1000 штук косаў, каля 4000 штук бруcкоў, малаткоў і бабак, закуплена 10 т. вяровак".*

17 верасня 1940 г.(№ 88) пад агульным загалоўкам "Сягоння цымбалы не будуць больш плакаць" былі апублікаваныя артыкулы старшыні фабкама фабрыкі хімкультпрадметаў Кашчанскай Р.Я. "Фабрыка стала непазнавальнай"; Яна Цеслюка "17 верасня я знайшоў бацькаўшчыну"; успаміны старшыні заўкама завода сельгасмашын № 2 У. Петрыкоўскага "У вераснёўскія дні" і справаздача старшыні Лідскага гарвыканкаму Гладышава "Год савецкай улады ў Лідзе".

*"За гэты кароткі адрэзак часу на вызваленай зямлі адбыліся вялікія змены – Свабодны беларускі народ пад кіраўніцтвам бальшэвіцкай партыі правёў вялікую творчую работу... Карэнным чынам рэарганізавана прамысловасць, пабудаваны новыя прадпрыемствы, знішчан страшэнны біч капіталістычнай гаспадаркі - беспрацоўе... На ўсіх дробных прадпрыемствах Ліды працавала ўсяго каля 1400 рабочых, а 4718 чалавек былі беспрацоўнымі, то зараз працуе 3364 рабочых* (а куды 2754 рабочыя зніклі?)...

*Многа рабочых працуе на такіх уноў арганізаваных прадпрыемствах, як хлебакамбінат, мясакамбінат, горкамбінат. Краўцы і шаўцы, раней жорстка эксплаатуемыя ўласнікамі, ... цяпер працуюць на ўноў арганізаванай фабрыцы "Атэлье мод".*

*Значна ўзрасла зарабатная плата рабочых. Напрыклад, на фабрыцы "Ардаль" пры польскай уладзе заработная плата мужчын складала 1,5 злотых у дзень... Зараз на фабрыцы рабочыя атрымліваюць у сярэднім па 8 рублей 50 кап. у дзень.*

*У 1940 г. на народную асвету горада асігнавана 2 347 000 рублеў, ... польскія ўлады на 1939 г. асігнавалі на асвету па ўсяму былому Лідскаму павету толькі 1310 000 злотых ... Абучэнне ідзе на беларускай, рускай, яўрэйскай і польскай мовах. Арганізаваны 2 вячэрнія школы ...Адчынены яслі на 30 коек ...*

*Забрукавана і перабрукавана 15495 кубаметраў вуліц , пракладзена бетонных і гравійных тратуараў каля 10410 кубаметраў. Пабудаван новы мост і пракладзена па балоце дарога, каб злучыць пасёлак Расляκі з цэнтрам горада. Ідзе будаўніцтва гарадскога парка.*

*З'явіліся новыя людзі. На фабрыках, заводах растуць стаханаўцы і ўдарнікі... некатарыя сталі дырэктарамі тых прадпрыемстваў, на якіх раней працавалі рабочымі*".

У нумары 117 (150) ад 29 лістапада адна з старонак поўнасцю аддадзена фабрыцы "Ардаль".

Работніца А. Юневіч "Расту на рабоце", комсорг М. Раманоўская "Дзевятая брыгада", старшыня культкамісіі фабкаму Ў. Дубінскі "Культурнае жыццё нашай фабрыкі", рабочы С. Склізмунт "За высокую якасць", старшыня фабкаму М. Каброўскі "Наша фабрыка". Аўтары параўноўвалі мінулае жыццё і сучаснае, аб мінулым адзываліся вельмі негатыўна: *"панурыя дні мінулага", "майстры абыходзіліся з намі як з жывёлай", "турма без крат";* аб сучаснасці зусім па іншаму: *"высокі ўздым", "небывалы энтузіязм", "клопаты аб паляпшэнні ўмоў працы", "цяпер я адчуваю сябе свабоднай і шчаслівай".*

У снежні апублікаваны ліст калгаснікаў сельскагаспадарчай арцелі імя Леніна Ганчарскага сельсавета да ўсіх калгаснікаў Лідскага раёна: *"Мы, сяляне в. Ганчары, ... зразумелі, што калгасны шлях - гэта адзіна правільны шлях"*

Наклад газеты "Ўперад" на 12 верасня 1940 г. - 1400 асобнікаў, з 23 студзеня 1941 г. - 2600 асобнікаў. Ніна Тарас у 1940 г. і Валянцін Таўлай у 1941 г. былі прынятыя ў Саюз пісьменнікаў СССР. Апошні 230-ы передваенны нумар газеты "Ўперад" выйшаў у пятніцу 20 чэрвеня 1941 г. з перадавым артыкулам "Мацаваць абаронную працу".

Падчас нямецкай акупацыі ў Лідскай акрузе распаўсюджваліся нямецкія прапагандысцкія матэрыялы. У красавіку 1943 г. лідскі гэбітскамісар дакладваў Вільгельму Кубэ: *«Прапагандысцкая праца ў акрузе ажыццяўляецца распаўсюджаннем газет, якія прыходзяць у акругу з Баранавічаў, а таксама з Менска і Вільні. Друкарня, якая ёсць у горадзе, друкуе ў газетах усе 14 дзён палітычныя кароткія паведамленні, пра самыя важныя падзеі дня, якія размяркоўваюцца па 600 асобнікаў у раёны і воласці. Прапагандысцкі матэрыял, які пастаўляецца ў наша распараджэнне рэгулярна трапляў і ў вёскі».*

З дакладу выцякае, што ў лідскай друкарні друкаваліся нейкія газеты вялікім накладам па 600 асобнікаў на раён і воласць (у складзе акругі было некалькі раёнаў плюс воласці).

У гады акупацыі таемна на польскай мове друкаваліся і распаўсюджваліся ў Лідскай акрузе газеты **"Swit Polski"**(1942-44), **"Wschod Polski"** (1942-44), **"Szlakiem Narbutta"** (1943-44), **"Biuletyn Informacyjny Nadniemenskiego Zgrupowania AK"** (1944), **"Ostatnie Wiadomosci"** (1944) і **"Sursum Corda"** (1944). З Вільні даставлялася канспіратыўная газета "Niepodleglosc".



Świt Polski

ORGAN ZIEMI NOWOGRÓDZKIEJ

12. V. 1935

JÓZEF PIŁSUDSKI

*"Swit Polski"*

**"Swit Polski"**- друкаваны орган Наваградскай акругі Арміі Краёвай. Першы нумар выйшаў 11 лістапада 1942 г. З лістапада 1942 да лістапада 1943 газета друкавалася штотыдзень на шапірографе ў колькасці 200-300 асобнікаў. У снежні акруга атрымала ад Галоўнага Камандавання друкарню, наклад вырас да 5000 асобнікаў у красавіку, і да 7000 асобнікаў у чэрвені 1944. Друкарня размяшчалася на хутары каля Германішак. У чэрвені 1944 г. па загадзе каменданта акругі Вільні Аляксандра Крыжаноўскага, якому падпарадкоўвалася акруга Навагрaдак, газета была закрытая з-за публікацыі артыкула Станіслава Ваўрынчыка, у якім крытыкаваўся Ўінстан Чэрчыль за яго стаўленне да пытання аб усходніх землях Рэчы Паспалітай. Газета аднавіла працу пасля прыходу Чырвонай Арміі і таемна друкавалася да снежня 1945 г. Рэдагавалі газету кіраўнікі Бюро інфармацыі і прапаганды Наваградскай акругі АК Станіслаў Ваўрынчык псеўданім "Лігенза" - да ліпеня 1944, Часлаў Згаржзельскі псеўданімы "Рафал", "Збігнеў" - у ліпені-верасні 1944 г., Ежы Вронскі псеўданім "Ступня" - верасень 1944 -снежань 1945 г.

Газета **"Wschod Polski"** - друкаваны орган камандавання абводу Ліда. Выдавалася ў колькасці ад 200 да 500 асобнікаў спачатку 2 разы ў месяц, затым штотыдзень. У склад рэдакцыі ўваходзілі Вацлаў Падгайскі "Сокал", Часлаў Маркевіч "Файкун", Часлаў Шадзюль "Каліба" і Ядвіга Гурская "Іга".

Штомесячная газета **"Szlakiem Narbutta"** - друкавалася ў колькасці ад 100 да 300 асобнікаў з лістапада 1943 г. у другім батальёне АК пад рэдакцыяй Міхала Рзухоўскага, псеўданімы "Лебедзь", "Шары".

**"Ostatnie Wiadomosci"** і **"Sursum Corda"** - гэтыя газеты выдаваў ксёндз Гедзімін Пілецкі ("Длугаш") у паўночнай частцы асяродка "Бор" у 1944 г.

**"Biuletyn Informacyjny Nadniemenskiego Zgrupowania AK"** друкаваўся чэрвені-ліпені 1944 г. у Крывічах пад Беліцай у 4 батальёне АК.



ROK I MIESIĄC MAJ — 1944 NR 5

SZLAKIEM NARBUTTA

P P

ORGAN POLSKICH SIŁ ZBROJNYCH ZIEMI LIDZKIEJ

*"Szlakiem Narbutta"*

1 чэрвеня 1943 г. было адноўлена выданне газеты **"Ўперад"**. 5 чэрвеня газета была распаўсюджана ў Лідскім раёне. Рэдактарам партызанскай газеты "Ўперад" на працягу двух месяцаў быў партызан атрада імя А. Неўскага даваенны журналіст **Г.Г. Коган**. Пасля яго гібелі рэдактарам прызначылі партызана атрада імя Чкалава, да вайны педагога **Ю.Б. Драгуна**. Яму дапамагалі Н.Ш. Кізнер і Б.У. Разанаў, якія асвоіў працэс вырабу драўляных клішэ - некаторыя з іх захаваліся і



УПЕРАД

К оружию, товарищи!

*"Уперад", 1943 г.*

захоўваюцца ў фондах Лідскага музея. Спачатку газета выпускалася на базе Баранавіцкага падпольнага абкаму партыі, затым каля в. Поташня ў Налібоцкай пушчы, дзе размяшчаўся Лідскі міжрайпартцэнтр. Газета набіралася і тыражавалася ў партызанскай зямлянцы ўручную. Фармат - стандартны ліст пісчай паперы, гэта маглі быць сшыткавыя лісткі ў клетачку і касую лінейку і нават абгортачная папера. Да 8 ліпеня - дня вызвалення Ліды было выпушчана 52 нумары.



***Ю.Б. Драгун***

Газета паведамляла аб пасоўванні Чырвонай арміі, паспяховых дзеяннях партызан, клікала насельніцтва на барацьбу з акупантамі. У газеце за 23 лютага 1944


Да здравствует героическая Красная Армия!

УПЕРАД

КРИВОЙ РОГ

***"Уперад", 1944 г.***

г. у нататцы "Партызанскі ашаламляльны агонь" апісана знішчэнне паліцыянтаў Бярозаўскага гарнізона: *"Сіламі падраздзялення партызан, якім камандаваў Сяргей У. (Васільеў), была ўладкована пастка на нямецкіх карнікаў, якія лютавалі каля населенага пункта г. (Бярозаўка). На полі бою засталіся трупы 8 нямецкіх афіцэраў і 22 паліцыянтаў. Народныя мсціўцы захапілі ў ворага 2 аўтамашыны, 2 кулямёты, 3 аўтаматы, 8 пісталетаў, шмат патронаў і гранат".*

20 сакавіка 1944 г. у газеце была апублікаваная нататка аб зверствах у Бурносах, дзе бандыты закалолі багнетамі А. і І. Козел; у Дакудаве, дзе былі закатаваныя 8 мужчын, 3 жанчыны і шасцёра малагадовых дзяцей. Паведамлялася аб трагедыі сям'і Івана Сымановіча ў в. Пятры. Нататка заканчвалася заклікам: "Адпомсцім подлым фашыстам за пакуты і кроў, нявінна пралітую нашым народам!". Павінен заўважыць, што зверствы гэтыя здзейснілі не подлыя фашысты, а свае славянеакаўцы.

30 сакавіка паведамлялася аб поспеху падрыўнікоў атрада Анатоля Б. За тыдзень яны пусцілі пад адхон два вайсковыя цягнікі. Знішчаны паравоз і 13 вагонаў з тэхнікай і розным вайсковым грузам, яшчэ адзін паравоз і 4 вагоны грунтоўна пашкоджаны.

За перыяд з чэрвеня 1943 г. па ліпень 1944 г. выйшла 52 нумары газеты агульным накладам 25 тысяч асобнікаў.

У пасляваенныя гады газета "Уперад" доўгія гады была адзіным мясцовым друкаваным выданнем. Тысячны нумар з'явіўся 5 траўня 1951 г., 2000-ны - 23 кастрычніка 1957 г., 3000-ны -18 красавіка 1964 г., 4000-ны - 24 верасня 1969 г., 6000-ны - 20 студзеня 1976 г, 7000-ны - 9 снежня 1980 г. Наклад газеты, пачынаючы з 1949 г., няўхільна падымаўся - з 5000 асобнікаў да 21883 у чэрвені 1990 г. Падчас эканамічных узрушэнняў наклад памяншаўся да 8100 (люты 1994) і ізноў падымаўся да 19320 (сакавік 1999). У 1992 г. газета перайшла на трохразовы выпуск. Рэдактарамі працавалі **Ю.Б. Драгун** (жнівень 1943 - лістапад 1949), **Н.І. Спаткай**, **А.Л. Гарэлік**, **А.У. Богуш**, **А.В. Жалкоўскі**, **А.П. Бяспалы.** Да вясны 1945 г., да ад'езду ў Менск, у рэдакцыі працавала Ніна Тарас. Публікавалі свае першыя вершы Д. Бічэль, Я. Міско.

Рэдакцыя газеты пасля вайны размяшчалася па вул. Кірава (Кірава, 20 - дом знесены, і Кірава, 24 - буды-


Уперад

СТАЛІН

ЗАГАД

Міністра Ўзброеных Сіл Саюза ССР

***"Уперад", 1948 г.***

---

***Драгун Юльян Браніслававіч*** *(1910-1973) нарадзіўся ў в. Лукашы Менскага павету Менскай губерні. Скончыў ШКМ у Койданаўскім раёне (1930), вучыўся ў Ленінградскай педвучэльні (1930-33), скончыў Гомельскі педінстытут (1937). Выкладчык хіміі і біялогіі ў Прапойскай СШ (1937-41). У палоне ў нямецкіх лагерах (ліпень-жнівень 1941). На сельскай гаспадарцы ў бацькоў у в. Лукашы (11.41-11.42). Прымаў удзел у арганізацыі партызанскага атрада імя Чкалава, нам. камісара па камсамоле атрада імя Чкалава (11.42-10.43), рэдактар газеты "Ўперад" падпольнага Лідскага ГК і РК КП(б)Б (10.43-7.44), адказны рэдактар газеты "Ўперад" (1944-49), у 1946 г. уступіў у члены КПБ, лектар Лідскага гаркаму (11-12.49), адказны сакратар таварыства па распаўсюджванні палітычных і навуковых ведаў абласнога аддзялення ў г. Гародні (12.49-10.53), дырэктар Гарадзенскай СШ № 3 (10-12.53), дырэктар міжабласной СШ (12.53-09.54), выкладчык медвучэльні (9-11.54), дырэктар Гарадзенскай СШ № 8 (11.54 -5.57), загадчык райана Гарадзенскага раёна (5.57-4.59; 4.62-6.64) дырэктар абласной завочнай школы (4.59-9.60), дырэктар СШ № 14 (9.60-4.62), метадыст Гарадзенскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў (6-8.64), завуч СШ № 5 (8.64 - 4.68). Пенсіянер з красавіка 1968 г. Ганаровы грамадзянін г. Ліды (1965).*



***Рэдакцыя газеты "Ўперад", 1949 г.***



***Рэдакцыя газеты "Ўперад", 1955 г. У цэнтры А.Л. Гарэлік.***



***Гарэлік А. Л.****, рэдактар лідскай газеты «Ўперад» (1969-?)*



***Двухпавярховы будынак рэдакцыі газеты “Ўперад” і лідскай друкарні да сярэдзіны 1960-х гадоў, Кірава, 20. Знесены.***

нак ЖКГ). Пэўны перыяд (на час рамонту будынка) рэдакцыя размяшчалася ў Доме паляўнічага на Міцкевіча, 54. Друкарня размяшчалася па Кірава, 20. У сярэдзіне 60-х і рэдакцыя, і друкарня пераехалі на вул. Ленінскую, дамы № 48 і 23 адпаведна (друкарня ў 1964 г.).

Газета “Уперад” за савецкім часам не адзін раз мяняла сваю назву - звалася “Сцяг працы” (травень 1962 г. - 6 ліпеня 1966 г.), зноў “Уперад” (ліпень 1966 г. - 3 снежня 1991 г.), але ніколі не мяняла сваёй савецка-камуністычнай сутнасці - тыповая раёнка, з усімі ўласцівымі такім газетам хваробамі. Пісалі аб тым, што было трэба партыі: аб уборачных кампаніях, узнагароджваннях, дробных сварках і дробных недахопах, “правільнай” савецкай мовай і з класавых пазіцый. З’яўляліся



СВЯТА ВЫЗВАЛЕННЯ

УПЕРАД

У Савеце Міністраў СССР



ДА НОВЫХ ПЕРАМОГ

СЦЯГ ПРАЦЫ

Насустрач XXIII з'езду КПСС

СТАРТ НОВАЙ ПЯЦІГОДКІ ЎЗЯТ



***БОГУШ Аляксандр Уладзіміравіч****, рэдактар лідскіх газет “Сцяг працы” і «Ўперад» (1963-69)*

***Богуш Аляксандр Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 15 верасня 1930 г. у Карэліцкім раёне. Скончыў Мірскую СШ (1949), завочнае аддзяленне журналістыкі БДУ (1958), аспірантуру БДУ (1968), Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. Карэспандэнт газеты Мірскай МТС “За высокі ўраджай” (з 1950), адказны сакратар, намеснік рэдактара Мірскай газеты “Сцяг свабоды” (з 1954), рэдактар Казлоўшчынскай газеты “Сцяг Перамогі” (1956-63), рэдактар газеты “Ўперад” (1963-69), карэспандэнт (1969-79), намеснік рэдактара (1979-80), рэдактар газеты “Гродзенская праўда” (1980-91). У 1991-98 гг. - у Гарадзенскім абласным аддзяленні Беларускага фонду культуры, з 1998 г. наменік рэдактара часопіса «Ученые записки», з 1999 г. - рэдактар часопіса «Вестник Гродненского университета». Член Саюза журналістаў (1959), кандыдат гістарычных навук (1971), “Заслужаны працаўнік культуры Беларусі “ (1987). Выдаў зборнік краязнаўчых аповядаў “Жухавіцкае вымярэнне” (Ліда, 1997).*



У Цэнтральным Камітэце КП Беларусі і Савеце Міністраў БССР

УПЕРАД

Лідчына на юбілейнай вахце

БЫЦЬ ВЫСОКАМУ ЎРАДЖАЮ



***Жалкоўскі Аляксандр Васільевіч**, рэдактар лідскай газеты «Ўперад» (1969-86)*

***Жалкоўскі Аляксандр Васільевіч** (1.03.1933 - 14.04.2011) нарадзіўся ў в. Цёмнае Балота Астрынскай гміны Шчучынскага павету. Вучыўся ў Дэмбраўскай сямігодцы (1944-1949) і Астрынскай СШ (1949-1950). Працаваў у Васілішкаўскай раённай газеце “Ленінскі шлях” (1950-53). Другі сакратар Васілішкаўскага РК ЛКСМБ (1953-1954). Скончыў Гарадзенскую завочную сярэднюю школу (1954). Заг. сектара партуліку Васілішкаўскага РК КПБ (1955-56), ізноў рэдакцыя ў Васілішках (1956-57). Слухач Менскай ВПШ (1957-61). Рэдактар Воранаўскай газеты “Ленінскі сцяг” (1962-65), нам. рэдактара лідскай газеты “Сцяг працы” (1965 - 69), рэдактар Мастоўскай раённай газеты “Зара над Нёманам” (1969), нам рэдактара, рэдактар лідскай газеты “Ўперад” (1970-86), улас. кар. газеты “Гродзенская праўда” (1986-2001).*



***А.П. Бяспалы,** рэдактар лідскай газеты “Ўперад”, 1986-1991 гг.*



***Рэдакцыя газеты “Ўперад”, Ленінская, 48.***



**Алесь Стадуб,**
*карэспандэнт газеты “Ўперад”*



**Уладзімір Васько,**
*карэспандэнт газеты “Ўперад”*

фельетоны, краязнаўчыя артыкулы. У газеце працавалі будучыя сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў **Алесь Стадуб, Пятро Макарэвіч** і **Ўладзімір Васько**, паэты **Тадэвуш Чарнавус, Леанід Казачэўскі**. У газеце за час яе існавання друкаваліся многія відныя журналісты, у тым ліку будучы дырэктар Рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і мастацтва” **Алесь Карлюкевіч**.

У газеце друкаваліся мясцовыя паэты Міхась Мельнік, Віктар Бачароў, Смарагд Сліўко, Леанід Віннік, Іван Гушчынскі, Святлана Цішук і інш. Пра газеце дзейнічала літаратунае аб’яднанне.



***Пятро Макарэвіч,** карэспандэнт газеты “Ўперад”*

У канцы 1980-х - пачатку 1990-х гадоў газета набыла дэмакратычныя рысы, выступала з вострымі матэрыяламі ў падтрымку дэмакратычных працэсаў, у падтрымку беларускай мовы, захавання гістарычнай спадчыны.

Не гледзечы на даволі жорсткія рамкі, у якіх існавала газета, яна заставалася адзінай крыніцай ведаў пра тое, што адбываецца ў горадзе і раёне, перыядычна наклад яе перавышаў 20000 асобнікаў або быў каля таго.



***Комплекс Лідскай друкарні, Ленінская, 23. Канец 20-га ст.***

***З літаратурнай спадчыны***

# НАПІСАНА Ў ЛІДЗЕ

## Які Арол напісаў паэму?

Калі я ўпершыню прачытаў паэму “Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім?”, якую прапаную чытачам “Лідскага летапісца” і якая сёння ў друку з’яўляецца ўпершыню, мне прыгадаліся радкі верша “Сваякі” Янкі Купалы:

*Раз абселі беларуса*
*Маскалі ды ляхі,*
*І давай яму сваяцтва*
*Тыкаці з-пад пахі:*
*— Ты мой ісцінны браточак! —*
*Маскалёк бармоча;*
*— Ты мой хрэснік, мой сыночак! —*
*Юда-лях сакоча.*
*Беларус жа ім на тое:*
*— Сваячкі мае вы:*
*Смачны жолудзь вам на каву,*
*Ды высока дрэва!*



Гэты верш наш пясняр напісаў ажно ў 1914 годзе. Але ён не састарэў да сённяшніх дзён. І яго смела можна паставіць эпіграфам да паэмы “Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім?”, якая была напісана ў 1921 годзе ў Лідзе. Праўда, хто аўтар “кветачак…” — застаецца загадкай. Адны даследчыкі сцвярджаюць, што аўтарам паэмы з’яўляецца беларускі паэт Сцяпан Пяцельскі* (1890-?), які друкаваў свае творы пад псеўданімам М. Арол. Іншыя не пагаджаюцца з гэтым і кажуць, што паэму напісаў нейкі іншы М. Арол. Так кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч, які ў 1991 годзе сабраў і склаў спадчыну М. Арла “Лірнік” (Мн., 1991), лічыць, што пад псеўданімам М. Арол выступаў нехта іншы, але не Сцяпан Пяцельскі. Таму і паэма гэта не была ўключана ў кнігу М. Арла “Лірнік”. Тым больш, што М. Арол, па сцвярджэнні Янкі Саламевіча, памёр ад тыфу ў 1918 годзе на Украіне, а паэма “Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім?” была напісана ў Лідзе ў 1921 годзе. Такой думкі прытрымліваўся і яшчэ адзін беларускі літаратуразнавец Генадзь Шупенька.

Даследчык спадчыны М. Арла заслужаны настаўнік Беларусі з Гудзевіч Мастоўскага раёна Алесь Белакоз на сто працэнтаў упэўнены, што аўтарам “кветачак…” з’яўляецца менавіта Сцяпан Пяцельскі. Аўтару гэтых радкоў ён паведаміў, што М. Арол ад тыфу не памёр, а загінуў дзесьці ў пачатку 1920-х гадоў на Беларусі ці ў Латвіі. Яго родныя людзі пра гэта не ведалі, бо не вярнуліся з бежанства, а былі аддзелены мяжой ад Беларусі. Пэўны час Сцяпан Пяцельскі знаходзіўся ў Лідзе, дзе і напісаў сваю паэму…

Праз 90 гадоў паэма М. Арла прыходзіць да чытачоў, хаця, вядома, яна выкліча ў іх неадназначную рэакцыю. Тым не менш, гэта наша літаратурная спадчына, яна належыць беларусам, і мы пра яе павінны ведаць.

***Сяргей ЧЫГРЫН.***

**На здымку:** *паэт М. Арол (Сцяпан Пяцельскі).*

*Сцяпан Пяцельскі (літ. псеўд. М. Арол, каля 1890, в. Гарадок Беластоцкага павету, Польшча -?) — беларускі пісьменнік, публіцыст. Нарадзіўся ў сялянскай сям’і. Пасля заканчэння царкоўна-настаўніцкай школы ў Ялоўцы (1909) вучыў дзяцей у Ялоўцы, Гарадку, пазней у Струзе (цяпер Мастоўскі раён, 1910-12) і Парэччы на Гарадзеншчыне. У 1913-14 г. жыў на Ковеншчыне. На пачатку Першай Сусветнай вайны мабілізаваны ў армію. Прымаў удзел у баявых дзеяннях. Узнагароджаны Георгіеўскім крыжам. Апошнюю вестку да сям’і выслаў 25 верасня 1917 з Украіны, дзе стацыянавала яго 16-я артылерыйская брыгада.

З першым вершам выступіў у друку ў 1909 г. (газета «Наша ніва»). Паэтычныя і публіцыстычныя творы пісьменнік публікаваў у “Беларускім календары «Нашай нівы», часопісе «Лучынка» і іншых беларускіх выданнях. Падрыхтаваў кніжку паэзіі «Лірнік» і ў 1913 паслаў у Віленскае выдавецкае таварыства, але выхаду яе перашкодзіла Першая Сусветная вайна. Асобныя творы змешчаны ў кнігах «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры» (Вільня, 1927), «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967), у «Беларускім календары» (Беласток, 1979).

**М. АРОЛ**

# Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім?

Быў час… ах, слаўны быў час і ў нас —
Беларусаў з літоўцамі!
І ўспомніць ёсць аб чым,
І пагутарыць аб ім,
Аб тым часе старадаўнім
Так радасна!..
Два народы працоўныя, два люды сялянскія,
Каб чэсць сваю збараніць,
незалежнасць сваю захаваць
Ад ворагаў розных: ад немцаў закованых ў сталь,
Ад татар жоўтатварых, расейцаў магутных,
Асабліва ж ад ляхаў зайздросна-хітручых, —
Два народы гэтыя братэрскія
Шчыры і моцны саюз утварылі.
Саюз гэты шчыры двух народаў суседніх,
Саюз літвінаў з беларусамі
Даў магчымасць люду працоўнаму
Адагнаць сваіх ворагаў.
Мужнасць даў захаваць незалежнасць
Беларуска-літоўскага княства,
Даў магчымасць багацця сваё ўтрымаць
Ад варожых лап усіх ласых такіх,
Ад усяго, што здабыта цяжкай працай сялянскаю,
А не войнамі, не грабяжамі ў землях чужацкіх.
Між народамі брацкімі,
У агульнай дзяржаве літоўска-беларускай
Не чуваць было спрэчак аб межах сваіх,
Аб мове дзяржаўнай, усе былі роўныя.
Пашыралась асвета, навука і гандаль,
А моц усё ўзрастала да жаху ўсіх ворагаў.
Але быў адзін вораг, які не хацеў,
Не хацеў у супакою пакінуць
Беларуска-літоўскае княства.
І моцы не маючы гвалтам здалець, —
̈н хітрасцю хціўся пятлю накінуць
Люду працоўнаму.
Ось, з варожай старонкі заходняй,
Зрыхтаваліс паны ў падарожжа далёкае
Ў Беларусь і Літву за паважнымі справамі.
Добра ведае, што літоўцаў ці то беларусаў,
Як старых вераб'ёў на мякіне не зманіш,
Паны гэтыя хітрыя захапілі з сабой
Шмат чаго…
Іезуітаў вучоных, здольных Бога і чорта зманіць,
Дыпламатаў хітручых, што за пекнымі словамі
Чорныя, злыдныя думкі хаваюць…
Каб здзівіць — панабралі з сабой
розных рэчаў заморскіх,
Убраліся ў адзежы вытворныя,
Каб не гэтак, дык так, а не так, дык вось гэтак,
І ўсялякімі чынамі абыйсці, абмыліць, абхітрыць
Літвіноў з беларусамі.
Прыязджаюць і кажуць гэтак лісава-хітрасна:
— Князі-ваяводы літоўска-беларускія!
Паслухайце нас з Польшчы пекнай прыехаўшых.
Мы вам праўду згаворымо,
Праўду надта патрэбную,
Каб вы ведалі — навучыліся,
Як ад дзікасці вашай пазбавіцца…
Выбачайце вы нас, але ж вы — азіяты!
Ваша вера — паганская, вашы звычаі — дзікія,
Ваша мова — лясовая, ваша мова — барбарская,
І адзеты вы ўсе горш, чым хлопы вясковыя…
Пагпядзіце на нас, на адзежы прыгожыя
І на дзівы нашы заморскія…
А час будзе вольны ў вас, князі-ваяводы,
Іезуітаў вучоных паслухайце…
Іх прамовы, кніжкі разумець навучыцеся.
А навучыцесь —
здольных да вас дыпламатаў прышлём,
Каб вучылі вас справам дзяржаўным,
Як народам сваім кіраваць
І здабываць сабе славу бяскрайнюю…
Наша польская мова — прыгожая,
Бо мы з Захадам знаемся…
Набіраемся…
(ох, чуць не ўскочыла слоўка “малпуемо”),
Набіраемось там адукацыі і прыгожы манер
І ўсяго… (чуць “грашэй” не сказалася),
І ўсяго… чаго хочацца.
Літвіны з беларусамі насцярожыліс, прызадумаліс:
— Штосьці ёсць тут вужачага…
Не дарма гэта ляхі прыехалі,
Не дарма яны слоўкі закідваюць,
Штось ды хочуць ад нас выклянчыць
І каб у вочы не кінулась
Пачынаюць занадта здалёку:
— Аб мове гавораць, пра звычаі кажуць,
Вопраткі, дзівы заморскія, тычуць
І славу бяскрайнюю зычуць…
Іезуіцкіх кніжок навязлі, дыпламатаў варшаўскіх…
Просяць з мовай паляцкай спазнацца,
Каб ляпей нас зманіць
І салодкай атрутай спаіць…
Сталось так, як памыслілі.
Праз нейкі час зноў звяртаюцца ляхі
З такімі салодкімі слоўцамі:
— Каб запэўніць вас,
Што кахаем вас,
І не будзем вам шкоды рабіць,
Вашай згоды мы толькі папросім,
Каб вам… кветак прысласць,
Польскіх кветак, пахучых…
Так аддзякаваць вас мы жадаем

За прыхільнасць за вашу, за ласку,
А ў прыдачу да кветак —
Дыпламатаў сваіх… іезуітаў…
Мы таксама ў вас пакідаем.
Няхай яны панскія кветкі пільнуюць,
Бо нашыя кветачкі кволыя
Патрабуюць добрай выховы,
Вымагаюць добрага гною…
І адна небяспека палохаець нас —
Гэта прыкрая… гнойная справа:
Баімось, кабы гной беларуска-літоўскі
Не пашкодзіў бы кветкам варшаўскім…
Але… ўсё ж такі кветачак польскіх,
Кветачак пекных, пахучых
Мы вам прышлём.
Калі ж прыдзецца блага
Кветачкам нашым каханым…
Мо варшаўскіх садоўнікаў
К вам мы дашлем
І яны, дзе патрэбна,
Дзе шкоду гной робіць, —
Аздабляць, выкідаць яго будуць
Па рэцэптам варшаўскім…
А прамовіўшы так, сабраліся паны
І паехалі зноў да сябе,
Каб ў Варшаўцы сваёй паўвар'яцкай
Баляваць сваю хітрасць паляцкую.
Літвіны з беларусамі, хоць сур'ёзныя людзі былі
І падчас добра ляхам патыліцу "грэлі",
Яны так мяркавалі з народам сваім:
— Што ж, сяляне-браты,
Не злякаемось мы
Гэтых кветак паляцкіх пахучых!..
Хай прышлюць!.. Хай растуць і ў нас
Яшчэ новыя кветкі… замежныя.
Калі пекныя будуць і паху дадуць,
Дык пасадзім расці і цвісці
На ўцеху дзяцей нашых мілых…
А калі ўсё — мана… і збадаемо мы,
Што паляцкія кветкі — атрута,
Дык затопчамо, знішчымо іх,
Як тую крапіву прыплотную…

* * *

Праз нейкі час, беларусы з літоўцамі
Азірнуліся — вачам не паверылі:
У Беларусь і ў Літву панаехала
Ўсіх гатункаў і масці, і колеру
Шмат паноў і паўпанкаў варшаўскіх…
Спяшаюцца землю купляць, будавацца,
І дзе-нідзе імкнуцца сялян абіраць,
Карыстаючысь іх цемнатой ды пакорай…
Ось пытаюцца гэтых наезнікаў
Ваяводы літоўска-беларускія:
— Хто паслаў вас? Адкуль вы?
І чаго вы так пхаецесь
У землі нашыя, землі сялянскія?
Што згубілі вы тут ці пакінулі?..
Адказалі на гэта паны:
— Чулі аб кветках,
Кветках пахучых?
Мы — тыя кветкі!
Мы — тыя пахі!
Згоду вы далі —
Сябе вінавацце…
Мы ж, палякі, —
Разумныя людзі.
Мы — ўсе паны,
А не проста хлопы.
Зямлю закупім,
Можа змахлюем,
Дамы збудуем,
Вашай працай.
Садзікі створым,
Кветак пасеем,
Кветак з атрутай…
Ўсё, зробім, усё… —
Не бядуйце!
Толькі бяда ёсць адна:
Гной ваш літоўскі ці то беларускі
Бульбу гадуець, хлеб добра родзіць.
Але для кветак зусім не падходзіць…
Ўрэшце… нішто! Мы будзем сеяць,
Будзем садзіць, пільнаваць, ратаваць…
Дайце нам, літвіны, беларусы,
Дык праз сотню гадоў, а можа хутчэй,
Столькі кветак мы тут распаўсюдзім,
Што забудуць сяляне пра бульбу і хлеб,
Упіваючысь пахам паляцкім!
А мы будзем працаю іх карыстацца
І кішэні грашмі набіваць…

* * *

З той пары шмат гадоў прамінуло.
Больш як сотню гадоў іезуіты, ксяндзы,
Дыпламаты, пісакі варшаўскія
Ўсё ўбівалі ў сялянскія галавы, —
Што паны — між сялян,
А маёнткі — між вёсак —
Гэта — "кветкі заходняй культуры",
Што сяляне Літвы, жыхары Беларусі,
Ўсе тут людзі, іх вёскі і праца
І ўсё гэта разам сабраўшы, —
Толькі — грунт, толькі — гной,
Каб раслі гэтыя польскія кветкі…
Што было паскудна і дзіўна:
То — не толькі жыхарству Літвы, Беларусі,
А нават народам заходняй Еўропы
Імкнуліся палякі ім вочы сцяміць, —
Пісалі, крычалі і нават кляліся:
— Насадзім культуру Літве-Беларусі,
Толькі дайце нам волю і права
Сялянства ўпрагчы, як працоўнае быдла!..
Сярод польскіх гарачых галоў
Пазнаходзіліся нават такія,
Якім марылась… Бог няхай крые!
Па-над ўсёй Беларусяй з Літвою
Запахнуць ўсе польскія кветкі,

Польскі пах запануе над вёскай,
Не чуваць будзе гутаркі “хлопскай”…
Будзе Польшча… ах, Польшча “ад пекла да пекла”!
Але не, не збылісь гэты мары паляцкія!
Схамянулась жыхарства ў Літве, Беларусі:
Ачуняла ад паху варшаўскага
І ўбачыло добра, што ўсюды
Столькі вырасце кветак пахучых…
Гэты пах напаўняе паветра атрутай,
Ад якой у сялян так баліць галава,
Мазалі на далонях так хутка растуць,
Ныюць плечы ад працы натужнай.
Заўважыў таксама літвін з беларусам,
Што не ўсюды паны… выбачайце!.. кветкі,
Не ўсюды кветкі расквітаюць, не ўсюды растуць.
Дзе сяляне мацней і ляпей згуртаваныя,
Дзе мацней і зручней падцінаюць касой,
Нават рэжуць касой і топчуць нагой —
Там марнуюцца кветачкі панскія.
Запрыкмеціўшы так, пачалі пільнаваць
Добрай хвілі і зручнага мэнту,
Кабы разам, ў канец і дашчэнту
Пакасіць, патаптаць гэты кветкі паганыя…

* * *

Літвінам якось трапілась лепі…
Надыйшоў гэты момант жаданы
І пайшлі працаваць востры косы літоўскія,
Падразаючы польскія кветкі!..
Сталі гінуць, марнець,
Траціць колер і пах,
Усыхаць, прападаць… уцякаць…
Гэты… як іх… магнаты пахучыя!..
Праўда, што ёсць, засталося ў Літве
Дзе-нідзе — пар з дзясятак маёнтачкаў польскіх,
Але… соку няма, пах сапсуўся зусім…
Селянін тут з касою ля боку стаіць…
Дышыць вольным паветрам літоўскім
І пяець сабе песню сялянскую:
— Квецікі, вы кветачкі, годзі вам тут жыць,
Годзі, мае мілыя, сокі нашы піць!..
Выязджайце ў Польшчу, дзе чакаюць вас,
Бо здарыцца хвіля… і я зрэжу ўраз…

* * *

Беларусам не так шанцавала…
Часамі траплялась і добра скасіць
Тыя кветачкі польскія, гэты пахі смярдзючыя,
Затаптаць і з карэннем павыдраць,
Як палын ці крапіву прыплотную…
Але зноў такі, зноў выраслі паганыя!..
А за імі раслі, як грыбы па дажджу
Ўсё жандары, жандары… жандары…
Селянін-беларус зразумеў ужо добра,
Зразумеў, што ад кветачак польскіх атрута плыве,
Каб яго атруціць і ў магілу спусціць…
Не паночкі! Не, кветкі смярдзючыя!
Не абмыліць вам люду сялянскага!
Бо ён добра пазнаў, дасканала даведаўся,
Чым вас можна згубіць, даканаць.
Трэба усім беларусам-сялянам
Аб’яднацца, і зліцца, і мэту паставіць:
Усё глыбей і мацней сваім плугам араць,
Каб з карэннямі кветачкі рэзаць.
Разам ўсёй грамадой выхадзіць на пакос,
Навастрыўшы ўсе косы сялянскія,
Каб смялей і мацней, і шырэй
Пасцінаць ўсе атрутныя кветкі,
А далей… а далей, каб насення не далі
Ўсіх у Варшаву пасламць…
Хай палічуць іх у Сейме варшаўскім!..
Толькі гэтакім чынам, грамадскім змаганнем
Дасягнуць можна мэты жаданай.
Беларусы-сяляне! Вы павінны змагацца,
Змагацца агульнай вялікай сям’ёй,
Каб пасохлі ўсе кветачкі польскія
І дарогу да вашай зямлі каб забылі,
Як забылі ўжо да Літоўскай!

Ліда, 1921 г.

# АГЛЕДЗІНЫ

## 80 гадоў Алесю Стадубу*



Калі ў маіх родных Сейлавічах з бацькавай хаты выйсці за хлеў пад векавечную грушу і глянуць удалечыню, то там за Кулікам, за Вомшарам, амаль на гарызонце, відны вершаліны дрэў, яснай ноччу там відны агні - гэта Юшавічы. Цяпер кожны раз, глянуўшы ў той бок, я дадаю: Стадубавы Юшавічы. Нават, калі хмурна і не відно ні дрэў, ні агнёў, я ведаю, што там Юшавічы, у якіх нарадзіўся паэт Алесь Стадуб. Волей лёсу Алесь Стадуб сустрэўся мне ў Лідзе і стаў самым блізкім земляком, бо ні з Затур'і, ні з Бузуноў, ні з Андрушоў, ні з Кунасы сустрэць тут нікога не ўдалося.

А як яшчэ Стадуб - паэт, то душа блізкая і зразумелая, з якім здараецца глядзець на гэты свет аднымі вачыма і ўспрымаць падзеі аднолькава. А вось выказацца і пра свет і пра падзеі выпадае па-рознаму. У Стадуба свае словы, свае вобразы, не імкнецца ён быць ні лепшым за каго-небудзь, ні падобным на каго, і тым ён ёсць паэт Алесь Стадуб, такі як ёсць.

Надарылася пачуць яго кароткі верш. Хто-небудзь, напісаўшы такое, не паставіў бы кропку пасля чацвёртага радка. Стадуб паставіў, бо гэта яго крэда:

*Не раз адольваў сцежкі коўзкія*
*На стромкі, велічны Парнас,*
*Каб там багі і дзеці боскія*
*Любілі Беларусь і нас.*

Парнас – міфічная гара, месца прапіскі багоў мастацтва, але імкнуцца паэты туды зусім рэальна, бо калі імкненне тое толькі ўдаваць, то і будзе не паэзія а ўдаванне, імітацыя. Але, як бы не хацелася адсачыць шлях Алеся Стадуба на гэты самы Парнас, не ўдаецца, бо кніжкі Алеся Стадуба, чытаю прыхваткамі. Але калі возьмешся за якую, зачэпішся за думку, патонеш у гармоніі радкоў, і час спыняецца. Затое ў вершы:

*Рыпяць праблемаў восі,*
*У целе ные верад,*
*Паціху цягне восень*
*Надзей туманных нерад...*

Алесь Стадуб пачаў друкавацца рана. Нясвіжская раёнка "Чырвоны сцяг" змясціла першы допіс маладога юнкара, калі ён вучыўся ў сямігодцы. І цяпер ён захоўваецца ў аўтара. Пасля пайшлі публікацыі ў абласной, амаль ва ўсіх сталічных выданнях, у "Сельской газете", а таксама ва ўсесаюзных "Известиях", "Комсомольской правде", "Советской культуре". Ні разу не спісвалі ў архіў тое, што накіроўваў у маскоўскія

*** Стадуб Алесь** *(Аляксандр Дзям'янавіч) нарадзіўся 24 красавіка 1931 г. у в. Юшавічы Нясвіжскага раёна. Скончыў Юшавіцкую сямігодку, Нясвіжскую СШ № 1, філалагічны факультэт Яраслаўскага педагагічнага інстытута імя Ушынскага (вячэрняе аддзяленне). У Яраслаўлі працаваў у школах, у рэдакцыі газеты "Заводская жизнь" маторнага завода, рэдактарам у НДІ шыннай прамысловасці, у газетах "Ленинское знамя" і "Сельхозтехника". Кіраваў харавымі калектывамі ў Яраслаўлі. Тры гады адпрацаваў у Комі АССР у Вуктыле. У 1972 г. пераехаў у Ліду. Супрацоўнік рэдакцыі газеты "Ўперад" (1972-87). Заг. аддзела лістоў у "Воранаўскай газеце" (1990-93), кіраўнік юнкараўскіх гурткоў у Доме школьнікаў (1993-2001), у таварыстве "Веды" нам. старшыні. Друкаваўся ў рэспубліканскіх, абласных і мясцовых газетах з 1972 г. Выдаў зборнікі паэзіі "Твае вочы" (1997), "Вузел" (1998), "Споведзь натхнення" (1999), "Букет настрою" (2000), "Летапіс пачуццяў" (2000), "Водгук існасці", "Сюжэт на фоне надвячорка", "Калінавыя гроны", "Шэпты крыл", "Скрыжалі", аповесць "Вандроўка між гадамі".*

часопісы "Советский кооператор", акадэмічнае выданне "Русская речь", на радыё і телебачанне.

А. Стадуб актыўна супрацоўнічае з газетай "Наша слова", на старонках гэтай рэспубліканскай газеты ўбачылі свет апавяданні, вершы, артыкулы, інфармацыі. ¨н прафесійны журналіст, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў, аўтар дзесяці кніжак паэзіі, у апошнія гады выйшлі: "Споведзь натхнення", "Твае вочы", "Водгук ісціны", "Сюжэт на фоне надвячорка", "Калінавыя гроны", "Шэпты крыл", "Скрыжалі " і інш., а таксама аповесць "Вандроўка між гадамі". Цяпер на чарзе яшчэ два зборнікі – вершы і апавяданні. Амаль гатовыя.

Як паэт А. Стадуб вядомы ўважлівым чытачам некалі па газеце "Піянер Беларусі", а таксама па цяперашніх "Новым часе", ЛіМу , "Гродзенскай праўдзе", аднагадовіку "Галасы", таксама па лідскім літаратурнамастацкім часопісе "Ад лідскіх муроў". Вершы А. Стадуба перакладаліся ў ЗША, Расіі, Польшчы, кніжкі станоўча рэцанзаваліся ў рэспубліканскай, абласной, у месцовых газетах. Яго кнігі рэкламаваліся ў рэспубліканскіх выданнях, размяшчаліся на выставах у Нацыянальнай бібліятэцы.

Можна пражыць доўгае жыццё і ні разу не спыніцца перад карцінай мастака ў захапленні, ні разу не быць узрушаным да глыбіні душы прачытанай кнігай, ні разу не ўсхвалявацца да слёз пачутай песняй. Напэўна можна. Толькі невядома, з якой вялікай шкадобай растанецца душа такога чалавека са сваёй зямной юдоллю. Якая беднай такая душа. Сапраўды, калі ён абыякавы, калі не бягуць "мурашкі" па спіне - то і няма сапраўнай асобы. Калі жыў за межамі рэспублікі Алесь Стадуб - то і не было яго, як асобы. У Беларусі ён знайшоў сябе, праявіўся сярод сваіх, канешне: дзе нарадзіўся, там і згадзіўся.

Падчас працы ў газеце "Ўперад", пачалі з'яўляцца кароткія апавяданні А. Стадуба. Газета не дазваляла размахнуцца, напісаць шырока, але парадавалі і ўсхвалявалі чытача "Партрэт", "Бабёр", "Пастка", "Танцорка", "Восень", "Вар'ят", "Ліпа цвіла" і многія - многія іншыя. Ніколі яго не цягнула памяняць прафесію, памяняць спецыяльнасць. ¨н тут быў сярод сваіх. Навесяле ён паўтараў словы вядомай песні: "Трое суток шагать, трое суток не спать ради нескольких строчек в газете". У рэдакцыі ён не раз выбіраўся старшынём прафсаюзнага камітэта. Прапагандыстам па асвятленні спорту займаў першае меца ў рэспубліцы.

Стаўшы пенсіянерам, не гуляў у "дурня", у "казла", а ствараў кніжкі паэзіі. Тое, што не паспеў у газеце, прадаўжаў на заслужаным адпачынку. Галава працавала, душа радавалася поспеху. Яго друкавалі. Дарыў кніжкі бібліятэкам. Выступаў як лектар. Яго хвалілі і чыталі. Таму сведкамі фармуляры. З ростам мэты, зразумела, расце чалавек. Гэта не важна, ці малады ён, ці не малады, галоўнае, якім сябе адчувае.

Чытаючы зборнікі, радуешся, што ён душой пламянее, што заптрабаваны. І пра гэта наступныя радкі:

*Я постаць часу,*
*Плоць яго і крой,*
*Мяжа дабра і зла,*
*Спакусы і спагады,*
*Люстэрка ўпартых,*
*Амплітуда ўцех,*
*Жыццёвы персанаж*
*У кадры і за кадрам.*

Альбо:
*Мы ў шорах вупражак будзённых,*
*Работай сонца й поўню будзім,*
*Паміж зямлёй і небам блудзім,*
*Шукаючы на хлеб надзённы.*

Самая цяжкая прафесія - быць чалавекам, а вершатворцам удвая цяжэйшая. Але ж няма нічога лёгкага і немагчымага. Галоўнае – узяцца. І бярэцца кожны за тое, да чаго схільны. Таму мы багатыя на мастакоў, на вынаходнікаў, на геолагаў, на спарцменаў. Кожны любіць сваё. А Стадуб любіць сваё. Інакш бы не стварыў бы такіх вершаў, як "Даруй", "Знатоўка", "Будуць", "Спрадвеку", "Бяссмерце", "Рэчачка", "Твае вочы", "Лодка", "Адчай" і шмат якіх іншых.

Некалькі радкоў з тых, што пералічаны, назвы для аўтара і рэцэнзента шмат аб чым гавораць, для чытача ж яны загадка, таму хоць кавалачак таго, што піша аўтар пра Радзіму:

*Як перад маці і сумленнем,*
*Мая святая Беларусь,*
*Я прад табою на каленях*
*Назад грахі свае бяру...*

Заканчваецца верш такімі радкамі:
*Не ўсё я сам сабе дарую,*
*Што можаш, мне даруй сама.*

А. Стадуб сцвярждае:
*Сам я не ўмоўны,*
*Не адмоўны,*
*Не згінны я,*
*Надзейны я.*
*Я не шматслоўны,*
*Аднамоўны,*
*І мова –*
*Матухна мая.*

Дарога да паэзіі цяжкая і заўсёды індывідуальная. Ніколі не зблытаеш Юрку Голуба з Міхасём Скоблам, Рыгора Барадуліна з Максімам Танкам, Яўгенію Янішчыц з Піменам Панчанкам, Алеся Стадуба з Уладзімірам Васько, у кожнага свае тэмы, свае метафары, свае эпітэты, свае нечаканасці. Шмат якія вершы Алеся Стадуба кароткія. Яны вартыя тым, што прымушаюць думаць. Часта душа вершаў незвычайная. Яна чуйная да таго, што адбываецца поруч, што на свеце. Таму яго думкі запамінаюцца. У вершы "Пацалунак" толькі восем радкоў. Як у трыялеце. Канец верша нечаканы, і каб не быць галаслоўным, прывядзём поўнасцю. Восем радкоў не паэма. У кожным радку - свая думка.

*¨н – неўміручая адданасць.*
*¨н – асалоды неспазнанасць.*
*¨н – супярэчлівасць і згода.*
*¨н – і давер, і наша мода.*

*¨н – нечаканасць і чаканне.*
*¨н – добрае бярэмя цудаў.*
*¨н – ключ да будучых спатканняў.*
*¨н – дотык здрадніцкі Іюдаў.*

Аўтар робіць малое вялікім, пра што мы часта не думаем. Верш не сякера за лаваю - угледзеў і знайшоў. Здольнасць – гэта вера ў сябе, у сваю сілу. Трэба не забывацца, што мастацтва мае свайго ворага. Гэта – супрацьстаянне, яно існуе і ў адносінах да мовы. Таму не мог не з’явіцца верш на надзённую тэму – пра мову.

*Вы яе маўчаннем не губіце,*
*Вы – вясна яе, грамы яе.*
*Па радні мы ўсе свае.*
*Вы яе маўчаннем не губіце.*
*Нехта ў шыхт за мову не ўстае,*
*Нехта загубіўся ў рыхлым быце.*
*Вы яе маўчаннем не губіце,*
*Вы – вясна яе, грамы яе.*

Кожны мае права на спрэчку, але не трэба блытаць вечнае і часовае. Мова адносіцца да вечных скарбаў свайго народа. Да вечных і часовых адносіцца праблема бацькоў і дзяцей. Знешне яны падобныя, а праблемы розныя.

*Такія мы падобныя,*
*Кантрастныя такія.*
*І сціплыя, і модныя,*
*Чуллівыя, глухія.*
*Адзін мароз марозіць,*
*Адно нас сонца грэе.*

Верш заканчваецца нечаканасцю. Аўтар сцвярджае, што “бацькі на правым флангу”, на левым флангу дзеці”. Хто ў юным узросце не лічыў сябе разумнейшым за тых, каму мінула за сорак. А то і больш. Але між іншым кожны з нас, напэўна, чуць-чуць паэт у душы. ¨н не заўсёды ўзнёсла выказвае тое, што бачыць, але яно прыгожыць душу. Мастак маляваў Алеся Стадуба. Вось і з’явілася “Святло мазка”:

*Малюй мяне на светлым полі*
*Святлом пахучага мазка.*
*У нас усе ж з табою солі*
*Забрала дружных год рака.*

А ў іншым вершы, дзе аўтар, будучы на вернісажы, здзіўляецца:

*Мо ён сябе ў нязвыклым стане,*
*А мо мяне і вечар з сажы.*
*На вернісажы ён не скажа*
*Пра персанаж на заднім плане.*

Запамінаюцца такія творы, як “Беларусь”, “Твае вочы”, “На Нёмане”, “Адчай”, “Люблю я край”, “Жыта”, “Маці-радзіма”, “Не скарылі”, “Прэм’ера”, і інш.

Паверце, вершы з’яўляюцца часам з таго, пра што ніколі не падумаеш. Мне Алесь Стадуб аднойчы расказваў: *“Глянуў у вакно – туман, ранішні шэры туман. У тумане, вядома ж, вільготна, холадна. Адразу радок. “Бядуе холад у тумане”, а праз хвілін некалькі ўсе чатыры радкі:*



*Пакуль святло з-за лесу гляне,*
*І ранак радасцю кране,*
*Бядуе холад у тумане.*
*Каля каго пагрэцца мне?*

Заканчваецца шаснаццацірадковік вось якім куплетам:

*¨н* (унук)*, можа, гэты свет спантанны*
*Упартай думкаю кране.*
*Бядуе холад у тумане.*
*А вы бядуеце ці не?*

Самае цяжкае ў мастацтве – слова. Шукаеш яго заўсёды. І самае лепшае ўжываеш, але не кожны цэніць гэтае слова. І можа таму, што сам не меў спраў з пошукам слова.

А за словам - і тэма, за тэмай - думка. Цэлы каскад аўтарскіх пошукаў. І ў выніку нечаканы верш. На першы погляд ўсе проста. Але спаяць задумы не проста. Узяць хаця б наступнае:

*Жыву падманнасцю вясёлай.*
*Каліны гронка на акне,*
*Шкада вавёрку ў вечным коле,*
*А хто паспагадае мне?*
*Схавалі хмары ласку сонца,*
*І лісце кісне на траве,*
*Мой век на трасе не бясконцы,*
*Але ж каму я ў галаве?*

Моўны багаж А. Стадуба, я сказаў бы, багаты. Шмат дала газета, шмат дало чытанне. Шмат дала работа

над сабой. Без ведаў няма чаго рабіць у літаратуры. Класікі раілі: каб пісаць, трэба шмат ведаць. Паэт, пісьменнік - інжынер душ. Інжынер павінен шмат ведаць. Адказваць на ўсе пытанні шматлікага калектыву. А ў пісьменніка ці ў паэта ён розналікі, і пастарайся сваім розумам быць вышэй за іншых, паспрабуй усім дагадзіць сваімі творамі і чатырохрадкоўем, і раманам, і п’есай. Таму жыццё патрабуе працы. Не здзіўна, што аўтар гэта ведае. Алесь Стадуб піша ў адным з вершаў:

*Я прозай класікаў аброс,*
*Нібы даўней багамі скіфы,*
*Адсуну вершаў сваіх стос –*
*Кудысьці паляцелі рыфмы.*

Гэта да слова. Шчыра прызнацца, мне няма калі аддаваць сябе класікам. Хаця паўтараю: чытанне – вучэнне. Сваіх чытаю не з-за таго, што цікава, што без іх жыць нельга. Наадварот, хачу ведаць узровень напісаннага.

Алесь Стадуб за некалькі гадоў да выхаду кніжкі у менскім “Кнігазборы” расказваў, што стварыў вялікую дакументальную аповесць, а цяпер рэжа – скарачае. Пра што яна? Нямецкі празаік Генрых Ман ёмка сказаў: *“Варта напісаць пра сябе, каб загаварыла эпоха.”* Не дзіўна, што гэтыя словы ўзяты аўтарам дакументальнай аповесці эпіграфам, шкада, што не чытаў пасля машынкі. Забараніў б скарачэнне. Але ж аўтар мае права хоць спаліць твор. Выкінуты з аповесці шмат цікавых кавалкаў. Хаця б пра вучобу ў культпрасветвучэльні.

Першы раз Стадуб яе закончыў па народных інструментах. Другі раз прынялі без экзаменаў на драматычнае аддзялення. Тут былі адны дзяўчаты. А патрэбны мужчынскія галасы. Толькі б хадзілі! Ды як не будзеш хадзіць, як не будзеш вучыцца, калі педагогі чаго вартыя, змястоўна гаварылі, па-своему трактавалі п’есы. У канцы першага курса падгаварыў дзяўчат і ўзяўся за Макаёнка. Цягнула да свайго. Стадубу калектыў паверыў. А калі ў канцы першага курса здаваў пастаноўку, расхвалілі. Гэтак жа ён паступіў, калі працаваў на Радзіме. Таксама выдатна справіўся. Яго п’есу “Памяць” дзяўчаты вывучылі на зубок. Гэта ж яны едуць на вёску, дзе жывуць іх бабулі, паедуць на абласное тэлебачанне! Навучыў, як паварочвацца, як размаўляць, ведалі, як весці сябе ў мізансцэнах. І зноў на выдатна справіўся. Нават кніжка пра Нясвіжскі раён пісала аб гэтай п’есе. І пра іншае пісала. Але коратка. Можна было б займацца тым, што атрымоўвалася. Але гэта не было яго прызванне. Яго заўсёды цягнула ў іншае – у газету. Але покуль трапіць туды імкнуўся закончыць педагагічны інстытут. Вышэйшая адукацыя ўсё ж! Не давучыўшыся ў вучэльні, ён аддаў перавагу вышэйшай навучальнай, спаслаўшыся, што сесіі супадаюць. Яны і сапраўды супадалі. Ніяк не разарвацца, калі трэба быць і там, і тут.

Не сказана ў аповесці “Вандроўка між гадамі” пра амаль дзевяцігадовую работу кіраўніком мастацкай самадзейнасці. Да яго ў абласны Дом культуры прыходзілі ў вялікі гурток дзяўчаты і хлопцы ад 18 да 25 гадоў. Канешне, аўтар мае права са сваёй аповесці выкрасліць, што лічыць лішнім. Можа нават спаліць яе. Алесь Стадуб сваю добра пакрэсліў, але не спаліў. Яго твор выйшаў у Менску, хоць невялікім накладам, але ўсё ж такі выйшаў. Прачытаўшы, здзіўляешся, як сцісла адлюстраваны побыт, схільнасць людзей у пасляваенны галодны час. Тых людзей цяпер няма, памерлі. Цяпер моладзь не памятае жарон, ступы, нарога, рэзгінаў, атос, сярпа. А краявіды тыя ж ураджайныя палеткі, тыя ж узгоркі. Цяпер былыя кручаныя дарогі выпрастаны, заасфальтаваны. Пра гэта ў адным вершы:

*Зязюля тут гадоў не лічыць*
*Паміж жытоў, паміж аўсоў.*
*Аж ад Нясвіжа ў Юшавічы*
*Праз Слаўкава і Ракавічы*
*Дарога хуткай паласой.*

У аповесці Алесь Стадуб расказвае, што пры яго памяці вёска тройчы будавалася, спачатку палякі прымусілі сялян перааязджаць на хутары, тыя хаты, што ўпрытык бедаваліся – плячо ў плячо, мусілі шукаць сабе месца ў полі. Затым пры саветах зноў перасяляліся ўжо ў перспектыўную вёску. Аўтар дакументальнай аповесці ўспамінае, што некалі ў Юшавічах працавала чатыры ветракі, мелася чатыры музыканты, восем краўцоў, штат людзей іншых спецыяльнасцей.

Творчая натура заўсёды нешта стварае. А. Стадуб, ведаючы ноты, пасправаваў выдумаць некалькі песень. Ацаніць іх папрасіў выкладчыка спеваў Нясвіжскай педвучэльні кампазітара Паўла Касача. А неўзабаве быў выкліканы ў абласны цэнтр. Вёў семінар Генадзь Цітовіч і таксама станоўча адазваўся аб першым доследзе А. Стадуба.

Шмат месца адводзіць Алесь Стадуб у дакументальнай аповесці родным – бацьку і маці. ¨н запомніўся, што быў “нізкі, з не надта коратка пастрыжанай барадой. З рыжаватымі ад курыва вусамі, у кірзавых ботах, у зашмальцаванай скураной камізэльцы, у выцертых на каленях картовых портках” бацька ўмеў выгаворваць пярэпалах, удары, “высякаць” рожу. Я здзіўляўся, як пераканаўча ў яго атрымлівалася тое, чаго не маглі, не ўмелі іншыя юшаўцы. Здзіўляўся, як у яго ўжывалася вера ў Бога з гэтымі паспяховымі забабонамі. Бацька валодаў выдатнай памяццю і тое, што яму падабалася, вывучваў напамяць. Гэтага - памяці – нельга было адняць і ў мацеры. Больш запомнілася аўтару дакументальнай аповесці яе знешнасць. Яна была *“рухавая, прыветная, вясёлая. ¨й ішла сярэдняя паўната, сярэдні рост, радасная гаворка, белыя зубы, калі ўсміхалася, і чорныя валасы таксама ішлі. Яны не выпаўзалі з-пад светлай хусткі. Каса была абаранкам на патыліцы, бо адтуль тырчала пукатым гузам”.*

У дакументальнай аповесці, хоць скупа, але распавядаецца пра нашчадкаў – прадаўжальнікаў стадубаўскага роду. Адзін з іх выйшаў у журналісты і пісьменнікі, другі дайшоў да прафесара, члена Міжнароднай Акадэміі кіравання і права, дачка аднаго – мастак, яе сын – акардыяніст, жонка Алеся Стадуба інжанер-канструктар, братаў сын пасля БДУ стаў знакамітым фатографам. Асвятляў дзве сусветныя алімпіяды.

А хто ж такі Алесь Стадуб? Сцярджае пра сябе: я



– сонца, я – вецер, я - з вен пакручастых, я – з рэк” тут, прабачце, і вершы, і самавыражэнне. “Я - кульмінацыя цярпення, я – пуп зямлі”. А наогул – гэта звычайныя метафары. Добра, што аўтар - выдумляка, што не ідзе прабітай дарогай, знаходзіць прыёмы для выражэння сваім і думам і пачуццям. Нават, можа, фантастычных. Папраўдзе, што гэта за паэт без фантазіі? Чаго варты, калі не шукае новыя формы? Вось так ён і трапіў на трыялет. Форма трыялета нарадзілася ў Францыі. Некаторыя творцы нават зборнікі трыялетаў выпускалі, шмат трыялетаў стварыў Максім Багдановіч. Сустракаюцца ў наш час трыялеты ў тоўстых часопісах, трыялет – гэта верш з васьмі радкоў. У А. Стадуба трыялетаў не цыкл, а цэлы зборнік – больш за сто пяцьдзесят. Смела аўтар заяўляў:

*Зноў трыялеты сёння ў модзе,*
*Да вас надзейна прышчаплю.*
*З-за іх вялікасці не сплю,*
*Зноў трыялеты сёння ў модзе.*

У яго трыялетах і любоўная лірыка, і любоў да Радзімы, і незвычайная супярэчнасць, бо не заўсёды давалася рыфма, форма выбівалася з задумы. Але брала верх павага і цярпенне. Цярпенне – гэта мастацтва спадзявацца на лепшае, на поспех. Аўтар заўсёды разумеў: жыць - працаваць; жыць, каб душа была ў справах, у падзяках:

*Вітае сонца нас пачаткам дня*
*І волю выдае, як Бог Адаму.*
*“Сваю шукайце ў бессмяротнасць браму” –*
*Вітае сонца нас пачаткам дня.*

Філасофія працягваецца ў такіх трыялетах як “Не ўсё канчаецца канцом”, “Дарэмна, воля, не сумуй”, “Я заўтрашні і я ўчарашні”, “У вечнасці канец свой і пачатак”, а таксама ў шмат якіх іншых. Гаворачы пра чалавека, пра нас з табой, аўтар заяўляе:

*Разам усе мы, і ўсе паасобку.*
*Мы і разумныя, і няхлямяжыя,*
*Мы і труслівыя, мы і адважныя –*
*Разам усе мы, і ўсе паасобку.*

Аўтар піша аб незайздросным чалавечым лёсе, аб яго неабыякавасці, бо сярод абыякавых няма сапраўднай асобы. А чалавек хоча быць ёю. Таму развівае прыродныя схільнасці і заяўляе:

*Гнёмся, свіцімся, бываем і важныя.*
*Можам быць бомбай, гасціннаю стопкаю.*
*Разам усе мы, і ўсе паасобку.*
*Мы і разумныя, і нехлямяжыя.*

Зусім з нічога робіць Алесь Стадуб свае трыялеты. Спяшаючыся, зайшоў да знаёмай, кот – калмач тут як тут, паўзе за гаспадыняй, але ўсё, як напісана:

*Я на хвілінку. Справы рупяць.*
*Твой кот-калмач ізноў крадзецца.*
*А ў галаве гудзьма гудзецца.*
*Я на хвілінку. Справы рупяць.*

А вось самае галоўнае з чаго, пэўна, можна было б пачынаць трыялет:

*Ад воч тваіх куды мне дзецца?*
*Ніхто за баксы ўзрост не купіць.*

Пра гэтую няшчастую бяду аўтар са шкадаваннем распавядае ў другім трыялеце:

*Калісьці мне здрадзіць усё:*
*І слых мой, і зрок мой, і памяць,*
*Грахі памнажаючы з вамі,*
*Калісьці мне здрадзіць усё.*

Трыялеты не дарунак Боскі. Яны не сыпаліся з рога, яны - вынік упартай працы. Таму вартыя ўвагі такія з іх, як “Шэпты крыл”, “Месяц рогам залатым”, “Растучы ў чалавека”. “Фермата прызвання”, “Палячы”, “Крыжы над купалам”,”Трыялет еднасці”, “Бяроза” і многія іншыя. А трыялеты пра Радзіму, пра каханне, пра мову. Пра складанасці жыцця паэта Алесь Стадуб кажа так: *“Цяжка быць вершаскладальнікам – дамашнія шкодзяць. Усё ім мала. Мала, мала. Думаюць, за вершы - вялікія грошы. А калі дарма! У кожнага ёсць свае схільнасці, свае недахопы, да ўсяго чалавек прывыкае. І да складання вершаў. Каб выгаварыцца, каб выпісацца, патрэбен час. Вось таму і просіцца:*

*На год у творчасць адпусці,*
*Сама сумуй каля экрана.*

*Мо зажыве цярпення рана –*
*На год у творчасць адпусці.*
*Маім прызваннем пакарана.*
*Ад вершаў – нельга адхрысціць.*
*На год у творчасць адпусці,*
*Сама сумуй каля экрана.”*

Прызванне – гэта шчасце, а шчасце, калі ты сябе лічыш чалавекам. Але з чаго той чалавек. Вось таму і аўтар пытаецца, скажам, у знаёмага:

*З чаго ты, браце, чалавек?*
*З душы, пратэсту ці з любові?*
*Гляджу на вочы і на бровы.*
*З чаго ты, браце, чалавек?*
*Ці ў вечнасці ты выпадковы?*
*Ці ёю створаны на здзек?*
*З чаго ты, браце, чалавек?*
*З душы, пратэсту ці з любові?*

У “Скрыжалях” спадабалася сцісласць і нечаканасць. Што самае лепшае? У кожнага свой густ. Напрыклад, мяркуючы па кароткай рэцэнзіі Пятру Макарэвічу спадабаўся зборнік. І ён шчыра пахваліў аўтара, можа каму і не ўсё спадабалася. Кожны падымае сваю штангу. У Алеся Стадуба яна даволі цяжкая, але паэт спраўляецца з ёю. У кожнага пасля сябе застаюцца справы. Яны застануцца і пасля А. Стадуба. Дзесяць кніжак - гэта само пра сябе гаворыць, іншая справа, што аўтару нямала гадоў. І ў гэтым ён сам сабе спагадае:

*Сам да спісання на мяжы.*
*Фінал бясконцаму сувою.*
*Мой Бог, мяне пасцеражы*
*Ад сумных думак неспакою.*

У другім вершы – працяг гэтай тэмы. У “Літарах” ён піша:

*Нішто не вечнае пад сонцам -*
*Ні гэты свет, ні ты ні я.*
*Мы літары ўсё ж на старонцы*
*У тоўстай кніжышчы быцця.*

Праз некаторы час пасля юбілею Алеся Стадуба часопіс “Маладосць” у рубрыцы “Літаратурныя мясціны Беларусі” надрукуе:

*“**Вёска Юшавічы**, цэнтр сельсавета - **Стадуба Алеся** (псеўдаміны: Будзевіч А., Красавіцкі А., Старадуб А., Ярашэня А., н. 24.4.1931 г.), **паэта, радзіма**. Скончыў філалагічны факультэт Яраслаўскага педінстытута. Працаваў у школах, рэдакцыях газет. У 1972 г. пераехаў у Ліду. Працаваў у рэдакцыі газеты «Уперад» (1972—1987), кіраўніком юнкараўскіх гурткоў у Доме школьнікаў (1993—2001). Друкаваўся з 1972 г. Выдаў зборнікі паэзіі «Твае вочы» (1997), «Вузел» (1998), «Споведзь натхнення» (1999), «Букет настрою» (2000), «Летапіс пачуццяў» (2000), «Калінавыя гроны» (2001), «Сюжэт на фоне адвячорку» (2004), «Водгук ісціны» (2007).”*

Вось чым слаўная вёска Юшавічы. Не сваімі гектарамі і цэнтнерамі ўраджаю, не надоямі і прывагамі цялят і парасят, не аграгарадком, а тым, што нарадзіўся тут паэт Алесь Стадуб. І хай сабе гэта толькі адна з ацэнак і толькі часопіса “Маладосць”, але яна ёсць, і яе ўжо нікуды не дзенеш.



*Пайшлі дажджы і снег густы,*
*Рыфмуе лірыку прырода.*
*Мне шэпчаш зноў, мая нязгода:*
*Пайшлі дажджы і снег густы.*
*Ты глушыш крык замежнай моды.*
*Павер, наш банк з табой пусты.*
*Пайшлі дажджы і снег густы,*
*Рыфмуе лірыку прырода.*

*Фотаверш А. Стадуба.*

На жаль гэты артыкул не ўдаецца аздобіць многімі і рознасюжэтнымі здымкамі з цікавага і разнастайнага жыцця паэта, а ўсё таму, што Алесь Стадуб - яшчэ і фатограф, а гэта значыць, што ён, як правіла, за кадрам. Гэта лёс усіх фатографаў. Але артыкул у нас не пра фатографа, а пра паэта. А як паэт ён у цэнтры жыцця, у цэнтры падзей, упарта нясе беларускую паэзію на запаветны Парнас.

***Станіслаў Суднік**,*
*рэдактар кнігі “Водгук ісціны”.*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

**Шрэдар**

Дачакаўся нарэшце новага класа. Змены былі каласальныя, перш за ўсё з філіі нас перавялі ў асноўны корпус. Шосты клас знаходзіўся на другім паверсе ў самым канцы. З “новых” кінуліся ў вочы трое: Левінсон і Файнштэйн. Два пабрацімы нашага адзіночкі Любчанскага. Абодва – асабліва першы – вельмі добрыя вучні, а таксама нейкі Леан Шрэдар.

Гэты хлопец адыгрываў вялікую ролю ў сямі наступных гадах майго жыцця. Быў досыць высокі, зграбны, з тварам грэцкага эфебу (хлопец-прыгажун): прамы нос, высокі лоб. Злёгку высунуты наперад падбародак. Меў вельмі прыгожыя – толькі цяпер гэта ўсвядоміў – цёмна-гранатовыя (цёмна-цёмна сінія) вочы. Але пры бліжэйшым разглядзе ўсе гэтыя рысы набіраліся, так скажу, адваротнага сэнсу. Вочы далёка не бачылі. Падбародак толькі ўдаваў сілу волі, на самай справе быў гэта звычайны ўзгорак скуры і мяса, ніякай выпуклай косці там не было.

І гэта было больш глыбокай праўдай. Шрэдар увайшоў у наш клас як першы закончаны інтэлектуаліст: з усімі тыповымі заганамі і вартасцямі.

Быў вельмі начытаны. Толькі ў сутыкненні з ім я ўсвядоміў сабе, што я - хам і гультай. На сяброўства з Бакланамі і Юрагамі цалкам хапала школьных падручнікаў. Цяпер я пачаў разумець, што па-за імі ёсць мора, мора кніжак – на самай справе часта нецікавых, але неабходных. У шостым класе Шрэдар “даходзіў” да Анатоля Франса. Хочучы з ім параўнацца адным скачком, і я кінуўся да “Аповесцяў Кубы Круціражна”, Шрэдар у сваю чаргу, хоць і даведаўся, што пасада паэта занятая, пачаў пісаць. На маю думку, канешне, горай. На жаль, іншыя не цалкам з тым пагаджаліся. У навуцы і мяне, і Шрэдара апераджаў Левінсон. Мы не спаборнічалі з ім, лічачы тое ніжэй годнасці.

Пры ўсім тым Шрэдар быў незвычайнай размазнёй у штодзённым жыцці. Урокі рабіў абы як – не таму, што часу не меў, а проста яму не хацелася. Танцаваць таксама не ўмеў. Кожны класны спрытнюга мог яго абдурваць, біць, памыкаць ім. ¨н нават не бараніўся.

Цікава, які ўплыў на станаўленне яго характару аказала сямейная сітуацыя. Было іх двое, малодшы, Зянон, пайшоў у чацвёрты. Іхняя маці, аўдавеўшы, выйшла паўторна замуж за нейкага Трынкевіча, чыгуначнага інжынера. Здаецца, што тут паўтарыўся комплекс Спандрэла з гунслееўскага “Контрапункта”. Маці была высокая, прыгожая, са шляхетным тварам, з надзвычайнымі гранатовымі (цёмна сінімі) вачыма, акрамя таго поўная энергіі, рухавая, добразычлівая... Айчым малы, лысы, вечна надзьмуты. Шрэдар рашуча ім пагарджаў, за што той плаціў яму тысячай дробных пакасцяў. Маці, напэўна тое несвядома распаляла, не ўмеючы схаваць ад старэйшага сына тону вечнага перапрашання з нагоды паўторнага замуства.

Ад першай хвілі прыцягнула мяне індывідуальнасць Шрэдара. А акрамя таго злучыла нас супольная дарога ў школу.

Падчас нашай адсутнасці ў Лідзе бацька пераехаў паўторна. Тым разам ваенкамат размясцілі вельмі далёка за горадам. Ішла там несканчоная, хоць паменшаўшая вуліца 3 Траўня. Каля пераезду Шрэдар развітваўся са мной, дыбаў уздоўж чыгуначных рэек да аднаго з чыгуначных домікаў, занятага інжынерам Трынкевічам. А я мусіў мясіць гразь яшчэ можа паўтара кіламетры. З левага боку тут ужо былі палі, з правага ў выемцы паварочвала каляя на Маладэчна.

Ваенкамат размяшчаўся ў нізкім аднапавярховым цагляным будынку, выдзеленым з комплексу вайсковага шпіталя. Яшчэ з паўкіламетра - і былі казармы Сім-Сім.

Мы атрымалі чатыры пакоі, адрэзаныя ад той казармавай кілбасы. Цяжка прыдумаць нешта больш няўтульнае: пасярод вялізны калідор з цыментавай падлогай. Па абодва бакі пакоі, вузкія, як клеткі. Мой мусеў мець нейкія тры крокі ўшыркі і з сем удоўж.

Не пачуваўся тут добра. Да вялікай, усё яшчэ адчувальнай настальгіі па Новай Вілейцы, далучылася зараз яшчэ маленькая – па памяшканні на Сувальскай.

Выходзіш вечарам на ганак. Злева далёкія і слабыя гарадскія агеньчыкі. Справа вялікая цемната і вецер. Заўсёды адтуль дзьмула. Палі сягалі тут да гарызонту, і там цяпер днём віднелася нешта цёмна-сіняе: лясы, але не тыя людскія, яловыя, новавілейскія. Найгорш было ў лютым, калі прыходзілі першыя адлігі. Снег чарнеў, станавіўся гразкі. Цемната здавалася глыбейшай. Вецер выў і скавытаў. Не цяжка было сабе ўявіць у тым выцці воўчыя хоры.

Дом няўтульны, наваколле пустое. Заставалася школа. Тры старэйшыя класы размяшчаліся побач на другім паверсе. Канешне, узнікалі няўхільныя бойкі паміж класамі. Суседзі з сёмага адразу пасля першага званка стараліся схапіць каго-небудзь з нас і зацягнуць у свой клас. Гэты ўспрымалася як невыносная ганьба. Памятаю, аднаго разу “сёмкі”, не злавіўшы ні аднаго з нас у калідоры, уварваліся гурбой у наш клас і схапілі

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

некага з першых партаў. Тут жа перад увaходам выкладчыка бядак вярнуўся ўвесь чырвоны. Цэлы дзень мы не адважваліся на яго глядзець, гэтая ганьба выклікала ў нас ўсіх нейкі калектыўны сорам.

Яшчэ адна драбніца з той эпохі, з канца 26 году. Некалькі разоў сустракаліся на вуліцы жаўнеры з досыць дзіўнымі адзнакамі. Заміж мядзведзіка традыцыйнага значка Сім-Сім мелі на шапцы кавалак зялёнай стужачкі.

Я быў яшчэ смаркаты, каб слухаць больш уважліва каментары, якія тая стужачка выклікала, бубнілі нешта пра марш на Коўню. Здаецца, што справа ішла пра паўтарэнне аперацыі Жалігоўскага, пра стварэнне на Літве ўраду, які пайшоў бы на прымірэнне, а можа, і унію з Польшчай. Падобна, што быў такі генерал Пляскавічус, які падтрымліваў такія планы. Зялёныя стужачкі павінны былі яму дапамагчы.

Але ў снежні апярэдзіў яго Вальдэмарас, здзейсніўшы ў Коўне пераварот хутчэй пранямецкай арыентацыі. Зялёныя стужачкі неяк зніклі, вярнуліся даўнія мядзведзікі.

**На Сапяжынскай**

Акрамя таго, быў гэта год хіміі і свінкі. Яшчэ чытаў – акрамя Франса – Жуля Верна. І там я знайшоў простае прадпісанне да забаў з выбухоўкай: бяром, гаварылася, звычайную вату і апускаем у азотную кіслату. Прастата аперацыі, злучаная з гучнасцю поспеху прывялі да таго, што я адразу ўзяўся за лабараторныя работы. На жаль, атрыманне азотнай кіслаты не было простым. Мусіў пачынаць з кіслаты сернай. У ходзе выпрацаваў паўшклянкі кіслаты салянай. Між іншым атрымалася трохі эфіру. Мімаходзь спаліў фіранкі. Гэтае апошняе так проста: дастаткова кропелькі салянай ці сернай кіслаты. Тая ж самая кропелька, як паказалі мае даследванні, патрапляе навылёт прапаліць цэлы стос кніжак, усе сшыткі і нават у стале пакінуць незнішчальную рудую плямку вечна жывога апёку.

Калі нарэшце ў прабірках і рэтортах пачалі з'яўляцца першыя сляды азотнай кіслаты, забава перастала мне падабацца. Аказалася, што перш чым зрабіць цацачную выбухоўку, трэба вырабіць нітрагліцарыну, але для таго не дастаткова звычайнага перамешвання гліцарыны з той праклятай азотнай кіслатой.

Не ведаю, ці гэта звязана з хіміяй і тымі небяспечнымі злучэннямі, але на Вялікдзень увабрала мяне найраптоўнейшая хвароба ад петрыкаўскіх часоў.

Выглядала вельмі нявінна: свінка. Паўторна апухла мне горла. І зрэшты, не толькі... З'явілася неверагодная тэмпература: нешта каля сарака. Быў ужо дзецюком, але неяк вечарам, калі трэба было змяніць пасцель, маці меншая за мяне на галаву сцягнула мяне непрытомнага з ложка і на руках перацягнула на фатэль.

Свінка нарэшце прайшла, але якраз тады першы раз праявілася ў мяне хвароба, якая наведвала мяне пазней неаднаразова. Нешта мне зрабілася з вачыма. Лідскі акуліст засланіў вока, пачаў нечым там мазаць. Нічога не дапамагала. У школу я не хадзіў два месяцы, аж да канікулаў. Ледзьве перайшоў у наступны клас. Летам бацька завёз мяне ў вайсковы шпіталь у Вільню.

Размяшчаўся ён у Сапяжынскім садзе. Было гэта адно з наймацнейшых перажыванняў у школьныя часы. Размясцілі мяне ў пакоі разам з нейкім цяжка хворым афіцэрам. Я не павінен быў ляжаць, цягаўся ў халаце і спадаўшых з ног пантофлях па ўсёй велізарнай тэрыторыі шпіталя. Будынкі былі невялікія, параскіданыя пасярод шыкоўнага парку, аздобай якога былі высокія таполі.

Не паспеў яшчэ засумаваць, як у мой пакой даставілі новага пацыента. Быў непрытомны. Я са здзіўленнем прачытаў шпітальную картку: Мустафа Рамейка, ротмістр, рэвальверны стрэл. Служка дадаў: самазабойства з-за кахання.

Хворы ляжаў з заплюшчанымі вачыма некалькі дзён. Выглядала на тое, што пераедзе на той свет. Потым расплюшчыў вочы. Праз колькі дзён пачаў размаўляць.

Можаце сабе ўявіць, з якімі пачуццямі я слухаў кожнае яго слова. Пачынаючы ад імені, да звання, учынку і яго прычыны – усё ў тым чалавеку, было для захаплення. З імем было найпрасцей: "Гавары мне Стэфан", – кінуў неахвотна. Таксама і да сваіх вайсковых прывілеяў ставіўся ён лёгка.

Справа стала больш сур'ёзнай толькі тады, калі дайшло да кахання. Падстрэлены ротмістр-татарын адносіўся да яго па-мужчынску, больш па-ўланску. Доўгія вечары нам сплывалі з яго аповесцямі: з кім, калі, асабліва – як. Я слухаў з затоеным дыханнем. Недасяжныя істоты ў сукнях, якія віліся каля мяне ў жыцці, аказваліся пачварамі, якія праглі мужчынскай крыві. З таго, што сабе прыпамінаю цяпер, дасведчанні майго Мустафы не муселі быць надта глыбокімі: пэўныя бакі закаханага суіснавання, больш проста хоць і ненатуральна, ён трактаваў са здзіўленнем, не пазбаўленым неспакою.

Мустафа паступіў пасля мяне, быў на валасок ад смерці, выбавіўся ад стрэлу, рэвальвер прыставіў да грудзей, не патрапіў ў сэрца, бо выстрал адбыўся у хвіліну сутаргі – а тым не менш выпісаўся са шпіталю перада мной. Паехаў, а я яшчэ блукаў па прыгожым парку з абрыдлай павязкай на воку.

Аказалася, што гэта запаленне рагавіцы. Лячыў мяне знакаміты акуліст, палкоўнік Дабачэўскі, муж вядомай віленскай пісьменніцы, сястры "самога" Нядзялкоўскага. Каб не ён, то д'яблы ведаюць, чым бы тое ўсё скончылася. І так пасля хваробы на рагавіцы левага вока застаўся шрам, які замутняў бачанне.

Шпітальная нудота – акрамя Мустафы – аказалася такая вялікая, што аднаго дня ўдарыўся ў дзікую задуму: купіў газету з крыклівымі чырвонымі загалоўкамі. Быў гэта "Спартовы агляд". Застаюся ёй верны гадоў трыццаць з нечым. Уласна з яе навучыўся любіць лёгкую атлетыку, цікавіцца боксам і некалькімі меншымі відамі спорту. Не ведаю, можа гэта тыповае старэчае бурчанне, але мне здаецца, што "Агляд" трыццаць гадоў назад быў больш цікавым.

Калі набліжаўся тэрмін маёй выпіскі са шпіталя, на адзін дзень зрабіў адведку Новай Вілейкі. Гэта быў першы ўрок незваротнасці часу. Калі пабачыў пагоркі, рэчку Віленку, дом Ілюковічаў, тапаліную алею, што

вяла да казармаў, агарнула мяне невядомае да тога часу ўзрушэнне. Выскачыў з цягніка, кінуўся да Ілюковічаў. Ужо не памятаю падрабязнасцяў. Памятаю толькі “наогул”: расчараванне. Ці іх не было, ці прынялі мяне холадна, бо досыць хутка пайшоў далей, да Альберта. Таго дакладна застаў. Пасля многіх перыпетый ён кінуў гімназію. Яму ўдалося трапіць у свежа заснаваны корпус кадэтаў у Равічы. Расхаджваў у мундзіры. Меў шкураныя рукавічкі, якімі ляпаў па нагах. Прывітаў мяне, здаецца, сардэчна, але і тут засталася нейкая мінуласць. Не без палёгкі выехаў з Вільні.

**Футбол**

У Лідзе канікулы – гэта зноў быў футбол. Недалёка ад таго кляштара, у якім пасля ваенкамата размясцілася староства, быў замак, нібыта збудаваны яшчэ Гедзімінам. Ацалелі з яго чатыры муры. Высокія але няроўныя, якія асыпаліся. У сярэдзіне зрабілі футбольнае поле.

Было гэта нешта свайго роду адметнае. Караткаватае: вароты стаялі пры самых сценах. Амаль без месцаў для гледачоў: так, некалькі лавак, але каля ўваходу нават з дашкам. Пад час матчаў кожныя некалькі мінут выбухалі здарэнні са свістамі і пагонямі паліцыі: гэта нейкі хлапчына намагаўся ўлезці “на халяву” і пералазіў цераз мур. Што за відовішча для некалькіх соцень гледачоў, зграмаджоных на вузкіх палосках уздоўж поля Былі гэта не абы-якія вычыны: некалькі метраў вышыні, мур з каменю, без ніякіх акон. Хлопец пералазіў цераз верх мура і доўга гайдаўся, учапіўшыся рукамі за камень, аж пакуль не знайходзіў апоры ў шчыліне. Доўга, досыць доўга, каб прывабіць паліцыянта. Хлопец гайдаўся, а ўнізе яго ўжо чакаў ахоўнік парадку.

Гулялі тутэйшыя каманды. Адна была дакладна яўрэйская, пэўна мясцовая “Макабі”. Другая недакладна: так зв. LOSO (ЛДСА), г.зн. Лідская дабраахвотная супрацьпажарная ахова. Часам, вельмі рэдка, прыязджаў хто-небудзь з суседзяў: з Баранавіч, з Ваўкавыска. Часам прыходзілі вайсковыя каманды, але найчасцей гулялі “Макабі” і LOSO. Праз некалькі гадоў гэта надакучыла гледачам. Тады менеджары прыйшлі да выдатнай выдумкі. Ліда была заклеена афішамі: LOSO супраць ТМА (КМА). Загадкавыя тры літары выклікалі сенсацыю: лаўкі для гледачоў былі забітыя. Загадка аказалася простай: гэта была тая ж “Макабі”. На пратэсты і прэтэнзіі арганізатары адказвалі найспакайней у свеце: “Якая ж гэта “Макабі”, у ёй няма Кугельшванца!!! А што значыць КМА? – Гэта Каманда моладзі А!”.

Памятаю, як сёння, бяссільную разлютаванасць на тых ашуканцаў. А яны толькі смяяліся.

У той час і я даступіўся да права згуляць на тым першым полі Ліды. Трапіў менавіта ў зборную гімназіі - канешне не ў атаку. Узялі мяне варатаром, бо папярэдні здаў экзамены на атэстат сталасці, а наступны, Сянкевіч з IV-а, быў яшчэ вельмі нізкі. Бараніў я вароты сярэдне. Памятаю аднак некалькі прыемных момантаў. Атака, выстрал. Востры вугал. Сам не ведаю як, ляжу на зямлі, на баку, мяч пры жываце. Ніколі не рабіў “ластавак” (кідкоў на нізкі мяч). У тым уласна не было і следу



*Ліда, 1927. Футбольная зборная гімназіі імя К. Хадкевіча. Першы злева - Кіпан, “слынны” “сокал”, трэці - Руткоўскі, прыроднік. Падаваўся мне заўсёды такім грубым. Толькі цяпер бачу, як фатальна я памыляўся. Аўтар - той найбольш надуты варатар.*

рашэння: скочыць, упасці на бок. Падзея прайшла неяк міма бюракратычнага цэнтра ў маіх мазгах: выгляд лятучага мяча падзейнічаў непасрэдна на цэнтр руху. Так што, не трэба было траціць ані сотай долі секунды на ўзгадненне рухавай рэакцыі з мазгавымі рэфлексійнымі цэнтрамі. Я гуляў не часта. Нейкі матч з авіятарамі выйгралі 5:3. добрае было наша нападзенне, кепскі варатар. Сам не ведаю чаму, неяк пазней узялі мяне ў адну паездку за горад, у Ваўкавыск. Там выйгралі, здаецца 3:1. Памятаю, якой кароткай і вясёлай была паездка туды і назад, якімі сімпатычнымі і блізкімі былі ўсе гульцы каманды.

Маю здымак той каманды – у замку. Я сяджу патурэцку, трымаючы мяч ля ног. Выглядаю страшна: вытаркнуты нос, страшна ўпалы падбародак.

Фатограф улавіў мяне, прынамсі, ва ўзросце няўдзячным.

**Амаль эканом**

Яшчэ адна прыгода з паловы канікулаў. Захацелася мне ровара. Бацька не сказаў: "Не". Хацеў толькі, каб я быў партнёрам па грашах. Я меў працаваць рэпетытарам. А тым часам знайшлася праца на многа больш сур'ёзная.

За колькі кіламетраў ад Ліды, пры шчучынскім тракце, недалёка ад прыстанку Белагруда ляжаў маёнтак графаў Красіцкіх. Самі графы ў ім не жылі, маёнткам кіраваў эканом. І вось на перыяд летніх работ шукаў ён памочніка. Я сам не ведаю, як ён трапіў да нас.

Я загарэўся шалёна. Эканом прыехаў брычкай. Мы выбраліся ў далёкую дарогу. ¨н быў сімпатычны. Меў ужо хіба гадоў сорак, але адносіўся да мяне, шаснаццацігадовага смаркача, як да раўнапраўнага партнёра. Усю дарогу без перапынку апавядаў пра сябе.

Быў ён "белым" афіцэрам. Я даведаўся гісторыю баёў яго часткі падчас вайны. Да маёнтка ехалі тры гадзіны. Адразу па прыездзе, кінуўшы лейцы парабку, узяў мяне ў свой домік. Ішоў і размаўляў: ужо пераходзіў да пачатку эры пасляваеннай. Я ішоў, цягнучы клунак з рэчамі. Від велізарнага дзядзінца, контуры палаца, якія выступалі ўдалечыні, шматлікія рухавыя службы неяк мяне пужалі. Дагэтуль не меў разумення, што буду рабіць.

Увайшлі ў дом. Вялікія пакоі, пабеленыя вапнай, амаль без мэблі. Чакаў на нас ужо абед, густоўны, бо з прыпаленымі куранятамі. Была таксама гарэлка. Эканом апавядаў. Але вось яго паклікалі на хвілінку ў суседні пакой. Папрасіў прабачэння, паабяцаўшы хутка вярнуцца і працягнуць далей.

Сам не ведаю, адкуль мне тое прыйшло. Акно было адчынена. Агледзеўся, падбег. Выходзіла ў парк. Выскачыў, як злодзей, аглядаючыся па баках, пабег у кусты. Шчасліва выбраўся на тракт. Хуткім крокам рушыў у Ліду.

Я меў дастаткова часу, каб зразумець прычыны тых уцёкаў. Па-просту думаў, што цэлы месяц буду вымушаны слухаць апавяданні свайго шэфа.

Вечарам быў дома. Бацькі здзівіліся майму з'яўленню, але не надта. Сам ужо не ведаю, як апраўдваўся. Клунак прывёз эканом пад час наступнага прыезду ў Ліду. Вельмі здзіўляўся з мяне: такія добрыя ўмовы... Ровар, тым не менш, я атрымаў.

**Банда**

Напэўна гэта ён (ровар, *рэд.*), аблегчыўшы мае выпады ў горад, прывёў да таго, што мае стасункі з "бандай" пачаліся.

Была гэта кампанія балбесаў, якія круціліся вакол двух Здановічаў, сыноў мясцовага старасты і аўтэнтычнай англічанкі. Былі здольныя і нялюдска распушчаныя. На ўроках іх раз-пораз выганялі за дзверы. На перапынках яны першыя давалі "грушкі" навічкам, першыя курылі ў тамбуры, першыя наладжвалі атакі снежкамі, бегалі за дзяўчатамі. І дакучалі па-ўсякаму, ганялі мяч, выскоквалі па печыва ў "Амерыку" ці ў бліжэйшую цукерню Э. Цукерніка.

Пры іх заўсёды круцілася яшчэ некалькі: згадваны ўжо Балён-Рынкевіч, малы, авантурыстычны, някепскі крайні, Маргевіч, сын земскай абывацелькі, вельмі прыстойны і распушчаны, ну і яшчэ пару. Якраз у гэтым годзе ў "бандзе" пачаў паволі праходзіць запал да футболу, на яго месца прыйшло нешта вельмі блізкае да класічнага хуліганства.

Збіраліся мы вечарамі на "Ферме" – так называўся квартал каля вакзала, поўны садоў і аднапавярховых драўляных домікаў. Яшчэ не запаліліся рэдкія ліхтары. За вакзалам неба ружавела ад Захаду. Хаваючыся пад платамі рухаліся немаведама куды і немаведама па што.

Драўляны дом быў павернуты да вуліцы доўгай, амаль сляпой сцяной. Здаецца, жыла тут нейкая вучаніца з пятага класа. Хапалі ўтраіх вялікі камень, разгойдвалі яго на руках і пазней з усёй сілы білі ім у сцяну. Пасля чаго на ўцёкі.

Станавіліся пад іншым домам, таксама з нейкай вучаніцай. Змяняючы галасы, выклікалі яе, выкрыквалі яе мянушку, рабілі дурнаватыя выдумкі на тэму яе ўяўных сімпатый.

Часам адчынялася акно, маці, сястра, дзед выгаворвалі нам, пагражалі, што пойдуць у школу. Мы качаліся са смеху. Бяспечныя, схаваныя ў цені навіслых дрэваў. Калі раптам што, "давалі газу".

Уцякалі па-гусінаму. Першы бег Ромак - старэйшы Здановіч. Жыллё дантыста, званок. Ромак ускочыў, націснуў званок. Уцёк, за ім наступны. Ускочыў, званок - у нагі. Я быў трэцім – тое самае, чацвёрты – тое самае. Астатнія рызыкавалі, што выкліканы воўк з лесу цапне іх за каўнер. Не цапнуў. Цешыліся за вуглом з той штукі, як бы была, Бог ведае якая, дасціпная і небяспечная.

У Лідзе былі сапраўдныя хуліганы: на Слабадзе. г.зн. за чыгуначнымі каляінамі, у квартале публічных дамоў, каля замка, на Закасанцы. Наведванне туды вечарамі не належала да прыемных спраў. Там і нажы маглі пайсці ў ход, маглі проста пабіць, і можна было нарвацца на дробны рабунак. Нашыя штукі нейкім чынам былі падобныя на тое ж, толькі былі цалкам або амаль цалкам нявіннымі.

Чаго ж мы хацелі? Пачуцця зграбнай каманды, кампаніі "файных хлопцаў". Самiх прыгод. Небяспекі,

але такой не залішняй. Папомсціць таварышкам, асабліва равесніцам, якія глядзець на нас не хацелі, вылучаючы тых старэйшых, якія з імі танцавалі.

У старэйшых класах кампанія стала нечым сярэднім паміж шайкай хуліганаў і суполкай кавалераўтанцораў. У форме чыста прыгодніцкай яна існавала вельмі коратка, акурат у час узросту мутацыі і адразу пасля яго. Калі кампанія пачала танцаваць, мае стасункі з ёю астылі, знайшоў іншае таварыства.

Лёсы кампаньёнаў склаліся па-рознаму. Балён знік мне з вачэй адразу пасля выпуску. Маргевіч пайшоў у школу падхарунжых кавалерыі. Бачыў яго неяк адзін раз, хваліўся, што ўжо меў другі трыпер. Здановічаў спатыкаў неаднаразова. Абодва пайшлі на палітэхніку. Цікава, у школе вучыліся сярэдне, старэйшы адставаў, малодшы Бронак апераджаў яго, але праваліўся на выпускных экзаменах. У палітэхнічным вучыліся добра, хоць і далей былі вялікімі авантурыстамі. У 1950 годзе пасля вяртання з Парыжа я наткнуўся на Бронка. ¨н працаваў у нейкім "Горадпраекце" ці ў нечым такім. Добра пра яго адзываліся. Знойдзеце яго прозвішча на ганаровай табліцы будаўнікоў Трасы W-Z, пры ўездзе ў тунэль з боку Віслы. Ромак на той час сядзеў, здаецца, за нейкую п'яную прыгоду. Потым і яго выпусцілі. Ужо колькі год зноў не ведаю, што з імі.

**Дэха і С-ка**

У сёмым класе вялікіх здарэнняў было без меры.

Перш за ўсё – група новых ці хутчэй старых другагоднікаў. Ніяк іх не абмінуць. Такі, напрыклад, Дэшынскі, галоўны звадыяш гімназіі, блізкі прыяцель Касоўскіх, швагроў самога Казлоўскага. Зрэшты, старэйшы з Касоўскіх, спакойнейшы – Вілюс – таксама застаўся на другі год. Быў аднак нічым пры Дэшынскім.

Дэшынскі, канешне, быў выключна прыстойным хлопцам. Высокі, з прыгожымі вачыма, з бездакорным профілем (падбародак лёгка выступаў "сапраўды", не "нібы", як у Шрэдара), атлетычны спарцмен і танцор. Дэшынскі гуляў у школьнай камандзе – у атацы – нават добра, але без запалу, быццам рабіў ласку. Затое на ўсіх забавах па-просту шалеў. "Цвіком" кожнай забавы ў нас быў катыліён, магчымасць для паненак прышпіліць сваёй сімпатыі стужку з кукардай, галавой паяца або прыгожай дзяўчыны, саву, арла. Наогул, нейкую цацку з шоўку. "Дэха" на такіх забавах выглядаў як навагодняя ёлка: столькі яму заўсёды навешвалі цацак.

Дэшынскі быў аб'ектам іх калектыўнага кахання, як дзе-нідзе настаўнікі. Наогул, тая жарсць калектыўнага кахання да аднаго і таго ж самца ці не даказвае выпадкам, што натуральным станам жанчыны ёсць патрэбнасць мнагажонства.

Гэта канешне жарт. Гэта спозненая на гадоў трыццаць помста жанчынам за звышмерныя сімпатыі да Дэшынскага са шкадаваннем да іншых.

Відавочна, што такія багатыя дары ў адной вобласці лёс кампенсаваў у іншых. Дэшынскі вучыўся не кепска, а жудасна. Сёмага класа, здаецца, не адалеў, а калі і адалеў, то да атэстата не дайшоў. У гісторыю ўвайшоў яго казус з гісторыяй. Сядзеў ён каля мяне. Казёл выклікаў яго, распытваючы пра правадыроў французскай рэвалюцыі. Рызыкуючы сваім існаваннем, шаптаў яму: "Рабесп'ер, Дантон". Не чуе раз, другі. На трэці пачуў, але недакладна: "Шэкспір, Дантэ!" – крыкнуў з трыумфам.

¨н пайшоў потым у лётчыкі. Адразу разбіўся на смерць.

Чаму гэтыя "новыя" з сёмага так кепска скончылі? Трапіўся там, напрыклад, чацвёрты яўрэйчык класны, Камянецкі. З дзіўным імем: Майрым. Усё, зрэшты, было ў ім дзіўнае. Іншыя яўрэі вучыліся добра або выдатна. Гэты вучыўся сярэдне або кепска. Невядома, адкуль з'явіўся. Праз пару месяцаў невядома як знік. Толькі праз колькі дзён аказалася, што на рэйках адной з чатырох калей, што вядуць да Ліды, знойдзена знявечанае цела. Не ведаю, як устанавілі, што гэта Майрым. Шапталі на вуха, што здзейсніў самазабойства. Адны гаварылі, што з кахання да найпрыгажэйшай гімназічнай яўрэйкі Марыам Рабіновіч, той, якая мела найвялікшыя блакітныя вочы, з усіх, якія я ў жыцці бачыў. Іншыя гаварылі, што з роспачы. Ці то двойку схапіў ад "Калясона", ці то " брыдкую" хваробу. Ці ў агуле было яму вельмі кепска. Мы нават не былі на пахаванні.

Быў яшчэ трэці: Станіслаў Максімовіч. І ён, і Дэшынскі належалі да найбольш баявых прадстаўнікоў "даўнейшага" сёмага класа, якія таўклі пры кожнай аказіі сваіх суседзяў, г.зн. нас шасцікласнікаў. Як некалі Камянецкага з Новай Вілейкі, так цяпер Максімовіча я ўзненавідзеў асабіста. Гэта не было цяжкім, хлопец меў аблічча брыдкае, як рэдка хто. Вялізарны, мясісты, чырвоны нос, на канцы неяк расшчэплены ў трубкі, нізкі і малы лоб, маленькія светла-блакітныя вочкі, аздаблёныя светлымі павекамі, высунуты падбародак з фіглярна неўласцівым нізам, вушы вялікія, вельмі чырвоныя. Малы, хадзіў хутка, выкручваючы насы вонку. Апрануты ў мундзір з самаробнага, кепска пафарбаванага сукна, у вечна падраных чаравіках – належаў да класных парыяў, тым цяжэйшых для вытрымання, што "файных", заўсёды ў добрым гуморы, якія пхаюцца, як ні ў чым не бывала да найлепшага таварыства, пра якое я, напрыклад, не адважваўся і марыць.

На пачатку дайшло паміж намі да некалькіх боек. ¨н не быў вельмі дужы, быў вядомы ў школе больш з-за лаянкі. Мы тузаліся пару раз без выразнага выніку. Аднойчы я над ім па-свінску пажартаваў. Сярод розных крытынскіх гімназічных забаў квітнела, напрыклад, такая: адзін выцягваў два пальцы, складзеныя як да прысягі, перад сабой, пазногцямі ўніз. Другі такімі ж двума пальцамі біў з усёй сілы першага. Я ніколі не мог зразумець, у чым палягае соль той забавы. Макс злавіў мяне раз і прымусіў, каб я падставіў пальцы. Але калі удар з усяго размаху падаў на тыя мае пальцы, я рэзка іх прыбраў, падставіўшы абцас чаравіка. Божа, што рабілася потым! Гэта была мабыць самая зацятая пагоня ў гісторыі школы. Як алень, я ляцеў па лесвіцах, калідорах малодшых класаў, ускочыў у гімнастычную залу, выскачыў праз акно.

Здаецца, якраз цвіў бэз. Ніколі нідзе я не бачыў бэзу такога прыгожага, як у садзіку той гімназіі. Бэз быў ружова-ліловы, з шыкарнымі гронамі, з-за якіх праз пару

дзён наогул не было відно лісцяў, толькі тыя кветкі.

Адзін з традыцыйных "вычынаў" банды як раз у тым і палягаў, што мы іх кралі, пералазячы цераз агароджу з калючага дроту, абманваючы сабак, даючы драла ад вартаўніка. Мы насілі іх тоўстымі вязкамі, кідаючы праз акно той з дзяўчын, якая як раз трымала акно адкрытым. Таму што яшчэ няважнай была канкрэтная персафінікацыя асобы, у якую меліся закахацца.

А з Максімовічам – хто ж мог прадбачыць, што ён станецца адным з найбліжэйшых мне людзей і нават пасля сваёй смерці, уласна паля сваёй смерці перад усім, застанецца мне ў свядомасці, станецца прататыпам...

Адным з першых вынікаў, тога сяброўства было перамір'е з паннай Калакшо. Максімовіч вучыўся кепска, але спяваў добра і граў у школьным аркестры на трубе. Не з таго, ні з сяго ён уцягнуў мяне ў хор. Аказалася, што слых я маю кепскі, але голас зносны. Калакшо велікадушна выбачыла мне выхадку ў пятым класе. Я патрапіў у першыя тэнары, Макс быў другі. Я і тут, як у футболе, быў сярэднім, лепшымі за мяне былі знакаміты Януціс, пазней саліст, ці Пячора, дасканалы бас, які зрабіў бы кар'еру спевака, калі б не вайна. Спявалі розную ерунду. Напрыклад: амаль цэлы год мучылі нейкую "буру" – "Расхадзілася на моры страшна бура, так, так, так, страшна бура!" Таксама - тувімаўскія "Два ветры", марш з "Фаўста" і паланез A-dur. Дзіўна, мелодый не памятаю, памятаю толькі рытм.

**Выхадкі**

Сёмы клас быў класам найбольшых выхадкаў. Сям-там (апавяданне "У будзе" з тому "Выпадак у Красным стваве") я распавёў ужо вельмі дакладна пра ўрокі гігіены, што праводзіў доктар, які сапраўды называўся Візгерд, жыў у доме пад велізарнымі ліпамі тут жа каля гімназіі і памёр праз год. Але выраблялiся і іншыя штукі. Пра адну прыпомнілі мне толькі год таму назад, пры спатканні з некалькімі таварышамі. Сам не ведаю, для чаго – пэўна, каб супраць нечага там запратэставаць, калі паланіст (не Неснар) даў нам тэму класнай работы і выйшаў, Шрэдар і я ўзлезлі на кафедру і па чарзе прадыктавалі класу з'імправізаваную напрацоўку. Быў вялікі скандал, расследванне, прыгоды, паніжэнне балу за паводзіны ўсяму класу. Вінаватых аднак не знайшлі і махнулі на нас рукой.

Я пастаянна пісаў вершы, пастаянна вельмі няважныя. У астатні раз закахаўся ў дзяўчыну старэйшую за сябе. Называлася Сакаловіч, Ванда, мела мілы акруглы роцік, жыла на Маргах і нічога пра мяне не ведала. У апошні раз – бо якраз мы пачалі бываць на так зв. "прыватках" – пачалі на нас звяртаць увагу дзяўчынкі з чацвёртага і пятага класа, да якіх мы адносіліся пагардліва. Іхнія энергія і здольнасці арганізацыйныя прывялі ў канцы да ўтварэння нейкага субстрату банды, але змешанай, мужчынска-жаночай. Уласна нешта такое пачало тварыцца ў нас у класе. Была канешне свая "пачка" Дэшынскага, Касоўскіх і паненак з восьмага класа, у нашым асобную пачку змайстравалі Здановічы, непрыкметна нешта падобнае пачало рабіцца вакол Шрэдара, Максімовіча і мяне.

Цырыманіял быў просты: у суботу, пасля абеду збіраліся ў адной з паненак. Прыходзіла з тузін моладзі абодвух палоў. Пасля даўгаватага перыяду цырымоній пераходзілі да забаў. Канешне, фанты, плёткі, сапсаванны тэлефон. Паступова даходзілі да "смялейшых" забаў, стаўкай у якіх быў пацалунак: кармленне галубкоў, і ўжо канешне лістаноша. Гэтае апошняе панны прымалі пісклівым пратэстам, пасля чаго згодна саступалі. Выкліканыя аднак у цёмныя сені, найчасцей не карысталіся з аказіі, наадварод давалі зацяты адпор, магчыма, зрэшты, што мой досвед ёсць вузка індывідуальны. Танцавалі мала: патэфоны былі яшчэ рэдкасцю. Здаралася нават, што падыгрывалі танец на грэбені. Пачастунку не давалі, найвышэй гарбатка з пончыкамі ці хрустам уласнай работы. Залатой парой для прыватак быў канешне час карнавалу.

Дырэктарам гімназіі ў той час быў высокі, тоўсты мужчына ў пенсне, з лысінай авінутай рэшткамі валасоў, які пазываўся Паслаўскі. Ненавідзелі яго гуртом, і то з нагод не штодзённых: краў ад нас таварышак. Было такіх некалькі, на якіх звяртаў сваю звышмерную, на наша ўяўленне, увагу. Рабіў, напрыклад, вельмі часта школьныя забавы, каб магчы з імі танцаваць. Адбываліся тыя балі ў гімнастычнай зале. Школьны аркестр рэзаў на сцэне, у адным з класаў быў гардэроб, у другім - буфет. Было весела. Паслаўскі цэлы час танцаваў з адной са сваіх сімпатый або з другой. Адна была вельмі брыдкая, другая вельмі ўзбуджальная, абедзве аднак мелі ў твары, у вачах нейкі як бы сігнал сваёй дачаснай даспеласці. Вельмі гэта нас нервавала, высільваліся, каб зрабіць Паслаўскаму якое-небудзь паскудства.

Яшчэ школьны гуфец (атрад). Ужо мабыць другі год хадзілі ў ім. Шэфам быў сын вартаўніка, ужо па выпуску, Кашчыц. Моцны, рухавы, прыроджаны падафіцэр. Ажно дзіўна, што стаў ксендзам. Не было гэта кепска, той атрад. Асабліва на былыя святы, на 3 траўня ці 11 лістапада. Мы маршыравалі ў калону па чатыры з сапраўднымі карабінамі на пасе. У тым якраз годзе я рос вельмі інтэнсіўна, некалькі разоў паміж восенню і вясной муселі мяне пасоўваць наперад, пакуль не размясціўся на памежжы першай і другой чацвёркі. Ззаду звыкла тупаў Левінсон.

Яшчэ дробязь: выбары ў сейм. Адбыліся яны ў сакавіку. Аж дзіва, як мала мяне закранулі. Папярэднія з Новай Вілейкі, здаецца, болей засталіся ў памяці. Былі 22 лісты. Дома гаварылі смутна нешта пра ліст № 3. На гэты раз дома нічога не гаварылі, акрамя бурчання супраць Пілсудскага. У школе быў нейкі пункт галасавання, поўна афішаў. Потым, нашмат пазней, я давеадаўся, што тыя выбары былі моцным махам краю ўлева. У гэты год першы раз заўважыў шмат шуму каля 19 сакавіка, імянін "Вялікага Маршалка"

**Над Нёманам**

Вясна прыйшла выключная. Якраз у гэтым годзе бацька давёў да завяршэння сваю мару жыць на вёсцы. Гэта пачалося ўжо год назад. За дваццаць з нечым

кіламетраў ад Ліды быў распарцаляваны (падзелены) на вайсковае асадніцтва безгаспадарны маёнтак. Зямля была жудасная: пясок і трохі лугоў, якія штогод заліваліся Нёманам. Але якраз Нёман прыцягваў. Бацька згадзіўся, участак яму выдзелілі, купіў недзе па-суседству сялянскую хату, якую яму разабралі, перавезлі на новае месца і пачалі ставіць. Я паехаў нават на ровары, каб гэта ўсё агледзець. Ехаў якраз каля аэрадрома, шаша была добрая, потым некалькі кіламетраў лясоў, балотаў кустоў, потым вёска Мінойты, трохі высокага бору і паварот налева, на пясчаную дарогу, якая пхалася пад гору полем поўным жыта, з-за якога ўставаў самотны, магутны ельнік.

Вяршыня таго лагоднага ўзгорка. Аказалася, што за ім прытулілася цэлая вёска Пескі. Гэты ельнік рос проста пры хаце. Далей балоцістыя лугі, адзін мост цераз Лідзейку, потым другі цераз безымянны ручай, некалькі адрэзкаў “нямецкай” шашы, пабудаванай у час вайны з круглякоў, нізкарослыя, сасновыя лясы.

Ехаў бадзёра, латва і хутка. Пейзаж не захопліваў: кусты і нізнія паўжывыя ад гарачыні сасёнкі, здушаныя сівымі барадамі лішаёў. Гэтая сухасць, гэтая беднасць прынеслі мне не мала перажыванняў.

Але вось адзін і другі паварот, і раптам выбухае зелень. Гушчыня алешын, воўчай ягады. Магутныя дубы, загайнікі маладой, яшчэ ружовай асіны, беразнякі. Гэта ўсё расступаецца, абрыў, унізе вада, за ёй буйныя лугі, як ангельскі парк, бо з прыгожа расстаўленымі адзіночнымі дубамі велізарных памераў.

Гэтае месца называлася Банева. Дастаткова было ўгледзець, каб закахацца. За лугамі яшчэ ж быў Нёман, хуткі, свежы, з асляпляльна белымі пляжамі і грамадамі старых дрэў па абрывах.

Паглядзеў на дом. Падаўся мне малым. Было поўна стружак. Павярнуў назад.

Дзіўна, але дарога назад была д’ябальскі цяжкай. Я выехаў з дому без нічога: ані гроша, ані крошкі хлеба – такой блізкай здавалася мне тая выправа. Цяпер зразумеў, чаму мне так латва ехалася над Нёманам: з ветрам. Быў паскудны, паўночны, парывісты. Схіліўшыся над кіраўніцай неяк узяў пагорак за Пескамі. Аднак на шашы язда стала сапраўднай мукай.

Я па-просту аслабеў ад голаду. Хвілінамі не мог ехаць, падаў у роў, ляжаў блізкі да непрытомнасці. Потым уставаў, пхаў ровар, валокся, было гэта лацвей, чым сядзець на сядле і круціць. Калі аказаўся ў горадзе, заскочыў да першага лепшага з сяброў, выжабраваў кавалак хлеба і толькі потым паехаў дадому.

Гэта было ў 1927 годзе. Цяпер дом быў гатовы, сям’я пераехала туды на пачатку траўня. Я быў там раз ці два. Прыгожа, не апісаць: маладыя лісты на дубах, такія чулліва ружовыя, такія поўныя кантрасту з шурпатай бурасцю дубовых галін. Масава цвілі канваліі. На жаль, таксама масаваляталі камары. Хата складалася з вялікага памяшкання, падпёртага ўсярэдзіне акруглым стаяком (грубкай), адзетым ў памалёваную на зялёна бляху. Тут размяшчаліся спальня, сталоўка, дзяціны пакой, салон – кожны займаў цвэрць памяшкання пачынаючы ад стаяка. Збоку была кухня, таксама вельмі ўтульная, поўная закаморкаў. Ганак з сенямі, вяранда з другога боку. Адразу каля вяранды звычайны лес. Нешта надзвычайнае.

Банева на той час было яшчэ пустое. Недзе далёка, за паўтара кіламетры, стаяў так зв. Асяродак, г. зн. рэшткі даўнейшага маёнтка, нешта з роду двара. Вялікі, счарнелы будынак стайневага кшталту і пару абор ці гумнаў. Было гэта брыдка, бо на ветры і без зелені, за выключэннем некалькіх напалову ўсохлых ад старасці пірамідальных таполяў. Там нехта жыў. Тут жа каля нас жыў такі самы асаднік, г.зн. мужык Лявончык. Той ужо і зямлю нават упарадкаваў і зацята вынішчаў у сябе ўсялякія ляскі, загайнікі, гайкі. Нарэшце за Асяродкам размяшчалася асада нейкага Ляшчынскага, паручніка ваенкамата, які бацьку на гэта ўсё падгаварыў. Быў гэта руды пан з хітрымі вачыма. Маці яго не выносіла, цвердзечы, што ён некалі бацьку ў нешта ўпхне. І ніяк не памылілася.

Гэта было ўсё. Гэта значыць нічога ў параўнанні з буйнасцю прыроды. Найбліжэйшая вёска Ганчары – цераз тры кіламетры за спорай рэчкай, што ўпадае ў Нёман, Дзітвой. З другога боку вёска Дакудава за пяць з гакам. На тым беразе таксама за пару кіламетраў, шкляная гута “Нёман”. А пасярэдзіне лес, кусты, лугі, Нёман, цудоўныя азёрцы, вельмі мала ворнай зямлі, людзі, жывёла.

Пасля заканчэння школьнага года перасяліўся ў Банева і я. Не шмат памятаю з таго першага наднёманскага лета, зрэшты і не ўсё хацеў бы запамінаць. Памятаю агульнае: сонца, зелень, пустка, вельмі хутка прыйшоўшая нуда. Таварышы прыязджалі да мяне – то той, то гэты, на пару дзён, тыдняў. Вылежваліся на дзіўных мелях наднёманскага пяску. Цягаўся па ваколіцах, надаючы ўсяму, што адкрыў выдатныя ўласныя імёны. На другім беразе Нёмана, плоскім і нецікавым, які ўвесь быў у ядлоўцавых зараслях, мы знайшлі дзіўны, стромы, колькімятровы пагорак Ахрысцілі яго “Акудыш”. Не без падставы, але мала важнай. Пры дарозе да Ліды цягнуліся разлеглыя зараслі ядлоўцу і бярозак, на пышным, цвёрдым, шаляснівым дыване баравых плантацый. За імі падымаліся невысокія пясчаныя выдмы (дзюны). Былі бачныя здалёку. Выглядалі пры дробцы фантазіі на сапраўдныя горы. Назваў іх Месяцавымі гарамі. Каля іх маленькае балотца ў нізіне, як бы наўмысна выкапанай: Жабін рай (Жабірай).

Каля дарогі на Дакудава было пару копчыкаў, найбольшы з якіх называўся Шведскім. Нешта ў тым было: у 1705 годзе перапраўляўся тут са сваёй арміяй Карл XII, здаецца нават ледзь не ўтануў. Шукалі тут скарбы: нізіна была напаўзасыпана. Над Нёманам ёсць іншыя гістарычныя помнікі: нямецкія бетонныя бункеры. У 1915 годзе якраз тут праходзіла лінія фронту.

Пад восень усю нашу сям’ю агарнула грыбаманія. Баравікоў і рыжыкаў тут было поўна. Знаходзілі іх нават на падворку, каля самага дома. У недарослым ляску на нашай дзялцы мы неўзабаве знайшлі дзясяткі баравіковых месцаў, пра якія можна было толькі марыць, адбываліся спаборніцтвы, устанаўлівалі рэкорды. Восенню мы вярнуліся ў Ліду з бочачкамі салёных рыжы-

каў, батарэяй слоікаў з маладымі баравікамі ў воцаце, з вянкамі сушаных, з цэлым мяшком добрых лясных арэхаў, на якія якраз быў ураджай.

**Восьмы клас**

Усякі восьмы клас мае нейкае сваё аблічча. Пару гадоў таму назад быў гэта клас паважных мысляроў, на чале са слынным Станіславам Пачынскім, які здабыў славу ва ўніверсітэце як той, хто вывучыў на памяць увесь Крымінальны кодэкс. Потым быў клас элегантаў. Потым клас ніякі. Мы пачалі таксам досыць ніяка, пазней аднак вымалявалася аблічча досыць асаблівае.

З некалькі "пачак" (групаў), якія паўтвараліся ў сёмым класе, большасць рассыпалася. Дэшынскі застаўся на другі год, старэйшы Касоўскі, праўда, перайшоў, але ролі ў класе не адыгрываў, тым больш што яго брат пайшоў ужо ў універсітэт "Банда" таксама была раздроблена. Ромак Здановіч застаўся на другі год. Іншыя яе чальцы, Балон, Маргевіч адваліліся яшчэ раней, сам Бронак таксама нічога не значыў.

Неўзабаве аказалася, што адзіная, якая пратрывала – гэта была наша пачка: Шрэдар, Максімовіч і я, і таму мы ўласна і пачалі задаваць тон у класе.

Тон той быў неаднастайны. Шрэдар меў схільнасці інтэлектуальныя. "Хадзіў" з Маслінскім, нават цяпер, калі той прыязджаў з Вільні, здраджваў нам са сваім белабрысым Юзям, за што мы з Максімовічам былі вельмі зайздросныя. Я цягнуў у бок спорту і звычайнага падлеткавага свавольства. Максімовіч, старэйшы за нас на два гады, меў ужо цалкам не падлеткавыя зацікаўленні супрацьлеглым полам, някепска танцаваў і, нягледзячы на сваю брыдкасць, папіхаў нас у бок дзяўчат. Неўзабаве маці заўважыла тое для мяне заўчасна грубае і дарыла Стаха выразнай антыпатыяй.

Сварачыся зацята між сабой, мы былі з'яднаны супраць знешняга, і гэта давала нам неаспрэчную дамінантную пазіцыю.

Восенню перажыў досыць адметную прыгоду. Як я ўжо ўспамінаў, нехта з настаўнікаў з пэўным спазненнем напаў на думку, каб вылечыць мяне ад абыякавага стаўлення да навукі. Неспар пачаў да мяне чапляцца, Калесон таксама. Не памятаю ўжо, за чвэрць ці за паўгода атрымаў дзве двойкі. Па польскай і па матэматыцы. Быў страшна расстроены. Супала гэта з нейкім чарговым візітам Маслінскага. Шрэдар з той аказіі ўчыніў д'ябальскі абразлівую дэманстрацыю на тэму маёй "паэтычнай" пісаніны. У суме я паддаўся таму націску недабразычлівай думкі і згадзіўся, што я нічога не варты фанфарон.

**Якса- Быкоўскі**

Якраз у той час наведаў наш клас нейкі прафесар Якса-Быкоўскі з Познані, які праводзіў сярод нас трэніроўкі на памяць зрокавую, механічную і лагічную, слухавую, а таксама на назіральнасць, дакладнасць думання і ўяўлення. Мы ўжо пра тое забыліся, калі ён з'явіўся паўторна з вынікамі.

Выйшлі пры гэтым дзіўныя рэчы. Некалькі класных лідараў ці падлідараў – як Левінсон ці Клебан – у агуле не адыгралі вялікай ролі. Някепска выступіў Шрэдар. Гэты праславуты раззявака і цямця заняў першае месца ў механічнай зрокавай памяці, другое ці трэцяе ў нейкай інакшай памяці і, што найдзіўней, – першае ў назіральнасці . У той апошняй я быў другі, у механічнай – трэці. Затое я меў два першыя месцы ў пазасталых памяцях, у дакладнасці думання, нарэшце ва ўяўленні. З-за тога апошняга Якса-Быкоўскі ўпаў у пэўны пафас. Даследаваў ён выпускнікоў ва ўсіх гімназіях Віленшчыны. Агульны ўзровень нашай быў сярэдні, ніжэйшы за віленскія, вышэйшы за Маладзечна, больш-менш такі як у Ашмянах. Толькі па адной пазіцыі Ліда перамагла Вільню: менавіта па тым маім уяўленні.

Якое цудоўнае пачуццё агарнула мяне тады. Адчуваў сябе так, як праз два гады, калі стаў чэмпіёнам Ліды па скачках увышыню (157см). Або трэцяе месца у брыджавым турніры ў Сант-Морытцы праз васямнаццаць гадоў, або першае месца ў турніры па шахматах Саюза пісьменнікаў праз дваццаць сем гадоў.

Якса вельмі мной зацікавіўся. Распытваў пра далейшыя жыццёвыя планы. У той час, пераканаsuccessfully Шрэдарам і Маслінскім (не наўпрост, але пасрэдна, праз пагардлівую ацэнку мяне з усіх паважных размоў) у маёй інтэлектуальнай няздольнасці, я рыхтаваўся на хімію, палітэхніку ці ва ўніверсітэт, сам яшчэ не ведаў. Якса заахвочваў мяне да паланістыкі. Я горача дзякаваў за параду, застаючыся пры сваёй думцы. Як ні дзіўна, але пасля ад'езду Яксы я пачаў пачувацца на шмат іначай. Двойкі зніклі неяк самі па сабе, без ніякіх асаблівых высілкаў з майго боку. Нават на забавах прайшла ў мяне трохі падлеткавая нязграбнасць.

У сярэдняй чвэрці восьмага класа мы ладзілі ўласныя забавы ў чыгуначным цэнтры, у вялікай драўлянай зале каля вакзала, або галоўным чынам у недаступным раней Коле полек на Сувальскай

Было гэта пацешнае памяшканне, рэлікт недалёкай вайны 1918-1920 г. Нейкая там жаўнерская сталоўка перарадзілася ў нешта, што хацела б стаць клубам абывацеляў, але паколькі Ліда ні на клуб, ні на абывацеляў (ні ў сэнсе вайсэнгофаўскім ні ў брандысаўскім) не цягнула, выйшла з тога нікчэмная забягалаўка на другім паверсе камянічкі, зачадзелая прыпаленым алеем ці свінінай, у суботу аднак грымеўшая вальсамі і абэркамі. Канешне, нам яна падавалася верхам элегантнасці. Нават сам Маслінскі- не гледзячы на знаходжанне ў Вльні! – не ўмеў вызваліцца ад чараў таго Кола. Калі на адной з такіх "суботак" у шалёным абэрку змылілася ў яго нага, і ён грымнуўся разам з партнёршай на падлогу, сарваўся выскачыў на лесвіцу і хацеў здзейсніць самагубства. Прызнаўся нам асабіста, узбуджаючы тым вялікае здзіўленне, што ўстрымаўся перад такім радыкальным крокам, дзякуючы больш глыбокаму, філасофскаму стаўленню да жыцця. Можа таксама з-за адсутнасці неабходнай "тэхнічнай базы" ў выглядзе агнястрэльнай зброі або якой інакшай.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ



**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў 1-шы том энцыклапедыі “Культура Беларусі”, 704 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, выйшала кніга Славаміра Антановіча “Ушедшие в бессмертие” 416 ст. Наклад 1500 асобнікаў.**




**У Вільні ў выдавецтве “Воля”, выйшала кніга Леаніда Лыча “Нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі на тэрыторыі функцыянавання нямецкага акупацыйнага рэжыму (чэрвень 1941 - ліпень 1944 г.”. 288 ст. Наклад 100 асобнікаў.**




**У Інстытуце беларусістыкі (Вільня) і Беларускім гістарычным таварыстве (Беласток) выйшла кніга Конрада Бабятынскага “Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654 - 1655 гг.)”. 172 ст.**




**У рэдакцыі часопіса “ARCHE”выйшла кніга Кшыштафа Касажэцкага “Кампанія 1660 году ў Літве”. 330 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Літаратура і мастацтва”, выйшала кніга Леаніда Дайнекі “Назаві сына Канстанцінам” 448 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




***Ліда, вул Качана. Лядовы палац.*** *Здымак С. Судніка.*




***Ліда, вул. Качана. Спартовы комплекс “Алімпія”.*** *Здымак С. Судніка.*